—Людзьмі звацца!
Янка Купала

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЛіМ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ПЯТНІЦА
21
МАЯ
1993 г.

№ 20 (3690)

КОШТ
3 рублі

# Час, вытканы ў прасторы

*Нарадзіўся ў Расіі, вучыўся на Украіне, але на трывалы грунт яго талент стаў на Беларусі. 13 мая мастаку Аляксандру Кішчанку споўнілася 60 год, з іх — роўна палова аддадзена нашай зямлі. Фактычна ўсё творчае жыццё. Ён мае ўсе падставы ганарыцца зробленым за болей чым трыццаць гадоў — намаляваным на палатне, выкладзеным мазаікай, вытканым ніткамі. На выставах мы сустракаемся з ягонымі палотнамі, бачым ягоныя манументальныя пано на гарадскіх пляцах, а габелены — у інтэр'ерах грамадскіх будынкаў. Апошні з ягоных вядомых твораў /адразу ж, дарэчы, залічаны ў класіку беларускага мастацтва/ — габелен для штаб-кватэры ААН у Нью-Йорку. Сёння па эскізах Аляксандра Міхайлавіча робіцца габелен, якога яшчэ, мабыць, не было ў свеце. Памеры — 17 на 14 метраў. На гэтай прасторы мастак малюе Час: нашу эпоху, нашу краіну, нашу Зямлю.*

В.БОГУШ



# КОЛА ДЗЁН

*У які абсурдны час мы жывём! Колькі вакол нас «дзівосаў», да якіх мы прывыкаем і навот перастаём заўважаць. Але часам пачуеш нейкае паведамленне і нібы токам праніжа: да чаго мы дажыліся... Зараз гаспадары з вёсак Ганцавіцкага раёна не здаюць малако дзяржаве, як раней, а спойваюць яго... свіням. Закуп малака ў насельніцтва практычна спынены, бо расходы на яго дастаўку большыя, чым даходы ад продажу... Расійскі цэнавы «беспредел» найперш адчулі на сабе нашыя вяскоўцы. З райцэнтраў перасталі хадзіць у аддаленыя вёскі рэйсавыя аўтобусы — няма паліва, па той жа прычыне ў іх не возяць хлеба. Нічога. Беларускі селянін прывычны да ўсяго. Пражыве ён без паездак у райцэнтр, пражыве і без хлеба, не прападзе ў яго і малако. Абясцэньваецца сёння не яно, абясцэньваецца вера ў нашую дзяржаву, у нашую дзяржаўнасць наогул.*

### СУСТРЭЧА ТЫДНЯ

Пасля доўгіх размоў і спрэчак на тэму: якой быць Садружнасці Незалежных Дзяржаў кіраўнікі краін нарэшце ўзяліся за эканамічныя праблемы. Галоўным вынікам сустрэчы 14 траўня ў Маскве стала падпісанне Дэкларацыі, у якой усе дзяржавы СНД выказаліся за стварэнне эканамічнага саюза. Адпаведны блок з 25 дакументаў будзе падрыхтаваны да 1 ліпеня. Падагульняючая прэс-канферэнцыя паказала, што самі кіраўнікі дзяржаў пакуль мала ўяўляюць сабе, якім будзе гэты эканамічны саюз і ці будуць ставіцца нейкія ўмовы пры ўступленні ў яго. Адна рэч прымушае задумацца ў сур'ёзнасці збудавання, што называецца СНД — лёгкасць, з якой кіраўнікі іншых дзяржаў аддаюць прыярытэт у Садружнасці беларусам: спачатку Мінск назвалі сталіцай СНД, потым каардынатарам СНД /па-новаму — выканаўчым сакратаром/ абралі І.Каратчэню, а зараз кіраваць эканамічным судом СНД прызначылі Л.Дашука. Ёсць у гэтым поўным даверы Беларусі — поўны недавер СНД. Вам не здаецца?

### ВІЗІТЫ ТЫДНЯ

Рэспубліканскія газеты пад загалоўкам «Перагаворы былі плённымі» надрукавалі справаздачу аб выніках візіту ўрадавай дэлегацыі Рэспублікі Беларусь у ААЭ і Індыю. Як памятаецца, не менш плённымі былі і папярэднія паездкі кіраўнікоў нашае дзяржавы ў Кітай, Турцыю, Карэю, Францыю, Нямеччыну... і г.д. Гэта добра, што «мы усталёўваемся ў свеце як незалежная суверэнная дзяржава, якая жадае мець сваю палітычную пазіцыю, сваё месца ў сусветнай эканамічнай інтэграцыі». Аднак народ, які аплачвае паездкі высокапастаўленых турыстаў, хацеў бы бачыць вынікі візітаў не ў выглядзе газетных справаздач, а ў зменах да лепшага ў сваім жыцці.

### ПУБЛІКАЦЫЯ ТЫДНЯ

Напярэдадні сесіі ВС Беларусі старшыня парламента С.Шушкевіч выступіў у друку з артыкулам-тлумачэннем сваёй пазіцыі адносна захавання Беларуссю нейтралітэту і адмаўлення ад уступлення рэспублікі ў ваенныя і ваенна-палітычныя саюзы. Адзін за другім грунтоўна і доказна разбіты ўсе аргументы за падпісанне дагавору аб калектыўнай бяспецы, што былі выказаны ў выступленнях В.Кебіча, П.Краўчанкі, П.Казлоўскага, М.Грыба, Д.Булахава, Л.Прывалава і інш. на мінулай сесіі. Прайшоў тыдзень. Апаненты на публікацыю апаратыўна не адрэагавалі.

### ЦЫТАТА ТЫДНЯ

«Мы живем в долг. Задолженность за энергоносители перед Россией движется к 300 млрд. руб., а это по 30 000 на каждого жителя республики. Я не удивлюсь, если правительство вынесет на сессию требование погасить зарубежные валютные кредиты за счет бюджета. А это более 600 млн. долларов, по курсу 900 рублей за доллар, получаем ещё 70 000 рублей. Итого на каждого, включая новорожденных — 100 000 рублей... Скоро по долгам надо будет платить. Уже прозвучало предложение на президиуме Совмина заложить нефтепроводы. А что дальше? Земля, леса, дороги? Похоже, нас хотят сделать палестинцами на собственной земле».

*/З артыкула народнага дэпутата Беларусі В.Малашкі «Невыносимая беспечность бытия» ў «Народнай газеце» за 19 траўня г.г./*

### «РАДАСЦЬ» ТЫДНЯ

Трэцяе сёлета павышэнне мінімальнай заработнай платы, што аб'яўлена на гэтым тыдні, выклікае не радасць, а невясёлы роздум, альбо проста смутак: інфляцыя прагрэсіруе. У красавіку 1993 года ў параўнанні са снежнем /!/ 1992 года кошт уключаных у мінімальную «спажывецкую карзінку» тавараў і паслуг узрос у 2,5 раза. Цэны растуць, большасць — цішком, без аб'яўлення і тлумачэнняў. І толькі транспартнікі пакуль аб'яўляюць аб павышэннях афіцыйна і загадзя. Дарэчы, праезд у мінскім гарадскім транспарце пазаўчора каштаваў 5 рублёў, а сёння ўжо 10.

### НЕДАЎМЕННЕ ТЫДНЯ

«ЛіМ» адмоўна сустрэў рашэнне БНФ аб адмаўленні ўдзельнічаць у правядзенні З'езда беларусаў свету. Аднак апошняя інфармацыя пра пасяджэнне рэдакцыйнай камісіі рабочай групы па падрыхтоўцы З'езда нас засмуціла і прымусіла падумаць: а ці не меў рацыю БНФ? Цалкам сур'ёзна паведамляецца, што вызначана назва асноўнага даклада, які прагучыць на форуме, — «Нацыянальная ідэя і адбудова беларускай дзяржаўнасці», што ўдзельнічаць у яго напісанні запрошаны вядомыя дзеячы сучаснага беларускага адраджэння, у тым ліку і нашыя суайчыннікі з-за мяжы. Пра тое, хто будзе «зачытваць даклад» — не гаворыцца. Можа, запрасіць дыктара БТ? А наогул ад інфармацыі пра падрыхтоўку да З'езда павеяла духам застойных часоў.

### СОРАМ ТЫДНЯ

Пад пагрозай закрыцця аддзяленне беларускай мовы і літаратуры ў Віленскім педагагічным універсітэце. Міністэрства культуры і асветы Летувы, якое фінансуе універсітэт, пастанавіла, што сёлета набору студэнтаў не будзе, аддзяленне закрыць, а для тых, хто хоча вучыцца па-беларуску, пакінуць спецыялізацыю «беларуская мова і літаратура» на рускім аддзяленні... Прычына простая — няма грошай. Сенат педуніверсітэта зацвердзіў рэкамендацыю ў міністэрства, а пытанне беларускага аддзялення пакінуў адкрытым: маўляў, калі самі знойдзеце грошы — аддзяленне будзе, паведаміў карэспандэнт БелаПАН у Летуве. Грошы знайшліся б, калі б родная дзяржава /Беларусь/ была для беларусаў Летувы маці, а не мачыхай. Наш урад, пэўна, чакае пакуль да яго звернуцца афіцыйна, і тады ён «разгледзіць просьбу».

**ПАРЛАМЕНЦКІ ДЗЁННІК**

# ПРОЦІСТАЯННЕ

## На XII чарговай сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

З самага пачатку сесія не пайшла па шляху, прапанаваным Прэзідыумам ВС — пачаць работу з абмеркавання праекта Закона аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у дзеючую канстытуцыю, затым абмеркаваць праект новай Канстытуцыі, а ўжо пасля гэтага выпрацаваць канчатковы парадак дня сесіі. Большасць дэпутатаў настаяла на тым, каб пачаць сесію з папунктнага зацвярджэння парадку дня. На гэта пайшло ранішняе, дзённае і вячэрняе пасяджэнні. Сказаць, што зацвярджэнне 63 пытанняў, вынесеных Прэзідыумам ВС на разгляд вышэйшага органа ўлады, праходзіла эмацыянальна, значыць не сказаць нічога. Галасаванне па большасці пунктаў ішло ў жорсткім процістаянні розных дэпутацкіх груп, з узаемнымі папрокамі і абвінавачваннямі. Пракамуністычная большасць парламента паставіла сваёй мэтай не дапусціць абмеркавання на сесіі пытанняў, якія б маглі парушыць парадак рэчаў, што склаўся ў рэспубліцы яшчэ ў часы камуністычнага панавання.

Так, большасцю галасоў здымаецца з парадку дня пункт аб праекце закона аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі. Не набралі неабходнай колькасці галасоў такія пункты парадку дня, як праекты заканадаўстваў аб адвакатуры, жыллёвым кодэксе, бібліятэчнай справе, прыватызацыі дзяржаўнай маёмасці, палітычных партыях.

Вакол апошняга пытання разгарэлася гарачая дыскусія, з якой можна было зразумець, што некаторыя дэпутаты ўсім сваім жыццём, выхаваннем у павазе толькі да адной партыі — камуністычнай, аніяк не могуць усприняць такую рэаліо, як шматпартыйнасць. Затое гарой паўсталі на абарону ўрадавай пастановы аб персанальных пенсіях «за асобыя заслугі перад рэспублікай». Прапанова дэпутатаў дэмакратычнай арыентацыі разгледзець на сесіі пытанне аб скасаванні адыёзнай пастановы, якая адраджае асуджаныя грамадскасцю прывілеі верхняга эшалона ўлады, «змагары» за народнае шчасце правалілі. Як тут не ўспомніць, што гэтай пастановай у лік «персанальнікаў» былі ўключаны і народныя дэпутаты...

Запомніўся і такі эпізод. Пасля чарговай заявы ад мікрафона дэпутата А. Лукашэнкі аб тым, што мае на руках ліст дырэктароў і рабочых некаторых прадпрыемстваў рэспублікі, у якім яны патрабуюць зняць з абмеркавання сесіі пытанне аб прыватызацыі дзяржаўнай маёмасці, Старшыня Вярхоўнага Савета з сумам заўважыў, што ні Расія, ні іншыя краіны СНД не пажадаюць аб'ядноўвацца ў адным эканамічным саюзе з Беларуссю, якая марудзіць з правядзеннем рыначных рэформ.

Тая ж думка прагучыць і ў выступленні лідэра парламенцкай апазіцыі БНФ З. Пазняка. «У адрозненне ад многіх краін блізкага замежжа, — скажа ён, — наша рэспубліка працягвае жыць у каманднa-адміністратыўнай сістэме». Зянон Станіслававіч усклаў віну за гэта на пракамуністычны антырэфарматарскі ўрад, ухарашную партдзяржнаменклатуру, якая пануе ў кіруючых структурах улады ўсіх узроўняў. Лідэр апазіцыі прапанаваў на бягучай сесіі скасаваць прынятыя ў свой час Вярхоўным Саветам пастанову аб адмене рэферэндуму і пастанову аб дазволе на легальную дзейнасць КПБ-КПСС, якая сёння выступае супраць незалежнасці Беларусі, яе культуры, мовы, дзяржаўных сімвалаў.

Як і трэба было чакаць, прапанова З. Пазняка была сустрэта воклічамі абурэння пракамуністычна настроеных дэпутатаў. І сапраўдным фарсам прагучала выступленне дэпутата, дарэчы, члена палітвыканкома партыі камуністаў Беларусі М. Качана, які патрабаваў ад Вярхоўнага Савета... забароны БНФ, які, маўляў, змагаецца супраць... суверэнітэту рэспублікі! Не больш, не менш...

Слухаў гэтага народнага абранніка, а перад вачыма паўставала ўбачаная раніцой на плошчы Незалежнасці такая карцінка: насупраць Дома ўрада стаяў пад чырвонымі сцягамі невялікі, але крыклівы натоўп. На плакатах і транспарантах значылася: «Не — буржуазнай канстытуцыі!», «Далоў прыватызацыю!», «Не — прыватнай уласнасці на зямлю!».

Побач сіратліва стаяла яшчэ меншая купка людзей пад двума-трыма бел-чырвона-белымі сцягамі і з адным адзіным плакатам, які абвяшчаў: «Ваенсаюзаў нам не трэба, лепш уволю масла і хлеба!».

Успомніўся зусім недалёкі час, калі на гэтую плошчу выходзілі дзесяткі тысяч людзей, якія ў адзіным парыве віталі адыход у нябыт таталітарнай сістэмы, віталі новую, вольную, дэмакратычную Беларусь. Тады мала хто рызыкнуў бы прыйсці сюды з чырвоным сцягам...

Куды ўсё гэта знікла? Народ стаміўся, расчараваўся ў дэмакратыі? Дык жа яшчэ фактычна і не запахла. Жыццё цяжкае? Дык жа ў Расіі яно цяжэйшае, а, тым не менш, у буйных гарадах там і сёння збіраюцца пад дэмакратычнымі сцягамі сотні тысяч людзей.

Сярод некаторых нашых палітолагаў бытуе думка, што наша краіна апошнім часам прыкметна «паправела», што бяруць верх тут кансерватыўныя сілы. Яно, пэўна, і сапраўды так. Апытанне жыхароў Беларусі аб тым, як бы яны адказалі на чатыры пытанні расійскага рэферэндуму, паказала, што ў нас і сам Ельцын, і яго эканамічная палітыка атрымалі б на цэлы парадак галасоў менш, чым у Расіі. Большасць рэспандэнтаў фактычна салідарызавалася з пракамуністычным расійскім парламентам. Ёсць над чым задумацца...

А пакуль што ў зале пасяджэнняў Вярхоўнага Савета Беларусі па абодва бакі ад дзяржаўнага бел-чырвона-белага сцяга перад позіркам народных абраннікаў паўстаюць у сваёй сярпаста-малаткастай красе два гербы — неіснуючага Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік і таксама неіснуючай Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. А перад Домам урада па- ранейшаму кліча нас у светлую будучыню бронзавы Ільіч.

**Міхась ЗАМСКІ**

# БЗВ: БІТВА ЗА ВОЙСКА

## Нататкі з адной прэс-канферэнцыі

У жніўні 1991 года, калі генералітэт Беларускай ваеннай акругі чакаў з Масквы загаду вывесці танкі на вуліцы беларускіх гарадоў, падпалкоўнік Мікалай Статкевіч быў з нарадам на плошчы перад Домам урада. 8 верасня 1992 года на той плошчы, якая нарэшце стала плошчай Незалежнасці, ён, стоячы пад Дзяржаўным сцягам Рэспублікі Беларусь, зачытваў тэкст Вайсковай прысягі. І тысячы людзей паўтаралі за ім гэтую ўрачыстую клятву. Сёлета 21 сакавіка ён ішоў на чале харугваў Беларускага Згуртавання Вайскоўцаў па праспекце Францішка Скарыны. Гэтае шэсце пад лозунгам «Народ, барані сябе сам» прадэманстравала ўсім, хто мае вочы, што БЗВ — гэта не нейкая там купка авантурыстаў, як спрабавалі прадставіць гэты рух бальшавікі з Міністэрства абароны, а шырокі патрыятычны рух, з якім прыхільнікі «обновления Союза» і «коллективной безопасности» не могуць не лічыцца. Рэакцыя Міністэрства абароны была хуткай /хай бы яно так вяртала нашых грамадзян з «гарачых кропак»/. Міністр генерал Казлоўскі публічна, па радыё, абразіў БЗВ, параўнаўшы сяброў гэтай арганізацыі з гітлераўскімі штурмавікамі, а з трыбуны Вярхоўнага Савета галоўны чыноўнік абароннага ведамства заявіў, што праз дзесяць дзён БЗВ у войску не будзе. Вярхоўны Савет з падачы МА прыняў пастанову, якая ўвогуле забараняе вайскоўцам займацца палітычнай дзейнасцю /раней забарона распаўсюджвалася толькі на службовы час, пасля службы хоць капай бульбу на лецішчы, хоць на мітынгу прамаўляй — твая асабістая справа/. І хоць БЗВ ніколі не было палітычнай партыяй, а выключна патрыятычна-асветніцкім рухам, афіцэры асабовага складу Узброеных Сіл — сябры БЗВ, каб захаваць сябе для войска і Беларусі, спынілі членства ў згуртаванні. Гэты крок, зразумела, не абароніць патрыётаў ад рэпрэсій з боку бальшавізаваных генералаў, але ж і знішчыць БЗВ адным ударам міністэрства не змагло. Што ж, наскок не атрымаўся — будзе аблога...

Старшыня Беларускага Згуртавання Вайскоўцаў падпалкоўнік Статкевіч выходзіць з БЗВ не стаў. «Калі б я пакінуў шэрагі БЗВ, — растлумачыў ён, — гэта азначала б, што прызнаём правільнымі абсурдныя абвінавачванні ў наш адрас». Ён ведаў, на што ішоў, ведаў, якая будзе рэакцыя на гэта ў генерала Казлоўскага і тых, хто стаіць за генералам. Так і здарылася. Загадам міністра абароны падпалкоўнік Статкевіч, спецыяліст вышэйшага класа, кандыдат навук, афіцэр з бездакорнай службовай характарыстыкай, звольнены з Узброеных Сіл Беларусі. Прычым са зневажальнай фармулёўкай — «за дыскрэдытацыю высокага звання афіцэра». З такой фармулёўкай з войска гоняць лайдакоў, алкаголікаў і злодзеяў.

Развагі пра афіцэрскі гонар з вус-

## БУДЗЬМА РАЗАМ!

**Сёння цяжка жыць усім нам. Штодзённыя клопаты і турботы, мітусня, што зараз называецца жыццём, з'ядаюць увесь вольны час. Спыніцеся! Падумайце, што вы яшчэ не зрабілі? Так — не падпісаліся на «ЛіМ». Не ствараЙце ж для сябе дадатковы дыскамфорт — яго і без таго хапае ў нашым жыцці, не адкладвайце на заўтра тое, што трэба зрабіць сёння! Падпішыцеся на «ЛіМ» зноў. Вызвальце сябе ад беганіны па кіёсках у пошуках сваёй любімай газеты. Парайце выпісаць «ЛіМ» сваім калегам і знаёмым. Зрабіце прыемны падарунак коштам усяго ў 240 рублёў сябру ці сяброўцы, далучыце іх з дапамогай «ЛіМа» да беларушчыны.**

**Будзем жа разам!**
**Наш індэкс — 63856**

СУСТРЭЧЫ

# АПОШНІЯ ДНІ ЎЛАДЫ САВЕТАЎ?

***Сустрэчы старшыні нашага парламента з недзяржаўнымі рухамі і структурамі частымі не назавеш. А сітуацый, калі б першая асоба дзяржавы брала ўдзел у такіх мерапрыемствах не толькі для забеспячэння «вышэйшага ўзроўню», а ў якасці непасрэднага ўдзельніка, прыпомніць наогул цяжка...***

На мінулым тыдні праўленне рэспубліканскага Фонду падтрымкі дэмакратычных рэформ запрасіла С.Шушкевіча для таго, каб разам абмеркаваць пытанні падрыхтоўкі і правядзення рэформы органаў мясцовай улады на Беларусі. Па сведчаннях выступаўшых на сустрэчы дэпутатаў мясцовых Саветаў найбольш дрэннае становішча з самакіраваннем склалася ў раённых Саветах гарадскога падпарадкавання і гарадскіх Саветах раённага падпарадкавання. Гэтыя структуры існуюць і будуюць сваю дзейнасць паводле адпаведнага закона былой БССР, які, нібы той двухаблічны Янус, з аднаго боку сцвярджае, што згаданыя органы ўлады з'яўляюцца гаспадарамі ў сваём рэгіёне і падпарадкоўваюцца толькі выбраўшым іх дэпутатам, а з другога — і вышэйстаячаму савету.

На думку ініцыятараў сустрэчы, скасаванне прамежкавых звёнаў у гэтай сістэме павінна быць першым крокам да рэформы мясцовага самакіравання.

— Колькі ў вас памочнікаў? — звярнуўся з пытаннем да кіраўніка дзяржавы старшыня Слаўгарадскага гарадскога Савета Ф.Шкірманкоў. І, атрымаўшы адказ, што адзін, прапанаваў прысутным лічбу «шэсць». Менавіта столькі іх у старшыні райсавета. Практычнай жа аддачы ад дзейнасці гэтага органа выбаршчыкі не бачаць.

Канцэптуальна ўсе прапановы фонду аформлены як праект раздзела Канстытуцыі, прысвечанага самакіраванню. Мяркуецца двухзвённая сістэма дзяржаўнага кіравання — «рэспубліка — рэгіён /горад, раён/» і выканаўчы орган як канчатковае звяно гэтага ланцуга. Бальшавіцкія «саветы» саступяць месца натуральным для нашай мовы радам, у руках якіх будзе засяроджана ўся ўлада ў рэгіёне.

Пагадзіўшыся з большасцю выказаных палажэнняў, С.Шушкевіч, аднак, заўважыў, што не ўсё з прапанаванага павінна прэтэндаваць на ўключэнне ў Канстытуцыю. Ёсць сэнс асобныя пункты ўвесці ў другія асноўныя законы, бо закон пры выпадку змяніць прасцей. Акрамя таго, Вярхоўны Савет, па словах яго старшыні, наўрад ці пагодзіцца з альтэрнатыўным праектам гэтага раздзела Канстытуцыі.

Надзвычай шчыра і нават прамалінейна адказваў Станіслаў Станіслававіч на пытанні. Так, на пытанне аб яго адносінах да рэформ «каманды Кебіча» быў дадзены адказ: «Ніякіх рэформ няма».

Аб сваёй палітычнай і грамадзянскай пазіцыі старшыня парламента сказаў так: «Я ўвесь час імкнуўся знайсці паразуменне з усімі, але зараз паўстала пытанне «з кім я?» Адказваю: я з Беларуссю, бо я патрыятычна арыентаваны чалавек!»

І яшчэ адно сцвярджэнне спікера, «забытае», або змякчанае большасцю нашай прэсы: «Урад узяў на ўтрыманне шэраг газет і шэраг дэпутатаў, ён добра ім плаціць...» А яно ж дае *спажыву для роздуму.*

**Яўген ЛЮТЫ**

З ПОШТЫ ТЫДНЯ

# І ЎСЁ Ж ГЭТА АКЦЫЯ...

Мяне ўразіла інфармацыя ў «Народнай газеце» і «ЛіМе», а таксама па радыё «Свабода» пра абрабаванне кватэры святара Яна Матусевіча і жорсткае збіццё гаспадара /падазраюцца «гастралёры» з поўдня/. Інфармацыя была скупая, газеты за гэтым злачынствам палітычнай акцыі не бачылі. Я вельмі шкадаваў, што не мог наведаць айца Яна, бо і сам пасля цяжкай траўмы не зусім стаў на ногі. Але 10 траўня, пераадольваючы недамаганне, я ўсё ж прыехаў да яго ў бальніцу. І ўсе мае думкі і меркаванні, пытанні і здагадкі, якія з'явіліся ад азнаямлення з газетнай і эфірнай інфармацыяй, пасля маёй размовы з ахвярай нападу не зніклі, наадварот, яны яшчэ больш узмацніліся і завастрыліся.

Адразу адзначу, што айцец Ян не толькі уніяцкі святар, але і — у першую чаргу — актыўны дзеяч беларускага Адраджэння. І таму ён мне, ахрышчанаму ў праваслаўі /дадам — у аўтакефальнай царкве/ значна бліжэй за многіх і многіх праваслаўных беларусаў, што не шануюць беларушчыну.

З гутаркі з айцом Янам я зразумеў, што тыя так званыя «гастралёры» /хто б яны ні былі па нацыянальнай прыналежнасці/ былі наведзены на кватэру Я. Матусевіча. Паміж сабой бандыты /іх было трое/ гаварылі на незразумелай для ахвяры мове; да гаспадара ж былі толькі такія словы: «Молчи, шакал неверный!». Паўстае пытанне: для каго няверны? Для ісламу? Але ж такое больш можна чуць у іх, мусульман, дома. А калі гэта былі не мусульмане, а каўказцы-хрысціяне? Але навошта ім няверных шукаць у Мінску? Дык, можа, няверны для маскоўскага праваслаўя на Беларусі? Далей. Налётчыкі ў кватэры нічога /радыё- і відэатэхнікі, адзення і г. д./ не ўзялі, апрача залатога *пярсцёнка і дзвюх пяцірублёвых залатовак.* Праўда, пасля іх візіту ў кватэры быў поўны гармідар — усё было перавернута. Ізноў пытанне: што ж яны ўсё-такі шукалі і пра што не пыталіся ў гаспадара, якога на развітанне пырнулі ў твар нажом? Гэта да таго, што звязалі яго і бязлітасна білі.

Пасля, калі налётчыкі зніклі /двое — праз дзверы, адзін — праз акно/ і суседка выклікала міліцыю і хуткую дапамогу, апошнія прыбылі толькі праз пяцьдзесят хвілін. Чарговае пытанне: чаму так не хутка? І чаму міліцыя адмаўляе, што адзін з налётчыкаў выскачыў праз акно? І яшчэ. Адбылося ўсё гэта 3 траўня, за дзень да пачатку міжнароднай канферэнцыі перакладчыкаў біблії, якая праходзіць з 4-га па 13-га траўня гэтага года ў епархіяльным упраўленні праваслаўнай царквы, дзе айцец Ян госць, відаць, не вельмі пажаданы за сваю шчырую беларускасць. На гэты ж раз туды ён быў запрошаны біблейскім таварыствам. *Ці няма і тут сувязі з нападам?* Цяжка верыць у яго выпадковасць у краіне, дзе большая частка Вярхоўнага Савета і амаль увесь урад не хаваюць, мо нават афішуюць сваю варожасць да ўсяго беларускага. А «лица кавказской национальности» — гэта ці шырма, ці найміты.

Неабходна дадаць яшчэ вось што. Напярэдадні гэтага драматычнага здарэння уніяцкую царкву наведалі некалькі незнаёмых мужчын, якія развязалі там дыскусію і вельмі актыўна адмаўлялі беларускую мову і неправаслаўную царкву /яны не былі «лицами кавказской национальности»/. А ў часе службы ў сваім казанні айцец Ян, як заўсёды, смела выказаўся па адрасу чырвона-карычневых і ворагаў беларушчыны.

Вось чаму я і лічу, што ўсё-такі гэта была акцыя, скіраваная ў бок беларуса-дэмакрата Яна Матусевіча.

**Яўген ГУЧОК,**
**старшы рэдактар выдавецтва «Народная асвета»**

# ГРАМАДА ПРАПАНУЕ

13 мая адбылося пасяджэнне выканкама Цэнтральнай Рады БСДГ. Выканкам адзначыў, «што палітыка урада Рэспублікі Беларусь, якая ў апошні час накіравана на павелічэнне знешняга доўгу і адмову ад бязвыплатнай прыватызацыі, вядзе да далейшага збяднення насельніцтва і перакладае вынікі пралікаў урада на плечы простых людзей, якія не толькі застануцца без уласнасці, але і трапяць у даўжнікі па сумніцельных валютных аперацыях.

У сувязі з гэтым выканкам ЦР БСДГ лічыць неабходным:

1. У кароткі тэрмін правесці незалежную экспертызу ўсіх валютных праектаў урада.

2. На чарговай сесіі Вярхоўнага Савета паставіць пытанне аб рэалізацыі урадам зацверджанай вышэйшым заканадаўчым органам улады канцэпцыі прыватызацыі, згодна з якой 50 працэнтаў прыватызуемай уласнасці павінна быць перададзена грамадзянам бясплатна».

# «ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ» НА ЛЬВОЎШЧЫНЕ

Пачынаючы з сакавіка два разы на месяц выходзіць у эфір дваццаціхвілінная беларускамоўная перадача «Весткі з Беларусі» на Львоўскім радыё. Вядзе яе наш зямляк у Львове Барыс Цімошчанка разам са сваёй жонкай Таццянай.

На жаль, у перадачы больш навін з жыцця беларусаў Львоўшчыны, чым з Бацькаўшчыны. Звязана гэта з тым, што арганізатары працуюць ў інфармацыйным вакууме: няма беларускіх газет, часопісаў. Пры падрыхтоўцы блоку навін даводзіцца карыстацца інфармацыяй «другога гатунку»: з маскоўскай прэсы.

Для таго, каб паправіць заганны стан, у якім апынуліся «Весткі з Беларусі», у Мінск на мінулым тыдні прыязджаў старшы рэдактар міжнародных праграм абласнога Львоўскага радыёаб'яднання Сцяпан Паповіч. Дасягнута пагадненне аб абмене інфармацыяй з Беларуссю. Пакуль жа гэта сістэма не запрацуе, Б. Цімошчанку даводзіцца «круціць» у эфіры беларускія песні...

**Я. Л.**

АНОНС

# НА НАСТУПНЫМ ТЫДНІ

З 21-га па 23-га мая ў Мінску будзе працаваць міжнародная навуковая канферэнцыя «Балты і этнагенез беларусаў», якую арганізаваў цэнтр этнакасмалогіі «Крыўя». Такая канферэнцыя мелася адбыцца на Беларусі яшчэ дваццаць гадоў таму, але ў апошні момант па загадзе ЦК КПБ была адменена з прычыны таго, што яна «ўбівае клін у дружную сям'ю брацкіх славянскіх народаў».

Сённяшняя канферэнцыя ў пэўнай меры — працяг гістарычнай спробы знайсці адказы на пытанні этнагенезу нашай нацыі.

●

З 24-га па 29-га мая пройдзе XV Міжнародны мендзялееўскі з'езд па агульнай хіміі і хімічных праблемах экалогіі. Бяруць у ім удзел Японія, ЗША, Італія, Германія, Канада, Англія, Польшча.

●

З 25-га па 28-га мая адбудзецца 1-я рэспубліканская выстава «Абаронная прамысловасць і канверсія-93». Свае навінкі прапануюць ПА БелОМА, МТЗ, БелаўтаМАЗ, НВА «Агат» і НДІ ЭВМ Рэспублікі Беларусь.

●

27-га мая ў мястэчку Койданава /Дзяржынск/ пройдзе канферэнцыя маладых палітыкаў.

●

У гэты ж дзень у Гародні пройдзе канферэнцыя па стварэнні абласной арганізацыі ТБМ імя Ф. Скарыны.

●

29-30 мая будзе працаваць III з'езд БНФ «Адраджэнне», на якім будуць разгледжаны пытанні аб статуце і праграме руху. Не выключана, што на ім будзе афіцыйна абвешчана аб стварэнні партыі Беларускага народнага фронту, якая запрацуе з пачаткам выбарнай кампаніі.

●

У гэтыя ж дні пройдзе з'езд ПКБ, які павінен канчаткова аформіць «уступленне» КПБ у ПКБ.

●

25 мая ў Доме літаратара адбудзецца сустрэча з мастаком Міхасём Філіповічам. У праграме — сустрэчы з мастакамі творчай суполкі «Пагоня» і прагляд кінафільма ТА «Тэлефільм» «Адлучэнне».

**Для «ЛіМа» падрыхтаваў Паўлюк БЫКОЎСКІ, WIS.**

наў генерала Казлоўскага гучаць досыць дзіўна. Войска зверху данізу прасякнута карупцыяй, распрадаецца і раскрадаецца вайковая маёмасць. Злоўленыя за руку злодзеі ў пагонах у лепшым выпадку спакойна звальняюцца ў адстаўку, а часцей спакойна працягваюць служыць /і — красці/.

У войску ідзе «бітва за войска», дзе з аднаго боку — патрыятызм і высакароднасць, з другога — Міністэрства абароны.

Пра гэта і многае іншае ішла гаворка на прэс-канферэнцыі, якую 14 траўня наладзілі ў Доме літаратара Беларускае Згуртаванне Вайскоўцаў, грамадскі камітэт «Вяртанне», грамадскі камітэт па барацьбе са злоўжываннямі і карупцыяй. Сярод вядучых прэс-канферэнцыю быў старшыня Каардынацыйнай рады БЗВ М.Статкевіч, старшыня камітэта «Вяртанне», народны дэпутат Г.Сямдзянава, намеснік старшыні Камітэта па барацьбе са злоўжываннямі і карупцыяй У.Савянок.

Зразумела, што ў цэнтры ўвагі журналістаў быў лёс падпалкоўніка Статкевіча і БЗВ увогуле. Падпалкоўнік адзначыў, што калі прытрымлівацца літары прынятага закона, дык войска павінны былі б пакінуць палкоўнік Гайдукевіч, які ўзначальвае так званы «Народны рух Беларусі», што аб'ядноўвае шэраг палітычных партый антыбеларускага кірунку; партый, якія адкрыта выступаюць за скасаванне беларускай дзяржаўнасці, якія на сваіх мітынгах і ў сваіх выданнях адкрыта абражаюць дзяржаву, Дзяржаўны сцяг, Дзяржаўны герб. Трэба было б пайсці з войска і палкоўніку Паўлаву, народнаму дэпутату, а разам з ім і ўсім астатнім вайскоўцам, што працуюць у структурах заканадаўчай улады ад раённага Савета да Вярхоўнага. Ды і сам генерал Казлоўскі трапляе, бадай, пад уласны загад, бо Міністэрства абароны ўдзельнічае ў распрацоўцы дзяржаўнай палітыкі. Але пра іх гаворка не ідзе...

Падпалкоўнік Статкевіч лічыць, што ўдар па БЗВ прама звязаны з кампаніяй за далучэнне Беларусі да «коллективной безопасности». Трэба дыскрэдытаваць афіцэраў-патрыётаў Беларусі, паказаць, што войска падтрымлівае ідэю ваеннага блока з Расіяй. Таму па-ранейшаму развязаны рукі ва ўсялякіх «славянских соборов» і «союзов офицеров», а БЗВ падвяргаецца рэпрэсіям.

Але БЗВ існуе і дзейнічае. У бліжэйшых планах — святкаванне 49-й гадавіны вызвалення Беларусі ад фашысцкіх акупантаў, 583-й гадавіны Грунвальдскай бітвы, і, канечне ж, — Свята Беларускай вайсковай славы 8 верасня.

Шмат пытанняў датычылася магчымага ўдзелу Беларусі ў сістэме «коллективной безопасности». У сувязі з гэтым нагадаем, што прэзідэнт Расіі Б.Ельцын адназначна трактуе ўдзел у гэтай сістэме як удзел у «міратворчых сілах». Так што абяцанні прэм'ера Кебіча аб тым, што ніводны беларускі салдат не трапіць у «гарачыя кропкі», нічога не вартыя. «Косю, косю — пакуль у аглоблі», а там... Спачатку батальён, потым полк, дывізія. Пад акампанемент разваг, што — як жа не ўзяць удзел у высакароднай справе, тым болей, што ў той ці іншай «гарачай кропцы» жывуць і нашы землякі...

Г.Сямдзянава паведаміла прысутным аб перашкодах, якія стварае ўлада для дзейнасці камітэта «Вяртанне»; як цяжка азнаёміцца з дакументамі аб узаемным вяртанні на радзіму сваіх грамадзян, падпісанымі Беларуссю з шэрагам дзяржаў СНД. Грамадзяне Беларусі, якія сёння канчаюць расійскія ваенныя вучэльні, вымушаны падпісваць кантракты на службу ў Расіі. Бо ўрад Беларусі, Міністэрства абароны рэспублікі не цікавяцца іх лёсам. Але афіцэр-расіянін, падпісваючы такі кантракт, ведае, колькі ён будзе служыць, дзе і на якой пасадзе. На беларусаў гэтыя ўмовы не распаўсюджваюцца, яны будуць служыць там, куды пашлюць, і на пасадзе, якую дадуць.

У снежні 1991 года знік у Нагорным Карабаху грамадзянін Беларусі, афіцэр КДБ. На прамое пытанне дэпутата Сямдзянавай, чаму КДБ Беларусі не шукае свайго супрацоўніка, чаму не маюць дзеля гэтага кантактаў з адпаведнымі ведамствамі Азербайджана, старшыня КДБ спадар Шыркоўскі адказаў: «Так что же вы хотите? Это же мусульмане!» Зразумела, «Восток — дело тонкое», але калі гэта так, дык чаго ж урад цягне нас у ваенны саюз з гэтымі «мусульманамі»?

Фактычна, канстатавала Г.Сямдзянава, усё робіцца для таго, каб не вяртаць нашых землякоў на радзіму, нават калі яны маюць тут кватэры, калі ёсць магчымасць прадаставіць ім пасады, адпавядаючыя званню і кваліфікацыі. Міністэрства абароны не зацікаўлена, каб Беларусь мела нацыянальную армію...

Такая вось карціна на «полі бою» за Беларускае войска — было адзначана на прэс-канферэнцыі.

**П.ВАСІЛЕЎСКІ**

З ПОШТЫ «ЛіМа»

## БАЛЮЧА!

Нехта з вядомых нашых паэтаў, здаецца, Пімен Панчанка ў час Вялікай Айчыннай вайны, звяртаючыся да Бацькаўшчыны, пісаў: «Я кроў да апошняе кроплі пралью, каб толькі табе палягчэла». Сардэчныя, шчырыя словы! А сёння хіба не той час, калі палымяным словам трэба заваёўваць Бацькаўшчыну? Як гэта робяць народны пісьменнік Васіль Быкаў у сваёй публіцыстыцы і народны паэт Ніл Гілевіч. А між тым некаторыя нашы «інтэлігенты» нападаюць на змагароў за адраджэнне Бацькаўшчыны, яе культуру, мову.

А за ўсё гэта трэба іменна змагацца, асабліва перадавой часткі інтэлігенцыі, пісьменнікам, а яны, у большасці сваёй, маўчаць. Ды не толькі радавыя, а нават некаторыя народныя. А ў такі пераломны момант трэба ўздымаць свой голас, як гэта рабіў вялікі Купала, а маладым вучыцца ў дваццацігадовага Сяргея Палуяна.

Балюча!

**С. МІТРАХОВІЧ,**
**ветэран вайны і працы**

*г. Мінск*

## БЕЗ БОГА Ў ДУШЫ...

Паважаная рэдакцыя! Хачу падзяліцца сваімі ўражаннямі ад мітынгу, які адбыўся на плошчы Незалежнасці ў дзень Свята працы 1 мая ў Мінску. На душы ў мяне дужа нядобра, і ўзнікла шмат пытанняў.

Па-першае. Хацелася б ведаць, па якім прынцыпе размяшчаліся на плошчы Незалежнасці грамадскія арганізацыі? І што гэта за такая арганізацыя «Славянскі Сабор» і чаму яна мела прыярытэтнае права стаяць у першых радах, ля самых мікрафонаў?

Па-другое. Чаму ў нашай незалежнай рэспубліцы дазволены ўсялякія абразы на адрас беларусаў?

Хто б ні выступаў, ці гэта быў рабочы, ці прафесар універсітэта, ці паэт, але калі гэта выступленне было на беларускай мове, спадары са «Славянскага Сабора» крычалі: «Полицейская шкура», «продажная тварь», «рвите бел-чырвона-белыя флаги». Выкрыкі на ўсю глотку, мацнейшыя за дынамікі, заглушалі прамоўцу і збівалі з думкі.

Я лічу, што на дэманстрацыях, мітынгах павінен быць парадак, і нельга дапускаць падобных выпадаў нават тады, калі на тваім плакаце першым словам напісана «Бог», як гэта было на сцягу «Славянскага Сабора». І каб у нас была сапраўды прававая дзяржава, то, думаецца, адпаведныя службы за знявагу выступаючых у прысутнасці такой колькасці сведкаў далі б хуліганаў хоцьбы ашрафаваць, каб другі раз ім не захацелася б зневажаць людзей.

Я не сумняваюся: каб хоць хто-небудзь запярэчыў «славяністам», то пачалася б бойка, было б тое ж, што і на мітынгу ў Маскве. Прабачце мне, можа, я і не так разумею слова «свабода», але такая «свабода слова» можа абярнуцца «свабодай дзеяння».

**А. ВАЖНІК,**
**жыхар г. Мінска**

## ВОПЫТ СУСЕДЗЯЎ МОЖА ПРЫДАЦЦА...

У 5-ым нумары «Інформаційного збірника Міністерства освіти України», які толькі што патрапіў да работнікаў асветы Украіны, змешчана распараджэнне за N 119-11 Міністэрства асветы Украіны «Про вивчення мов та літератур у навчальних закладах України» за подпісам першага намесніка міністра асветы А. Г. Погрібнага. Лічу, што ён павінен зацікавіць і грамадскасць на маёй Бацькаўшчыне — Беларусі. Чаму? Ды таму, што да развалу савецкай імперыі сітуацыя з вывучэннем моў і літаратур як на Украіне, так і ў Беларусі абсалютна нічым не адрознівалася. І калі ў Беларусі не так шмат змянілася і зараз, то на Украіне мяняецца ў гэтай справе сітуацыя, на мой погляд, да лепшага, і пацвярджэннем маіх слоў — прыгаданае распараджэнне за нумарам 119—11...

Пачынаючы з 1 верасня 1993 года канчаецца абавязалаўка вывучаць рускую мову, што ж тычыцца рускай літаратуры, то толькі 20 % праграмнага матэрыялу былога самастойнага курса «руская літаратура» ўвайшло ў інтэграваны курс «літаратура народаў свету», які да таго ж чытаецца на дзяржаўнай, украінскай, мове!

Але вернемся непасрэдна да распараджэння больш падрабязна. У ім, у прыватнасці, адзначаецца, што выпускнікі агульнаадукацыйнай сярэдняй школы павінны валодаць 3—4 мовамі. Гэта павінны быць: родная, дзяржаўная, замежныя /славянскія, рамана-германскія, усходнія/. Ва ўкраінскіх школах, мова навучання якіх супадае з дзяржаўнай, мэтазгодна вывучаць не менш дзвюх замежных моў. Апрача рамана-германскай, па выбары навучальных устаноў можа быць якая-небудзь іншая мова, у тым ліку і руская. Далей у распараджэнні гаворка ідзе пра свабоду выбару замежных моў, як рамана-германскіх, так і іншых, і вывучаць рамана-германскія мовы патрэбна з 1—2 класаў, а славянскія — з 4—5 класаў. І далей: у неўкраінскамоўных школах /расейскіх, польскіх, венгерскіх і румынскіх/ пачынаць вывучаць дзяржаўную, украінскую, мову неабходна з 1 класа.

У распараджэнні гаворыцца пра вольны выбар грамадзянамі і вучэбнымі ўстановамі замежных моў для іх вывучэння. Так што зараз пасля прыняцця гэтага закона ні аб якім «двухмоўі» на Украіне не можа быць і гаворкі! У сітуацыі з дзяржаўнай, беларускай мовай, якая склалася на Беларусі, на мой погляд, трэба як мага хутчэй пераняць вопыт украінцаў, якія, спадзяюся, астудзяць «гарачыя» галовы, што патрабуюць статуса замежнай /рускай/ мове як другой дзяржаўнай мовы суверэннай дзяржавы. Усё пастаўлена на сваё месца: руская мова сёння на Украіне будзе мець такія ж правы, як і іншыя суседнія мовы: беларуская, польская, румынская, славацкая, чэшская — ні больш, ні менш. І гэта, я лічу, цалкам справядліва!

Дарэчы, у Кіеўскім універсітэце імя Т. Шаўчэнкі вядзецца падрыхтоўка выкладчыкаў беларускай мовы на аддзяленні ўкраінскай філалогіі. Так што ў некаторых школах Украіны замест рускай мовы можа загучаць мова Янкі Купалы. У 1-й жа школе Ізяслава, дзе я працую выкладчыкам рускай і польскай моў, мова Купалы гучыць ужо на працягу дзесяці год у гуртку «Мова нашых пабрацімаў». З гуртка яна можа і павінна перайсці ў клас. А каб гэта адбылося, патрэбны падручнікі беларускай мовы. Без іх ніводзін дырэктар школы не рызыкне даць «дабро» на пачатак навучання беларускай мове ў курсе "замежная" /славянская/ мова». Спадзяюся, што ў Беларусі знойдуцца людзі, якія падбаюць пра тое, каб і на Украіне ў школьных класах пачалося вывучэнне беларускай мовы. Калі хто з чытачоў газеты ці нейкая ўплывовая арганізацыя можа дапамагчы падручнікамі беларускай мовы для пачатковых класаў, букварамі, падручнікамі мовы для 5—9 класаў, просьба пасылкі з падручнікамі накіроўваць на адрас аўтара гэтага артыкула: Украіна, Хмяльніцкая вобласць, 281200 г. Ізяслаў, вуліца Незалежнасці, 21, кв. 2.

**Пятрусь КАПЧЫК,**
**філолаг**

## СУПРАЦЬ ЗЛІЦЦЯ КУЛЬТУР І МОЎ

Здаецца, мінулі часы, калі Вярхоўны суддзя ў Маскве, у імя свайго ўзвышэння, спрабаваў «казніць и миловать» натуральныя законы развіцця прыроды і грамадства. А ўсе астатнія абавязваліся толькі выконваць прадпісанні. Ажно не! Не мінулі.

Засталіся выканаўцы волі дэспатычнага самадзержца. Ці не таму і цяпер чуюцца заклікі да знішчэння беларускай культуры, да далучэння нас да «великой и могучей» Расіі, як быццам дзеля нашага прагрэсу. І цяпер яшчэ не ўсе пераканаліся, што ўсякае знішчэнне, усякае разбурэнне вядзе толькі да рэгрэсу.

Адзіная непраходзячая каштоўнасць чалавецтва — яго культура. Яна вырастае на нацыянальнай глебе. Культура кожнага народа — гэта асобная нотка ў хоры культур чалавецтва. Ці магчыма скласці прыгожую музыку з адзінай ноты? Вядома, нельга. Хутчэй, гэта будзе паравозны гудок: уцякай, растапчу! Але ці не да гэтага клічуць шавіністы, імперыялісты рознай масці, тыя, хто агітуе за адзіную мову на зямлі, за адзіную культуру? — не, гэта заклік да беднасці, да выраджэння чалавечага духу, да яго смерці. Жыццё і развіццё — толькі ў разнастайнасці.

Лозунгі, заклікі да зліцця нацый — шкодныя і фальшывыя. Фальшывыя таму, што кожны «інтэрнацыяналіст» патрабуе ад другіх народаў у імя інтэрнацыяналізму адрачыся ад сваёй мовы і культуры, а сам ён ніколі не адмовіцца ад рускай у імя той жа інтэрнацыянальнай еднасці з другімі. Такім чынам, «інтэрнацыяналізмам» толькі прыкрываецца звычайны рускі вялікадзяржаўны шавінізм і нішто іншае. Давайце ж называць рэчы сваімі імёнамі.

У апошні час знайшлі яшчэ адну «вечую шкуру» — «Славянскі Сабор». Выступаюць быццам у абарону славян, але імкнуцца стаць магільшчыкамі адной з вялікіх славянскіх культур, стаптаць нас рускім ботам. Ці не ясна, што няма тут нічога славянскага, а толькі руска-імперскае.

Няўжо наша роля, роля беларусаў, толькі ў тым, каб быць угнаеннем на карысць суседа?

**У. ЛЯСКОЎСКІ**
**педагог.**

*г. п. Шаркоўшчына*

# КРЫЛОЎ ТАКСАМА «ДУМАЎ ПРА БЕЛАРУСЬ»?

## *Паводле пошты артыкула «Шашаль мовы — калька»*

Чытачоў «ЛіМа» заўжды хвалявала ўсё, што звязана з роднай мовай — сферай яе ўжытку, функцыянаваннем, развіццём. Мова для іх не проста сродак камунікацыі, не штосьці вытворнае ад нацыянальнай свядомасці, а абсалютная і неад'емная каштоўнасць нацыі, наша візітная картка ў стракатым разнамоўі планеты. Вось чаму яны так абвострана ўспрымаюць факты афіцыйнага і бытавога ігнаравання беларушчыны, вось чаму ў пошце тыднёвіка пераважае дасюль «нацыянальнае пытанне». Гэты паток мог спарадзіць толькі паслядоўны моўны ўціск нашага этнасу, якімі б высокімі словамі пра дружбу і агульныя славянскія карані ён, уціск, ні камуфляваўся. Гіпертрафіраваная крыўдлівасць, у сваю чаргу, замінае цвярозай ацэнцы рэаліяў і выбару прыярытэтаў. Прыкладам — рэкамендацыі III з'езда ТБМ імя Скарыны па ўдасканаленні правапісу. Рэкамендацыі розныя — адны больш слушныя, другія менш, трэція і зусім спрэчныя, адно няясна — **для каго** яны? Для Інстытута мовазнаўства АН Рэспублікі Беларусь? Для заканадаўчых улад? Для ўсіх, хто мовай карыстаецца? З «Нашага слова» даведваемся, што яны прызначаны для дзяржаўнай камісіі, якая **«мае быць створана дзеля заканадаўчага ўрэгулявання беларускага правапісу»**. Пры гэтым друк увёў у зман грамадскасць, падаўшы рэкамендацыі пад гучным загалоўкам «Беларускі правапіс рэабілітаваны». Дзіўна і тое, што шырокую грамадскасць да абмеркавання ніхто не запрашае...

Ды грамада даўно і ахвотна дыскутуе і без асаблівага запрашэння. Прыйшлі водгукі, у прыватнасці, на артыкул Кастуся Цвіркі «Шашаль мовы — калька» /«ЛіМ», N 11/. Саму кальку чытачы абараняць не збіраюцца, аднак заклік пісьменніка не спяшацца, «па-гаспадарску агледзець усё, што маем», зразуметы не ўсімі. Р. Лядаховіч-Тамілін, напрыклад, піша: «Сучасную літаратурную беларускую мову трэба фармаваць, і неадкладна, не чакаючы каманды зверху, пакуль жывыя людзі, што нарадзіліся і засталіся беларусамі, а не «русскоязычным населением». І няхай у кніжках, у газетах квітнее разнамоўе, ад гэтага горш не стане. Не будзе парадку? Але хіба парадак — самамэта? Такі парадак — нават не шашаль, а смерць для мовы». Што ж да калькі, без якой не абыдзешся ў навуцы і тэхніцы, то рабіць яе пажадана не «са скажонага рускага назову і ягонае дэфініцыі, але непасрэдна з арыгінала». Аўтар допісу прапануе і лексічныя адпаведнікі для асобных слоў: **калейны** /прыпынак/ замест «наступнага», **направа** замест «рамонту», **засоб** замест «карыснага выкапня» і да т. п. Прынцып зразумелы: як мага аддаліцца ад рускай лексікі. Але ж і гэта не самамэта, каб да «макраступаў» так не дайсці...

З другога боку, нельга не пагадзіцца з думкай нашага чытача з Салігорска /на жаль, ён забыўся паведаміць прозвішча/, што бяда не столькі ў правапісе, колькі ў замене спрадвечна беларускіх слоў скалькаванымі адпаведнікамі тыпу савет, гаварыць, калясо, дагавор і інш. З мовы такім чынам вымываецца цэлы пласт старажытнай лексікі. «Дык што, будзем і надалей не дамаўляцца і раіцца, а дагаварывацца і саветавацца?» — пытае ён і спасылаецца на прыклад Украіны, якая і пры савецкім часе была Радзянскаю.

Іван Патапейка з Бабруйска іранізуе ў сваім лісце: яму падаліся непераканаўчымі такія аргументы К. Цвіркі, як «у нас у вёсцы так не кажуць» абс «ў дзяцінстве я гуляў у класы». Адраджэнне ён разумее выключна як вяртанне да «тарашкевіцы». Як і многія, «тарашкевіцу» ён лічыць **мовай**, хаця яна ўсяго толькі **правапіс**. Чыста лагічная падмена і вядзе, як мне падаецца, да непажаданага супрацьпастаўлення і звязаных з ім спрэчак.

**Рэпрэсаваная мова, класічная мова** — гучыць прыгожа, нічога не скажаш, але эмоцыя сама па сабе аргументам не з'яўляецца. Як нельга нарадзіцца дарослым, так не магла наша літаратурная мова ў 20-ыя гады сфармавацца ў класічную. Проста не паспела!

Трошкі бянтэжаць і пастаянныя нападкі на злашчасную «трасянку». Мо прыслухаемся да меркавання сучаснага нямецкага навукоўцы: ён лічыць, што «трасянка» выратавала беларускую мову. І сапраўды, сумяшчэнне моў усё ж больш прымальны варыянт, чым поўнае выцясненне адной мовы другою.

З разуменнем, як ён піша, успрыняў артыкул К. Цвіркі У. Ляскоўскі з Шаркоўшчыны: «Мы патанулі ў смецці калек — калек нашай мовы. Патанулі, бо жыццё ўжо такое, што мы мала калі чуем багатую, мілагучную і вобразную народную мову. Большасць часу ў нас на слыху мова сродкаў масавай інфармацыі ды службовых узаемінаў. А гэта значыць, што журналісты задаюць «моду», пасяхова «развіваюць» мову, спехам перакладаючы з рускіх тэкстаў». Пашырэнню калек-калек, на думку У. Ляскоўскага, спрыяе акадэмічны руска-беларускі слоўнік. На яго звычайна спасылаюцца ў рэдакцыях, калі туды звярнуцца з заўвагамі ці пытаннямі адносна мовы. «Ствараецца ўражанне, што толькі нам, старэйшым жыхарам заходніх абласцей, дзе русіфікацыя пачалася адно з 50-ых гадоў, пашчасціла ў дзяцінстве і маладосці зберагчы слых ад скалечанай мовы, таксама як і ад рускага мата, што чуваць цяпер на кожным кроку».

Мяркуючы па ўсім, разнабой у пісьмовым выкладзе беларускай літаратурнай мовы захаваецца яшчэ доўга, да сапраўднага кампрамісу пакуль далёка. І ўсё было б нічога, каб не безліч больш істотных на сённяшні дзень і жыццёва важных задач, вакол якіх чамусьці гэтак страсці не кіпяць. Беларусы зноў, на вялікі жаль, знайшлі не лепшае прымяненне сваім сілам, бо думаць, што вяртанне да старой моўнай традыцыі надасць нам самастойнасці і самапавагі, — мякка кажучы, наіўна. Неяк па-падлеткаваму сцвярджаемся, спадары. І за воз /пры адсутнасці дзяржаўнай цяглавай сілы/ бяромся з усіх бакоў адразу — як тры вядомыя героі вядомага рускага байкапісца.

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ**

***Беларусь і ёсць адно ідэальная*, пераважна ідэальная. Гэта адказ на скіраванае ў будучыню пытанне-сцвярджэнне Францішка Багушэвіча: «Гдзе ж цяпер Беларусь?» Таму пастаўленая «ЛіМам» задача не новая і азначае наступнае: ці можна стварыць ідэальную мадэль нацыянальнага космасу, якая б мела рэальны працяг, або: які культурны лад здольны стаць СУЧАСНЫМ, звязаным з практычным жыццём соцыуму? Урэшце, усе публікацыі «ЛіМа» і вакол «ЛіМа» занятыя прыватнымі пытаннямі ідэальнае Беларусі.***

БЕЛАРУСЬ ІДЭАЛЬНАЯ

Юрась ПАЦЮПА

# ДА ТРАДЫЦЫІ

Эсэ

Адказ заўсёды прыходзіць **паўз**, а не **праз** нашае ўсведамленне. Дзеля прыкладу возьмем перадгісторыю ўзнятага пытання. Нашаніўцы, амаль не ўсведамляючы таго, збудавалі рамантычную, этнаграфічна-сямейную мадэль культуры. Космасам была «*беларуская хатка*», *дзе і збіралася «радзіна»* /іншабыццё радзімы/. Гэта было сваяцтва не толькі ідэйна-культурнае, нярэдка нават звычайнае, крэўнае. /Яшчэ наперадзе справа біёграфа, складальніка дрэва-радаводу/. «Ня кіну я хаты, хоць вы мяне рэжце...», — піша далей Багушэвіч. Так, пад мілай столлю сабраліся і старыя і маладыя, ад Старога Уласа да Коласа і Купалы...

Не буду грунтоўна развіваць гэтую мадэль, адзначу толькі: новыя ўмовы прымусілі, каго раней, каго пазней, пакінуць хатку і выйсці «на прасторы жыцця». Далей будаўніцтва «калісьці распачатага гмаху культуры» /М.Багдановіч/ ішло ў інтэрнацыянальным катлаване. Агледзім жа руіны.

Недзе на мяжы 1990-91 гадоў скончылася перабудова. За той час паспелі прагрымець дыскусіі пра мову, пра вяртанне гісторыі, і зараз мы разумеем, што гэта толькі першаэлементы нацыянальнае супольнасці. І чым глыбей залягае гэты элемент, тым больш рэдукаваны, непрыкметны яго ўдзел у жыцці. Так, мова і тэрыторыя /зямля, глеба, прастора/, будучы асновамі Беларушчыны, на першы погляд, амаль не ўдзельнічаюць у адраджэнні, не ўплываюць на яго. Гісторыя і гістарычная памяць толькі вызначаюць нацыянальную прыналежнасць асобы. Далей павінна адбыцца разгортванне ўсіх праяў сучаснасці як свядома нацыянальных. Фактар свядомасці неадкладна вымагае паслядоўнае **ідэалогіі нацыяналізму**.

Неабавязковасць беларушчыны для большасці людзей абумоўлена тым, што любая нацыянальная «ідэя» не мае прапіскі ў вечнасці. Калі не для кожнага жыхара рэспублікі, *то для дзяржаўна-культурнае* ідэалогіі ўсё больш настойліва паўстае патрэба ў анталагічным абгрунтаванні нацыяналізму. Паспрабую даць парадыгму магчымых абгрунтаванняў. /Зусім не прэтэндуючы на іх паўнату і дакладнасць: гэта толькі першыя схемы, якія прыходзяць на розум пры аглядзе нашага пытання. — **Ю.П.**/

Навошта нацыянальная культура? — спытае любы сучаснік. І сапраўды: «Каб не ўмёрлі»? Але ж не памром, адкажа ён, толькі тады, калі будзе каўбаса. Матэрыяльны, страўнікавы, або, па-газетнаму, каўбасны фактар бессаронні да нацыяналізму, таму пакінем яго без увагі.

Найбольш старажытнае і на сённяшні дзень усё яшчэ існуючае абгрунтаванне нацыяналізму — **родавае**: так жылі, так размаўлялі мае дзяды, бацькі. Гэты аргумент у індывідуалістычнай цяпершчыне мала каго пераконвае, ужо ніхто не абавязаны і не лічыць патрэбным следаваць продкам. Родавае абгрунтаванне з'яўляецца аксіёмаю толькі ў традыцыйным грамадстве. Такія формулы, як «карані», «матчына мова» і да т.п., для масавага чалавека з'яўляюцца адно выхалашчанымі моўнымі штампамі, міфамі, вартымі іроніі.

Наступныя два абгрунтаванні, якія лічыцьмем адгалінаваннямі, або сучаснымі пераасэнсаваннямі першага, можна вызначыць як **расавае і шавіністычнае**. І тое і другое мала адрозніваюцца, яны заснаваны на больш-менш переканаўчым узвелічэнні абмежаванае групы людзей або пэўнага культурнага тыпу. Досвед XX стагоддзя цалкам скампраметаваў іх сутнасна. Больш таго, абодва гэтыя шляхі пры ўважлівым поглядзе не маюць нічога агульнага з сапраўдным нацыяналізмам, бо цікавяцца толькі адным культурным ладам, пераважна моцным. У глыбіні сваёй і расізм і шавінізм — гэта антынацыяналізм.

Трэцяе абгрунтаванне — **этычнае**. Яно сцвярджае: не маральна дапусціць знікненне якой-небудзь нацыі, бо кожная мае права на сваё жыццё. Таксама і родавае, яно шырока распаўсюджана, але мала пераконвае. Сёння ў пераважнай большасці краін, як кажуць, — «ва ўсім цывілізаваным свеце», існуе прыярытэт правоў асобы над правамі калектыву. Гэта асноўны прынцып лібералізму, дэмакратыі і, шырэй, гуманізму. Таму любы занудлівы ліберал можа абвясціць развіццё нацыянальнай культуры прымусовым актам у адносінах да яго высокадухоўнай асобы. А ў дэнацыяналізаваным грамадстве такіх «знамяюнаўскіх» лібералаў і дэмакратаў пераважная большасць.

І, нарэшце, чацвёртае абгрунтаванне нацыяналізму — **прагрэсіўнае**. У беларускай культуры найбольш паслядоўна яго даводзіў М.Багдановіч, сцвярджаючы, што аб'ектыўным законам развіцця чалавецтва з'яўляецца драбленне культур, з'яўленне новых нацый. Ужо тады на пачатку XX стагоддзя можна было прасачыць адначасова і адваротныя тэндэнцыі. Цяпер жа ў станоўчы прагрэс мала хто верыць. Тэхніка, патураючы сама жывёльным інстынктам чалавека, мала турбуецца наконт культуры і ператварае наасферу ў аграмадны пляц выключна для самаўзнаўлення гэтай адчужанай сілы.

Такім чынам, для нацыяналізму не застаецца ніякіх шанцаў, акрамя асабістых густаў яго прыхільнікаў. Але ёсць яшчэ адно абгрунтаванне нацыяналізму — **эстэтычнае**. Аўтарства ідэі касмічнага панэстэтызму належыць К.Лявонцьеву. Не ўсё ў працах гэтага арыгінальнага філосафа прыдатнае для беларусаў, не ўсё вытрымлівае крытыку. У рэшце рэшт, справа не ў яго візантызме. Справа не ў той метафары, дзе якасці жывога арганізма механічна і надумана пераносяцца на культурны працэс, якую /метафару/ на розныя лады эксплуатавалі Данілеўскі, сам Лявонцьеў, а ўжо пасля і Розанаў, і Шпэнглер, і Л.Гумілёў, і якою так слепа захапляюцца нашыя мысляры. Галоўнае тут — мужны рэалізм: «... І хрысціянская казань, і прагрэс еўрапейскі сукупнымі намаганнямі імкнуцца забіць эстэтыку жыцця на зямлі, г.зн. самое жыццё». Хрысціянства К.Лявонцьеў безумоўна прымае ў яго найбольш кансерватыўных, традыцыйных формах, але паўстае супраць усіх магчымых праяў прагрэсу. Крытыка «эгалітарнага працэсу», уніфікацыі і збяднення жыцця і ёсць галоўная заслуга рускага філосафа.

Сапраўды, няўхільна знікаюць не толькі культуры і народнасці са сваімі унікальнымі адметнасцямі, мовамі. Сёння, напрыклад, пад пагрозаю вымірання за наступныя 20-30 гадоў знаходзіцца чвэрць усіх жывых арганізмаў планеты. Чалавецтва праз усю сваю гісторыю, як у сне, цвердзіць то пра агульную мову, то пра агульную дзяржаву, то яшчэ пра нешта агульнае і не задасць простага пытання: а навошта гэтая еднасць? Адкуль у нас перад разнастайнасцю такі жах, сімвалам якога служыць паданне Вавілонскай вежы? Нейкая самнамбулічная наканаванасць:

Але месяц правёў праз раку светлы шлях.  
І развеяўся з сэрца дрыжачага жах.  
Зіхацела яна — серабра пуціна,  
Увадзіла ў той край, дзе пануе вясна.  
Доўга, доўга цябе ён чакаў і шукаў,  
Але вось час жаданы нарэшце настаў...  
І пайшоў ён па шляху, пайшоў аж да дна:  
Агарнула яго ціішыня, глыбіня.

Гэта шлях да смерці, анігіляцыя. Паўната, роўная пустаце. Надыходзіць уладарства Мідаса, лібералa з аслінымі вушамі, і ўсе рэчы ператвараюцца ў золата /залатая сярэдзіна/, становяцца непрыдатнымі для ўжывання, а ў мастацтве месца апаланійскай узнёсласці заступае дыянісійскае, нізкае буйства кіча.

Відаць, у аснове эгалітарнага працэсу ляжыць не простае сумарнае змяшэнне адметнасцяў, а новы і паўсюль аднолькавы тып сувязі з прыродаю. Гэтага шляху нельга ўнікнуць, яму можна толькі супрацьстаяць уласным лёсам, «мой аргумент — я сам» /А.Разанаў/. Адным са спосабаў выжывання, пэўна, будзе пільная ўвага да вёскі, гэтага аптымальнага чалавеча-прыроднага комплексу. «Хутар», той жупел-ярлык, якім імкнуцца зняважыць нацыяналістаў, ёсць найлепшы сімвал свабоднага і унікальнага жыцця, калі ніхто нікога не цісне, ніхто ні на кога не наязджае. Пры неабходнасці заўсёды можна паехаць да суседа ў госці.

Толькі такога бліжняга, які становіцца дальнім, мілуе наша душа.

*...Але вось і мой улюбёны А.Разанаў звяртаецца да* ***сінтэзу*** *рэлігій, узначальвае рэрыхаўскі рух. Навошта яму гэта? Навошта ўсім гэта? Адкуль такая цяга да адзінага, універсальнага, да сінтэзу, уніфікацыі? Напэўна, людзі шукаюць ісціну. Слова «ісціна» ў дадзеным выпадку засяроджвае, абазначае правільны лад або шлях развіцця. Ісціна — гэта значыць адзіны, найбольш слушны спосаб жыцця. Тут ісціна не што іншае як перафраз уладарства нябеснага на зямлі — утопія, «ружовае хрысціянства» паводле К.Лявонцьева. Але ў тутэйшасці нічога не можа быць, акрамя модусаў. Сапраўднае хрысціянства выносіць ісціну ў тамтэйшасць, бо толькі там, дзе паўната быцця, там, у Бога, можа быць праўда. Наадварот,* ***тут*** *паўната быцця здольная выяўляцца адно колькасцю, шляхам памнажэння модусаў. Такі спосаб вырашэння, у межах чалавечае плоскасці, варта назваць гарызантальным, ён зусім не адмаўляе штохвілiннага вертыкальнага заглыблення ў кожнай клетцы быцця.*

*Такім чынам, эстэтычнае ў дадзеным выпадку — гэта разнастайнае, а разнастайнае — гэта жыццёвае і таму маральнае. Эстэтыка ёсць віталізм, неабходнасць і для калектыву і для асобы. Па-за жыццём няма ў людзей інтарэсаў, акрамя выратавання душы. Час зразумець нарэшце, што этыка і экалогія — адно. Бо экалогія, якая не ёсць этыка, ні для кога неабавязковая, а этыка, якая не ёсць экалогія, не бачыць нічога далей уласнага носа. Эстэтычны нацыяналізм уключае ў сябе ў якасці станоўчых усе іншыя віды нацыяналізму: і родавы — як адказнасць за справу продкаў, і расавы — як неабходнасць захавання рас нароўні з відамі жывых арганізмаў, і этычны — як усеагульны імператыў. Такая глабальная перспектыва захавання жыцця становіцца ўжо матэрыяльным фактарам. Тут аб'яднанне не як сінтэз, не як уніфікацыя, а як дыялог культур, здольны супрацьстаяць узаемазнішчэнню.*

*Трэба адзначыць, што дыялог часта толькі фраза, яму моцна шкодзіць чалавечая пыха, якую заўсёды сцішвае хрысціянская пакора. Еднасць хрысціянства і еўрапейскіх нацый — гэта ўмова існавання апошніх, іх сутнасная якасць. Элімінацыя або падмена хрысціянства нечым іншым вядзе да збяднення культуры, да прафанацыі нацыяналізму. Вось павучаем Святыню, як адносіцца да Беларушчыны, а самі не йдзем у Храм, у лепшым выпадку спасылаемся на Бога ў душы. Але Святыню можна заваяваць толькі аддансцю. І толькі адданыя могуць дыктаваць сваю кесарскую волю. Святыня не казырная карта ў палітыцы, але яна, вучачы нас пакоры, у сваю чаргу мусіць адмовіцца ад маналагічнага падыходу да* ***іншых****, бо нецярпімасць нікому не падвышала аўтарытэту...*

Калі ж вярнуцца да нацыянальнага, то наступная наша культурная задача — гэта прачытанне Беларушчыны **як тэксту**. Прачытанне само праз сябе недастатковае, яно павінна быць пачута і падхоплена. Або, іншымі словамі: трагедыя Беларусі, прычына яе ідэальнасці — у несамаадпаведнасці. Многімі здаўна адзначалася перарыванасць нашай культурнай традыцыі. У выніку — кожны этап пачынаецца з чаго заўгодна, але не са свайго папярэдніка. Больш таго, пільны погляд заўважае, што ўнутры кожнага этапу асобныя акты /і на ўзроўні мастакоў, і на ўзроўні іх твораў/ застаюцца бязлюднымі выспамі.

Найперш нам шкодзіць не адрыў ад сусвету, а неадрэфлексаванасць уласнага досведу. Наадварот, неразуменне сябе становіцца прычынаю гэтага адрыву, нейкай разгубленасці перад чужаніцаю.

Беларускім самаўсведамленнем толькі і можа стаць спасціжэнне традыцыі, а не вынаходніцтва ідэй ды нацягванне надуманых шляхоў і да т.п. Ніколі не мог я зразумець, што такое «руская ідэя». Ідэя — нешта індывідуальнае, для астатніх неабавязковае. А калектыўная ідэя /саборнасць?/ мусіць нагадваць істоту з мноствам тулаваў і адною галавой. І ці не абсурдна гучыць: англійская ідэя, папуаская ідэя, кітайская ідэя?

Ідэя — статыка. Але дынамічны «шлях» таксама ўтойвае небяспеку псеўдафіласофскіх «гараскопаў». У самаспасціжэнні адзіна рэальны шлях рэтраспектыўны, які і з'яўляецца **апісанай** традыцыяй. Яна ж аб'ядноўвае разрозненыя акты культуры і пэўным чынам абумоўлівае выйсце з пункту ТУТ-дзе-мы-ёсць.

Што такое нацыянальнае і як прыйсці да пазітыўнага разумення традыцыі? Некалі М.Багдановіч гаварыў пра сучасную яму літаратуру як не пра беларускую, а толькі пісаную ў беларускай мове; Я.Карскі ўжо самога Багдановіча называў небеларускім аўтарам; сёння нехта ў тым жа абвінаваціць Адама Глобуса... Такі падыход здольны стаць зачараваным колам. Нацыянальнае — найперш станаўленне, а не статычная сукрытая існасць. Усё напісанае **беларускай мовою** рана ці позна **становіцца беларускім**; яно называецца сабою ў тых формах, у якіх узнікае. І тут дзейнічае двухадзіны актыўна-пасіўны фактар, дзе суб'екты /культура ці асоба/ могуць мяняцца месцамі.

Культура стварае кантэкст, які фармуе ўсю сукупнасць творцаў і спажыўцоў. Прыналежнасць да таго ці іншага космасу, падключанасць да пэўнай парадыгмы гатовых тэкстаў — гэта аб'ектыўная, можна сказаць, матэрыяльная традыцыя. Нядаўна надрукаванае ў «ЛіМе» эсэ В.Акудовіча «Літаратура ў краіне Сакрэту» моцна мяне ўсхвалявала, бо закранула гэтую тэму, над якой я даўно ўжо думаю. На жаль, здаецца, аўтар не столькі праясніў сітуацыю, колькі яе зміфалагізаваў. Паводле Акудовіча атрымліваецца, што беларуская мова зніжае ўзровень творчасці; маўляў, ва ўсім вінаваты кантэкст. Але, па-першае, факты часцей сведчаць адваротнае, а, па-другое, і гэта галоўнае, наш нацыянальны кантэкст амаль не ўплывае на сваіх жа творцаў, бо не ў стане супрацьстаяць магутнейшым уплывам; яго фактычна няма. Ёсць усе падставы гаварыць пра «разрэджанасць» беларускай традыцыі.

Рэальныя дасягненні найчасцей звязаны з актыўнымі спробамі сягнуць углыб Беларушчыны. Увогуле ж, сярод сусветнага кантэксту граніцы айчыннай культуры губляюцца ды імкнуцца стаць нейкім міжзорным пылам.

Ступіўшы за межы нацыянальнага, трэба адзначыць яшчэ адну рэч. Вышэй я заўважыў, што параўнанне культур з біялагічным арганізмам не больш чым метафара, таму гаварыць пра «старыя» і «новыя» этнас:

*(Праяцяг на стар. 12)*

**Праграмныя пытанні для рубрыкі гл. у N за 26.02.1993 г.*

*Даведка пра аўтара эсэ: Пацюпа Юрась Віктаравіч — паэт, аўтар зборнікаў вершаў «Ноч» і «Сабака», выпускнік факультэта беларускай філалогіі і культуры Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Я.Купалы; цяпер працуе загадчыкам лабараторыі.*

Інтэрв'ю ў нумар

# ЗАМЕЖЖА СТАЛА БЛІЖЭЙ

***Адраджэнскія працэсы, што адбываюцца ў жыцці нашага грамадства, вядуць і да паглыбленага вывучэння і асэнсавання таго, што робіцца беларусамі ва ўсім свеце. Адсюль пільная і апраўданая ўвага да жыцця беларускага замежжа. Не так званага блізкага, куды ўваходзяць цяпер колішнія савецкія рэспублікі, а да суайчыннікаў са Злучаных Штатаў Амерыкі, Канады, Аўстраліі, Германіі, іншых краін і, зразумела, з Беласточчыны. Сярод жа іх нямала творцаў, без якіх немагчыма сёння атрымаць поўнае ўяўленне аб развіцці беларускай літаратуры, мастацтва і культуры ўвогуле.***

***Па ініцыятыве вядомага беларускага тэатразнаўцы, доктара мастацтвазнаўства Анатоля Сабалеўскага пры Міністэрстве культуры Рэспублікі Беларусь у сярэдзіне 1991 года быў арганізаваны Часовы творчы калектыў па даследаванні тэмы «Духоўная і матэрыяльная культура беларускага замежжа». У яго ўвайшлі аўтарытэтныя, дасведчаныя спецыялісты па літаратуры і мове, фальклоры, тэатральным, музычным і выяўленчым мастацтве, а таксама самадзейнай творчасці. Пастаўлена за мэту /фінансаванне ўзяло на сябе Міністэрства культуры/ выпусціць некалькі зборнікаў «Культура беларускага замежжа».***

***Наш карэспандэнт папрасіў А. САБАЛЕЎСКАГА падрабязней расказаць як пра работу Часовага калектыву /Анатоль Вікенцьевіч з'яўляецца кіраўніком яго/, так і пра змест саміх зборнікаў.***




— Пачну, бадай, з таго, што сёння сумнення не выклікае. Калі ў цэлым гаварыць, дык у плане вывучэння духоўнай і матэрыяльнай культуры беларусаў, іх побыту зроблена вельмі шмат. Набыткі тут відавочныя і сумненняў не выклікаюць. Створаны капітальныя працы і па літаратуры, і па мастацтве, і па тэатры. Выйшаў унікальны Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. Але што характэрна — гэтыя манаграфіі, даследаванні /адны менш, другія ў большай ступені/ — ідэалагізаваны, у іх прапушчаны шэраг важных падзей, фактаў, з'яў, іншыя з іх, калі і закранаюцца, дык аналізуюцца не цалкам, а аднабакова, павярхоўна. І не па віне аўтараў. Спрацоўваў так званы класавы падыход, усё разглядалася з пункту гледжання партыйнасці літаратуры, мастацтва. Тым самым над усімі доўга вісеў груз суб'ектывізму, які ў адны перыяды быў вульгарным сацыялагізмам, пазней — проста сацыялагізаваннем, а не так даўно — звычайнай ідэалагізацыяй. Што цікава, дык гэта тое, што і ў нашых суайчыннікаў за мяжой назіралася падобная хвароба. Калі ў нас ва ўсім, што стваралася за мяжой, бачыліся прошукі капіталізму, дык яны, у сваю чаргу, часам не ішлі далей гэтай жа «ворагаманіі». Праўда, тут ужо ва ўсім была «вінавата» Масква, бальшавізм. Даўно наспеў час пазбавіцца ад усіх гэтых «ізмаў», якія не зближалі людзей, а раз'ядноўвалі. Тым больш, калі мы хочам па-сапраўднаму адраджацца як нацыя, існаваць менавіта сваім, беларускім шляхам. У сувязі з гэтым выспела неабходнасць напісання і аб'ектыўнай гісторыі нацыянальнай культуры. Як той часткі, што звязана з так званым савецкім перыядам, так і гісторыі ўвогуле. Значыць, неабходна зрабіць усё для таго, каб і беларуская эміграцыя перастала быць тэрра інкогніта. Каб выправіць колішнія памылкі, ліквідаваць свайго роду прагалы на карце нацыі, зрабіць лепшыя культурныя, духоўныя набыткі суайчыннікаў за мяжой і нашымі набыткамі, — з гэтай мэтай па нашай ініцыятыве і быў створаны пры Міністэрстве культуры Беларусі Часовы творчы калектыў па даследаванні тэмы «Духоўная і матэрыяльная культура беларускага замежжа».

***— І якія першапачатковыя вынікі вашай працы?***

— У выдавецтве «Навука і тэхніка» выйшаў першы выпуск зборніка «Культура беларускага замежжа». Асноўны раздзел яго — «Постаці». Думаецца, матэрыялы гэтыя спатрэбяцца многім, хто хоча лепш пазнаёміцца з найбольш выдатнымі прадстаўнікамі беларускай культуры, якія жывуць за межамі Бацькаўшчыны. Мяркуйце самі. М. Мішчанчук у артыкуле «Між берагамі» падрабязна аналізуе жыццёвы і мастакоўскі шлях Н. Арсенневай, чалавека няпростага жыцця, аўтара шматлікіх кніг. Цяжка ўявіць сучасную беларускую паэзію і без М. Сяднёва /вядомы таксама як аўтар двух раманаў, публіцыст, эсэіст/. Старонкі яго паэтычнай біяграфіі ўважліва перагортвае Л. Савік — «Мне песня дадзена для мукі». «Вучоны, паэт, грамадзянін» — так называюцца штрыхі да творчага партрэта загадчыка кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта Аляксандра Баршчэўскага /ён жа паэт Алесь Барскі/, напісаныя Я. Адамовічам. А я ў артыкуле «Данчык — шлях да Беларусі» звяртаюся да вытокаў творчасці гэтага выдатнага спевака.

Чарговы раздзел «Выданні» ставіць за мэту знаёміць з перыядычным друкам беларускага

# ПАМЯЦЬ СПЕЛЫХ ЗЯРНЯТАЎ

## ШТРЫХІ ДА ТВОРЧАГА ПАРТРЭТА МІКОЛЫ АРОЧКІ

СУЧАСНЫМ гурманам эстэтычна-вышкталцонай паэзіі ранняя творчасць М. Арочкі можа падацца старамоднай праявай масавай паэзіі ў духу камуністычных штампаў-агітак 50—60-х гадоў. Так, па спосабу мастацкага светабачання, паэтыкі верша М. Арочка ўспрымаецца ў рэчышчы літаратурнай традыцыі таго часу. Аднак сучаснай патрабавальнай крытыцы трэба імкнуцца да аб'ектыўна-аналітычнага асэнсавання псіхалогіі двайной маралі ў творчай працы пісьменнікаў таго часу; чаму іх пяро спявала оды Бацькаўшчыне, яе пушчам, рэкам, а ў рэальнасці маці-Бацькаўшчына гібела праз духоўны занепад яе сыноў, а маці-прырода, якую чалавек паставіў перад сабой на калені, жалобна ўкленчвала ў нас літасці.

М. Арочка, як крытык, найперш сам перагледзеў напісанае ім і выдаў у 1991 годзе паэтычную кнігу выбранага «Памяць зярнятаў», куды ўвайшлі яго лепшыя вершы з сямі кніг і чатыры паэмы. Як паэту яму можна ганарыцца творамі, што ўзвысілі наша прыгожае пісьменства, — гэта найперш вершы «Падземныя замкі», «Ганчар», «Замак Уладзіміра», «Начная балада салдата», «Вузел жыцця» ды іншыя. Увогуле кнігу склалі добрыя творы, якія аднолькава цікава чытаць і філолагу, і звычайнаму чытачу. На жаль, аўтар не пазбегнуў уключыць у «Выбранае» нямала і рытарычных рыфмаванак, накшталт «Ласкавасць», «Зялёны кругаварот», «Недзе на зялёнай пойме Ніла». Зрэшты, такі мазаічны рознастылёвы падбор твораў дае магчымасць убачыць не манументальна-лакіраваны партрэт, а постаць жывога чалавека. Адно, што, на мой погляд, зніжае творчы патэнцыял яго вершаў, — гэта недастатковасць смеласці ў сацыяльным аспекце адлюстравання жыцця. Хаця кожны твор пазначаны датай напісання, сутнасць таго часу, яго нерв, яго сацыяльна-псіхалагічныя калізіі ў вершах выяўлены мала. Я далёкая ад думкі бачыць у паэзіі сацыяльны заказ, што ператварае творцу ў гэткі бумеранг паміж заказчыкам і мастацтвам, як было падчас панавання ідэалагічных догмаў КПСС — і што згубіла дзесяткі творчых лёсаў. Але ж сапраўдны творца, як той парастак між камянёў, прарастае з жыццёвай праўды, увасабляе ў сваёй творчасці лёс свайго пакалення, свой час.

Матывы любавання родным краем прадвызначылі спавядальнасць стылю М. Арочкі, што было ва ўсёй савецкай паэзіі не толькі стылёвай дамінантай, але і сведчаннем абмежаванасці светапогляду паэтаў. Па словах Т. Чабан, «...так званыя шчырыя лірычныя споведзі перанасычаліся дваістасцю, фальшам і натужнасцю, калі разрыў паміж словам і справай, словам і жыццём стаў прорвай» /«Маладосць», 1989, N 4/. Да гонару М. Арочкі, ён не заграз у перапевах банальных ісцін, а даверыўся шляху пошукаў адметнага сакавітага слова, ёмістай вобразнасці. Усе яго паэтычныя кнігі злучае вобраз зярнятаў /не жыта, не каласоў, як, напрыклад, у Танка/ — і ў гэтым ёсць свой сімвалічны сэнс. Яго лірычны герой яшчэ ў першых зборніках «Не ўсе лугі пакошаны» /1958/, «Ветраломная паласа» /1962/ выказаў сваё народнае разуменне красы: прыгожае ўвасабляецца ў маральным, што не раз адкрыта выяўляецца ў яго маральных сентэнцыях: «І, як тыя святыя барозны, У чаканні зярнят, я і ты», «Не хачу між калоссяў быць коласам тым, Што часамі ўзрастае без зерня».

З боку крытыкі было б неаб'ектыўна бачыць у лірычным герої яго паэзіі інтэлігента, які толькі сузіральна ўспрымае красу свайго краю. Словы М. Арочкі нараджалася з «любові і крыві», бо ўбірала ў сябе шматвяковы боль курганоў, магіл і незагоеныя да гэтых дзён раны ў душах людзей, перажыўшых мінулую вайну. Таму звыклыя традыцыйныя для нашай паэзіі вобразы прыроды, продкаў набываюць у творах Арочкі выразна эпічны змест. Чалавек у светаадчуванні паэта — звяно паміж трагічнай гісторыяй і той будучыняй, што ствараецца сучасным патэнцыялам духоўнасці грамадства, — вось чаму ўвага паэта скіравана не на яго ўласнае «я», а перш за ўсё на маральны, эстэтычны вопыт народа. Яго зварот да сваіх каранёў скіраваны ў будучыню / вершы «Голас крыніцы», «Дарогі Беларусі» і інш./. Менавіта адсюль, з радзіннага, з роднага кута — вытокі духоўнасці яго твораў, пра што ў многіх вершах ён кажа адкрыта, але без залішняга пафасу і патэтыкі:

Адсюль, з перажыванняў,
з працы рук
Інакшы ракурс бачыцца
ўсіх коштаў.
/«Далучэнне да зямлі»/

У першых зборніках вобраз Радзімы атаясамліваўся ў паэтычным уяўленні паэта з кветкамі бяссмертніка, коранем аеру, снапамі нажатымі — вобразамі канкрэтнымі і ў пэўнай ступені сімвалічнымі; з гадамі ж матывы Бацькаўшчыны набылі адценні акрэсленага гістарызму, філасофскага напаўнення. Паэт глядзіць на свой край як на «гістарычны дом», таму і вобразы канкрэтных людзей, землякоў набываюць велічнасць, а паэтычнае слова пра іх гучыць урачыста, узвышана:

Гляджу: колькі постацей —
мужных, трывушчых —
Трымалі, як замкі, бацькоўскі
рубеж.
/«Падземныя замкі»/

У канцэптуальным паэтычным разуменні Бацькаўшчыны М. Арочка набліжаецца да караткевічаўскага асэнсавання спадчыны, лёсу яе лепшых сыноў. Так, і ў «Баладзе бацькоўскага краю» — аповяд пра беларускага ваяра, які памірае ад варожых куль, але яго «цела ўсё ў векавых рубцах»:

Тыя шрамы не толькі
ад куль —
Ад мячоў, ад клінкоў, ад дзідаў.

Такі абагулена-гістарычны погляд на чалавека прадвызначыў плённы зварот М. Арочкі да жанру балады. Творы «Балада пра няскошанае жыта», «Балада бульбяного поля», «Балада блакады» ды іншыя ў рэалістычным ключы выяўляюць чалавечую прыгажосць найперш у самаахвярным служэнні Бацькаўшчыне, у тым, каб высакародна паміраць і перамагаць смерць.

Пераасэнсоўваючы пысінскае: «мне ў жыта хочацца ўвайсці, Мне вечнасцю здаецца жыта», можна сцвярджаць, што М. Арочка змог адметна асэнсаваць пасляваеннае жыццё вёскі ў паэме «Матчына жыта» /1977 г./, стварыўшы на бытавым матэрыяле па сутнасці новы гімн жыту як сімвалу перамогі жыцця ў жорсткай вайне з фашызмам. Спрадвечна традыцыйны ў беларускім мастацтве вобраз жыта ў паэме персаніфікаваны не проста да вобраза-пейзажа, вобраза-рэчы, што прадвызначае развіццё сюжэта, дзейнічае побач з вобразамі людзей, а ўзняты да вышыні філасофскага абагульнення, барацьбы жыцця са смерцю. У ім сканцэнтраваны і шматвяковыя духоўныя каштоўнасці, і трагізм вайны:

Першы сноп — матчын,
самы сцяблісты,
на галашэнне,
на боль каласісты.

Своеасаблівым працягам ідэйнага зместу твора з'яўляецца драматычная паэма М. Арочкі «Курганне» /1979 г./, у якой цэнтральным вобразам выступае Хлеб. Паэт па-майстэрску развівае паэтыку драматычнай паэмы, спалучаючы рэальнае і ірэальнае. Не дзіва, што М. Арочка зарэкамендаваў сябе сталым майстрам гэтага самага цяжкага жанру ў

замежжа. У ім аналізуюцца як асобныя выданні — артыкул У. Мамонькі «Праблемы культуры і мастацтва ў «Запісах» /гаворка ідзе пра «Запісы Беларускага інстытута навукі і мастацтва», што выходзяць у ЗША/, так і засяроджваецца ўвага на пэўных аспектах праблемы ў святле замежных публікацый — «Нататкі мастацтвазнаўчай Скарыніяны» В. Шматава і «Дэкаратыўна-прыкладное і выяўленчае мастацтва на старонках «Нівы» Л. Маленкі.

Ёсць у зборніку яшчэ адзін раздзел — «Фальклор». У дадзеным выпадку маецца на ўвазе фальклор Беласточчыны. А. Ліс і А. Фядосік разглядаюць адпаведна «Каляндарна-абрадавыя творы» і «Радзінна-хрэсьбінную і вясельную паэзію».

Згодна палажэнню Часовы творчы калектыў ствараецца тэрмінам на адзінаццаць месяцаў. Калі работа над першым выпускам «Культуры беларускага замежжа» была завершана, мы адразу стварылі чарговы Часовы творчы калектыў.

***— Значыць, хутка выйдзе і другі выпуск зборніка?***

— Тут ужо ўсё залежыць ад выдавецтва «Навука і тэхніка». А летам яго было б мець няблага. Летам жа, як вядома, у Мінску пройдзе I з'езд беларусаў свету. Кожнаму яго дэлегату, дарэчы, будзе ўручаны першы выпуск кнігі. Не лішнім быў бы і другі...

***— Анатоль Вікенцьевіч, пазнаёмце, калі ласка, са зместам другога выпуску «Культуры беларускага замежжа»...***

— Па традыцыі адкрываем яго раздзелам «Постаці». М. Мішчанчук расказвае пра вельмі самабытнага паэта А. Салаўя, А. Ліс разглядае паэзію Х. Ільяшэвіча. Творчы і жыццёвы шлях кампазітара М. Шчаглова-Куліковіча — у полі зроку С. Берасцень. Я ў артыкуле «Ля вытокаў культурнага адраджэння» паказваю ролю Данчыка ў абуджэнні нацыянальнай свядомасці беларусаў.

Змястоўным абяцае быць і раздзел «Выданні». Л. Маленка вядзе гаворку пра газету «Беларус» як адно з важнейшых беларускіх выданняў у ЗША, засяроджвае ўвагу на асвятленні «Беларусам» дэкаратыўна-прыкладнога, выяўленчага мастацтва... Назва артыкула У. Мамонькі, як кажуць, сама гаворыць за сябе — «Чытайце «Беларускі каляндар». Гэтае выданне выходзіць ў Беластоку, поруч з іншымі пытаннямі асвятляе і праблемы драматычна-сцэнічнага мастацтва. Наколькі гэта ўдаецца «Беларускаму каляндару», і разважае У. Мамонька. Тут жа друкуецца артыкул «Раку жывяць рачаіны», у якім аналізуецца творчасць пісьменнікаў Беласточчыны, прадстаўнікоў самых розных пакаленняў.

З'явіцца і новы раздзел — «Асяродкі». У прыватнасці, Т. Гаробчанка пазнаёміць з жыццём беларусаў Кліўленда, раскажа пра культурны цэнтр «Полацак» і аднайменны часопіс, якому, як вядома, споўнілася два гады. Я. Адамовіч разглядае дзейнасць кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта, якая на самай справе стала важным асяродкам беларускасці. Даследуецца беларуская літаратура, фальклор, абараняюцца па гэтых пытаннях дыпломныя работы, дысертацыі.

***— А на перспектыву якія планы?***

— Распачынаем працу па падрыхтоўцы трэцяга выпуска «Культуры беларускага замежжа». Расказаць жа ёсць пра каго: і пра пісьменнікаў, і пра мастакоў, і пра музыкантаў. А колькі выданняў выходзіла ці выходзіць і ў Амерыцы, і ў Англіі, і ў Польшчы?! Ды хіба можна абысці ўвагай такія асяродкі беларускасці за мяжой, як Беларускі інстытут навукі і мастацтва ў Нью-Йорку, Скарынаўская бібліятэка ў Лондане, радыёстанцыя «Свабода» ў Германіі.

Як бачыце, работы хопіць. І неабходна спяшацца, каб ліквідаваць тыя прагалы, што ствараліся дзесяцігоддзямі. Ідэалогія прыходзіць і адыходзіць, а агульначалавечыя вартасці застаюцца. Вяртаць іх з небыцця — хіба можа быць больш высакародная задача?!

**Інтэрв'ю ўзяў**
**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

---

літаратуры, паколькі з'яўляецца, па сутнасці, адзіным на Беларусі даследчыкам драматычнай паэмы і выдатна авалодаў яе сакрэтамі. Арганічнае спалучэнне ў яго таленце крытычнага і паэтычнага мыслення садзейнічае творчай рэалізацыі М. Арочкі ў жанры паэмы як паэта эпічнага, філасофскага складу. У межах гэтых нататак нельга раскрыць змястоўнасць яго драматычных паэм, для гэтага патрабуецца спецыяльнае даследаванне. Што ж да адметнасцяў яго драматычнага таленту, то відавочным з'яўляецца майстэрства М. Арочкі разглядаць пэўную жыццёвую з'яву ў кантэксце гістарычнага быцця нацыі, а не з пазіцыі ілюстрацыі падзей. Гэта яскрава відаць і ў паэме «Курганне», якая ўспрымаецца як рэквіем па спаленых вёсках і як своеасаблівы гімн духоўнай моцы, маральнай трываласці народа ў час вайны. Як крытык, М. Арочка ў 80-я гады пісаў: «Вайна выявіла рэальныя духоўныя каштоўнасці — на самых вострых і балючых «зрэзах» жыцця народа». Курганне і ёсць абагульнены вобраз народнай гістарычнай памяці, навальніцы не міналі яго вуглоў:

> **Расла не вёска ваша,**
> **а на ўзлессі**
> **Ад вашых могілак —**
> **Курган-гара.**

Хлеб, народжаны ў печах Кургання, — найлепшы вобраз паэмы — увасабляе магутнасць духу продкаў. Ён дапамагаў выжыць людзям праз усе навалы. Хлеб ідзе ратаваць ад распаду свет. Гарманічна знітаваныя ў творы ўзвышана-сімвалічны змест з трагедыйным гучаннем твора, па-філасофску ёмістыя прамовы герояў з народнымі галашэннямі, са спавядальна-малітоўнымі маналогамі Янкі — вогненнага прывіду паэта.

Сведчаннем грамадзянскага росту паэта з'яўляецца яго зварот да глыбінных пластоў нашай гісторыі і, у прыватнасці, да крэўскіх падзей у драматычнай паэме «Крэва» /1988/. Менавіта праз Слова паэт імкнецца ўзнавіць дух мінулых вякоў:

> **Бяру абломак цэглы,**
> **нібы крэда.**
> **І апаляе вусны слова «Крэва».**

З пазіцыі гістарычнай праўды М. Арочка асэнсоўвае падзеі, звязаныя з набыццём Ягайлам вялікакняжацкага пасада — цераз забойства ў сутарэннях Крэўскага замка свайго дзядзькі Кейстута. Заступнікам Літвы, «нядрэмным вокам дзяржавы» намаляваны ў паэме вобраз князя Кейстута. З яго маналогаў перад намі паўстае і дзяржаўны дзеяч, і нявольнік гістарычных абставін.

Вялікім укладам у беларускую Скарыніяну і паэзію можна лічыць драматычную паэму М. Арочкі «Судны дзень Скарыны», напісаную ім у 1986—1989 гадах /яна выйшла ў 1991 годзе асобнай кнігай у цудоўным афармленні слыннага мастака М. Купавы/. Гэты твор засведчыў і грамадзянскую сталасць, і адметнае паэтычнае майстэрства М. Арочкі. Паэт развівае тут значнасць любімых сваіх вобразаў: Кургання, Крэва, легендарных гістарычных асоб. Яскравыя ў паэме характэрныя для ўсіх яго драматычных паэм прыёмы чаргавання рытмізаванай празаічнай мовы герояў і верша ўзвышана-патрыятычнага гучання, якім прамаўляе Дух галоўнага героя Скарыны, лагічныя пераходы ад узнаўлення рэальна-жыццёвага матэрыялу да яго філасофскага абгрунтавання. Мастацкай адметнасцю паэмы з'яўляецца напаўненне падтэксту, дыялогаў герояў філасофскім зместам і, галоўнае, не ілюстрацыйнасць біяграфіі Скарыны, а спасціжэнне яго духоўнай працы ў імя Бога і Бацькаўшчыны ў кантэксце развіцця чалавечага духу ад часоў антычнасці да эпохі Адраджэння, калі жыў Скарына, і сучаснасці і будучыні, куды скіраваны яго гуманістычныя ідэалы. Лёс Скарыны М. Арочка разглядае ў кантэксце трагізму лёсу мастака. Скарына неаднаразова звяртаецца да сваіх ідэйных продкаў:

> **Авідзій, Дантэ,**
> **хто павёў ваш лёс**
> **Шляхамі сумных геніяў**
> **выгнання?**

Упершыню ў беларускай паэзіі М. Арочка паказаў Скарыну як выгнанніка так пераканаўча і моцна, хоць такое асэнсаванне Скарыны намецілася раней у паэзіі У. Караткевіча. Надрукаваўшы Біблію першым сярод усходніх славян і «раней — чым Лютэр на Нямеччыне... Раней, чым Біблія па-польску», Скарына не знайшоў падтрымкі сваёй справы на Бацькаўшчыне. Выгнанне Скарыны працягваецца і па сённяшні дзень, бо знявечаная таталітарызмам мова не адраджаецца, зноў на яе, а значыць, і на душу беларусаў палюююць «хіжадзюбыя» розных колераў.

Праз увесь твор праходзіць матыў малітвы Скарыны — як плач за зганьбаваны народ, мову, асвету: «Дакуль бацькоўскі край Выгнанцам будзе з краю?» Прамаўленне Духу Скарыны накіравана і да кожнага з нас як дакор нашага Настаўніка. Так, як Бог судзіць кожнага чалавека ў Судны час, так дакор Скарыны ёсць тым Судным днём для нас, яго ных нашчадкаў, за нашу духоўную занядбанасць. Такім мне бачыцца сімвалічны сэнс назвы твора Міколы Арочкі — паэта, чыё паэтычнае слова жыве надзённымі трывогамі Бацькаўшчыны.

**Ніна АКСЁНЧЫК**
*г. Мазыр*

---

Віншуем!

# МІКОЛУ ФЕДЗЮКОВІЧУ — 50

***Мікола Федзюковіч друкуецца з 1960 года, калі пасля заканчэння сярэдняй школы пачаў працаваць літаратурным супрацоўнікам Драгічынскай раённай газеты. З паэзіяй не развітаўся і падчас службы ў арміі /1962—1966/, і будучы студэнтам Літаратурнага інстытута імя А.М.Горкага, які скончыў у 1970 годзе, і калі працаваў у выдавецтве «Народная асвета», газеце «Чырвоная змена», бюлетэні «Служба быту Беларусі». Выдаў кнігі «Зямля — магніт», «Мілавіца», «Птушыны грай», «Макаў цвет»... З паэзіяй не развітаецца і цяпер, калі знаходзіцца, так сказаць, на вольным хлебе. Да ўсяго выступае з нарысамі, літаратурна-крытычнымі артыкуламі — яны рэгулярна гучаць па радыё, друкуюцца ў рэспубліканскай перыёдыцы, перакладае на беларускую мову творы прадстаўнікоў іншых літаратур. Віншуем Міколу Мікалаевіча з поўднем веку! Жадаем яму ранейшай жыццёвай і мастакоўскай бадзёрасці і друкуем вершы юбіляра.***



## КРУГАВАРОТ

**О, колькі ўпала на зямлю лісця!**
**Калі б усё, што вырастае звеку,**
**было не падуладна чалавеку,**
**ці не спыніўся б вечны рух жыцця?**

**Не, не! Такі наўкол кругаварот,**
**такая ўсюды прага раўнавагі,**
**што кожны ліст апалы без развагі**
**ўсё аддае наступнаму — штогод.**

**Ды новае, наступнае лісцё,**
**шкада, не помніць аб мінулагоднім,**
**прыбітым да зямлі дажджом**
**халодным...**

**Мы ж — не лісцё. Аб продках**
**забыццё**
**не стане нашай прышласці асновай**
**ні ў час асенні, ні парой вясновай.**

□

**Вазьміце шпілі вострыя царквы,**
**скупыя камяністыя палеткі,**
**бярозы і бярозавыя розгі**
**і некалькі напаўзабытых слоў;**
**вазьміце яркую струну зары**
**і многа рук, і многа-многа рук,**
**мазолістых, умелых, працавітых —**
**і з'явіцца Гісторыя сама...**

## РАКА

**У шэрай расцы ціхы і спакою,**
**нібы балота, — цёмная душа.**
**А мне пражыць бы горнаю ракою —**
**імчаць удалеч плынь, а не ляжаць!..**

**Калі ад спёкі чахнуць ніва стане,**
**адзіны паратунак — у рацэ.**
**Яна нясе палям выратаванне,**
**пульсуе — быццам жылка на руцэ.**

**Збяруцца людзі восенню**
**ля млына —**
**стаяць, глядзяць з надзеяй на раку,**
**калі яна няўтомна і няспынна**
**стварае з зерня белую муку...**

**Так неспакойна жыць бы мне**
**дазвання —**
**ракой імклівай на сваёй зямлі!..**
**Высокае, шчаслівае прызванне:**
**варочаць жорны і паіць палі.**

□

**Мне б вашы вусны — мёд бы піў**
**ды запіваў гарбатай,**
**адну-адзіную любіў**
**і быў бы тым багаты.**

**Мне б вашы вочы — іх, як вы,**
**не апускаў бы долу,**
**ад іх світальнай сінявы**
**не цьмеў бы свет ніколі!**

**Мне б вашы рукі — прад мной**
**іх не падняў бы ўгору;**
**сябры віталіся б са мной**
**у радасці і ў горы.**

**Мне б ваша сэрца — на далонь**
**я не паклаў бы сэрца.**
**Не для таго яго агонь,**
**каб мог нягоднік грэцца...**

**За кожны позірк свой і рух,**
**за думку ў кожнай фразе,**
**за чысціню душы і рук**
**я прад людзьмі ў адказе.**

□

**Хай крые бог, каб наступіў той час,**
**калі сябры, якія нас любілі,**
**знялюбяць нас і ўзненавідзяць нас**
**і здзекам закляймуюць да магілы.**

**Хай крые бог, каб наступіў той час,**
**калі ў тваіх вачах яснавяльможных**
**я адлюструюся апошні раз**
**перад тваім апошнім падарожжам.**

**Хай крые бог, каб наступіў той час,**
**калі адзін пад зоркай Мілавіцай**
**на скрыжаванні незнаёмых трас**
**я на тваё імя буду маліцца...**

**Але — не, не! Ты ўсіх перажывеш:**
**мяне, ліхіх сяброў і гэты верш.**

## ЯСЕЛЬДА

*Памяці Я.Я.*

**Прачыналася рэчка Ясельда**
**і цякла ў старажытны бор...**
**Павандрую — і зноўку я сюды**
**прынясу і любоў і боль.**

**Хай сунімецца боль ад дотыку**
**хвалі ціхай, нібы сляза...**
**Пачыналася песня з досвітку**
**ў барадатых, сівых лясах.**

**О, дачка летуценнай вернасці —**
**ясяльдзянка з касой-красой,**
**я не веру, што ты не вернешся**
**ў гэта мудрае хараство!**

**Недарэмна пад колам сонечным**
**палымнее жарства ўгары...**
**Я не веру, што, быццам сённячы,**
**заўтра дзень твой пад ім згарыць.**

**А паверу ... — душой параненай**
**на гарачы ўпаду абрус...**
**Захвалюецца рэчкай ранішняй**
**у вачах маіх Беларусь!**

□

**Не выдумляй пачуццяў, вершаруб,**
**у тлуме не згубі сябе самога,**
**сябе карай бязлітасна і строга;**
**падалей будзь**
**ад пустазвонных труб,**
**спакойна ўзводзь свайго**
**палаца зруб,**
**і не крыўдуй, не наракай на лёс,**
**што не збіваеш лёгкай славы рос...**

**Душа, працуй бязлітасна, бо ты —**
**маё сумленне, суд мой — назаўжды!**

Леанід ГАЛУБОВІЧ



# І НЕБАМ СТАЎ ДУХ ТВОЙ

## НАЧНОЕ

За вокнамі трамвай на вуліцы грукоча.
Апошні ўжо, відаць. І ён спачыну хоча.
А я сяджу на кухні. Мой мозг
яшчэ не дрэмле.
І побач мыты посуд да глянцу
сушыць пер'е,
І жонка і дачка забыліся ў падушках,
І клетку не дзяўбе зняволеная птушка,
І сцішаны народ адлежваецца ў стоме...
А я адзін не сплю ў яго бязладным доме.
Астаф'ева вазьму, то нашага Арлова...
Ды слова, як агонь, другое паліць слова.
Нямею я. Свае — сырыя для падпалкі...
/Якраз як пад рукой з Барысава запалкі./
І думаю: чаго сяджу я тут, на кухні,
Так позна і святло ў вачах маіх
не тухне?
Мажліва, больш ніхто сярод
вось гэтай ночы
Не помніць вас ужо і помніць вас
не хоча,
Забраных сном, як пальцы
прытулкамі пальчатак, —
І ў вашага жыцця адзіны я нашчадак,
Адзіны спадкаемец і праваднік адзіны
Начнога цягніка, што збіўся з пуцявіны,
І мройліва ляціць у часе і прасторы,
І тухнуць перад ім, як зоркі, семафоры...
Бог з вамі!
Я слабы.
Пара і мне ля боку
У жонкі падрамаць. Тым болей,
што звысоку
Заглядвае ў вакно і свеціцца глыбока
Ўсёбачнае — наскрозь пранізлівае —
ВОКА

## даСЛОЎНАЕ

Так многа слоў, а сэнсу ў іх няма.
Гасподзь не даў яшчэ ўсяму імёны
Сапраўдныя...
Таму — гучыць сурма,
І пішуцца дзікунскія законы,
І бубны б'юць, і вогнішчы гарацць,
І спальваюць і кніжкі і вядзьмарак,
І грубай раццю сунуцца на раць —
І сонца лік ледзь-ледзь
свіціцца ў хмарах...

А сэнсу ўсё — няма...
Здаецца мне парой:
Жыццё маё не ёсць,
а мне заЯЎНА сніцца...
Так цёмнае акно на зорны зеўрыць рой,
Хоць зорка ні адна не можа
ў ім змясціцца...
Высокі сэнс — нямы, таемны
і дарма
Разгадваць сутнасць слоў,
згадаўшы іх імёны,
І прагнуць зразумець: чаму гучыць сурма
І голасам яе з нас кожны памянёны...

... А памяць пра жыццё
якая змесціць мова?!
О Слова, ты — Гасподзь!
А Ты, Гасподзь — ні слова...

## ШТРЫХІ ДА САНЕТАЎ ШЭКСПІРА

Чытаць небяспечна Шэкспіра на ноч,
Бо ноччу не змежыш пакутлівых воч.
Сябе ён і нас суцяшае ў санеце:
«Краса не памрэ аніколі на свеце».

О, бедны Уільям! Вялікі Шэкспір!
Ты — слова заложнік і страсці вампір.
Твой геній быў скуты свабодай любві.
Два сэрцы ганялі два токі крыві.

Мужчынскае мужна валодала сілай.
Жаночае ласкі цнатліва прасіла...
І ўсе твае мудрыя вечныя словы
З любові, як з рабства, здымалі аковы...

І небам стаў дух твой.
А плоць твая — жвір.
... І драма жыцця не сцэнічна, Шэкспір...

## НА ГАДАВІНУ ПЕРАСЯЛЕННЯ БАЦЬКАВАЙ ДУШЫ

Ты не сумуй у адзіноце, бацька.
Бо хутка мы збяромся Там усе...
Наведай свайго бацьку ці суседа —
Пагамані і раскажы, што ў нас
Тут дзеялася добрага й благога

---

Алесь БЯЛЯЦКІ

# КАХАНКА ДЛЯ САМАГУБЦЫ



## Апавяданне

Раніцай я шыбаваў з свайго чацвёртага пад'езда студэнцкага інтэрната на першую пару. На вуліцы было золка, хаця ўжо наступіла вясна. Начны мароз прыхапіў лёдам плыткія калюжыны і можна было ісці не выбіраючы дарогі. А каля першага пад'езда, на рагу нашага інтэрната, мне паказалі цёмную пляміну на асфальце з раструшчанымі аскабалкамі тонкага ледзянога шкла і сказалі, што гэтай ноччу з даху сюды скокнуў нейкі невядомы хлопец. Галава ягоная трэснула і ногі закінула на спіну.

Я хутка прабег каля гэтай пляміны, краем вока ловячы, што цёмная кроў на чорным асфальце амаль не заўважная і што калі б не папярэдзілі, дык можна было б прайсці проста па ёй.

У той дзень была толькі адна пара, і праз паўтары гадзіны я ўжо вяртаўся назад. Сонца растапіла лёд, ходнік заліло вадою і даводзілася ісці паўз броўку, дзе за зіму снег укамянеў і нават зараз яшчэ ляжаў цёмнаю грэбляю і не распаўзаўся пад нагамі. На рагу інтэрната, дзе скінуўся самагубца, у гумовых галёшах з дзеркачом у руках корпалася дворнічыха. Я спыніўся і заварожана паглядаў, як яна зганяе паружавелую ваду да сцёкавых кратаў, шоргаючы дзеркачом па асфальце. Часам яна вярталася назад, захоплівала шырэйшае кола вады і змывала асфальт па другім разе начыста. Падхопленыя хвалькамі, лена куляліся наперад вымытыя ашмёткі мазгоў. Усё было проста і звычайна. І дворнічыха ў галёшах з дзеркачом на дзержаку і з чырвонымі пасіveранымі рукамі надавала ўсяму нейкую свойскую, зусім нармальную атмасферу. Мне чамусьці згадалася родная бабуля, якая заўсёды замывала кроў пасля заколатага парсюка, каб не залізвалі сабакі.

Але думаць пра ўсё гэта не хацелася. Усё ж такі на двары была вясна. Я адвёў вочы ад дворнічыхі і ўбачыў у сябе пад нагамі ўпэцканы ў бруд, набрынялы вадою вучнёўскі сшытак, які быў складзены напалам і без вокладкі. Я інстынктыўна нахіліўся, выхопліваючы яго з бруднае жыжкі. Першая старонка была моцна выпацканая, і толькі адзін з ніжніх сказаў можна было разабраць. Я прабег па ім вачыма: «... нічога гарачага і не паліў. Доўга хадзіў у «Рамонак», прынюхваўся да розных духоў і крэмаў, пакуль не пераканаўся, што яе пах — гэта пах лаванды». Я агледзеўся па баках і ўсунуў сшытак у кішэню сваёй студэнцкай торбы. Я раптам зразумеў, што гэта быў сшытак самагубцы, які падаў разам з ім з даху нашага інтэрната і адляцеў убок, а зраніцы проста быў нікім не заўважаны і прытаптаны ў бруд.

У інтэрнаце я згатаваў сабе гарбаты, адчыніў дзверы на гаўбец, каб праветрыць пакой, і сеў у свой улюбёны стары фатэль, які перадаваўся студэнтамі па спадчыне няведама з якіх часоў.

Сшытак быў спісаны буйным пісьмом, якое лёгка чыталася, але запісы вяліся атрамантам і месцамі зусім расплыліся. Гэта нельга было назваць дзённікам, бо дат і якой-кольвек перыядычнасці не было. Хутчэй проста асобныя запісы, якія, як бачна па зашмальцаваных рагах сшытка, ён заўсёды цягаў з сабою.

Пэўны час я вагаўся, ці маю права на гэтыя запіскі, а затым падумаў, што ўжо на вуліцы прачытаў першы сказ.

Апроч таго, павінен жа хтосьці ведаць, чаму гэты хлопец скокнуў з даху, дык чаму б і не я, які выцягнуў гэты сшытак з бруду. Я адгарнуў першую неразборлівую старонку і пачаў чытаць:

«... адсутнічае... заўсёды штосьці адно. Жыццё шматмернае і рознабаковае. Але ці здольнае яно злучыць у адзінае цэлае тое, што існавала фрагментарна ў розныя гады і нават у розныя эпохі. Трэба няспынна шукаць, і я калі-небудзь сустрэну яе. Наш горад такі вялікі. Але я павінен знайсці яе як мага хутчэй, хаця цяжка мне будзе вызначыцца. Ведаю адно, я пазнаю яе па паху лаванды. Ружа і бэз, нарцыс і палын, гіяцынт і жасмін — усё мінае і выпетрываецца, як дым. Толькі лаванда вечная, ёй не страшны час.

Я раб твой, Моніка, да скону жыцця я буду стаяць перад табою на каленях, не адводзячы вачэй. Але ж дзе ты, Моніка, дзе ты...

...Ехаў у тралейбусе. Яна сядзела наперадзе і я мог бачыць толькі яе шыю, чорныя з сіняватым адлівам асірыйскія косы, міндалёвы персідскі разрэз вачэй і роўны носік, як у Неферціці. Здаецца, яна была жыдовачкаю. Яна трымалася за парэнчу, і я звярнуў увагу на пяшчотную лінію яе рукі, на далікатную белую скуру яе шыі, чыстую як алебастр з матаваю падсветкаю знутры. Так свіціцца персік, набрынялы гарачымі летнімі промнямі. Яна была чароўная, як усходняя багіня. Косы яе пахлі лавандаю. О, Наэмі, я амаль што паверыў, што гэта была ты... пасміхнулася і сэрца маё адарвалася і ўпала на брудную, запляваную тралейбусную падлогу. Я горка памыліўся. Зубы, паедзеныя карыезам, чорныя, гнілыя аскабалкі тырчэлі ў яе ў роце. Я чуў, які балотны водар ішоў ад гэтых зубоў, і нават лаванда не магла перабіць іх атрутны пах.

Я выскачыў з тралейбуса проста перад святлафорам, расціснуўшы дзверы сілаю, ушчаміўшыся туды, як вуж, і ледзь не пакінуўшы ўсярэдзіне свой чаравік. Але гэтае расчараванне толькі надало мне сілы, я ліхаманкава кінуўся ў натоўп, перабіраючы людскія аблічча і адкідаючы іх ад сябе, як бракаваныя дэталі з канвеернае стужкі. О, што б я рабіў, калі б не меў вачэй!..

... зайшоў у касцёл. Я нават не ведаў, што яго адчынілі. Раней тут быў нейкі спартыўны склад і я некалькі дзён працаваў тут, цягаючы з месца на месца хакейныя кійкі. Зараз у сярэдзіне ішоў рамонт. Скрозь стаялі рыштаванні, і нават драўляны крыж на іхнім тле здаваўся нейкай функцыянальнай папярэчынай. Людзі стаялі паміж драўляных падпорак у пэўным парадку, як шахматныя фігуры. Я прабіраўся наперад, як снуючы конь, шукаючы незапоўненыя краткі. І раптам спыніўся, бы скамянелы. Праз моцны пах ладану, пушчаны па касцёле з кадзіла, прабівалася лаванда. Ад гэтага паху ў мяне, здаецца, размягчаюцца косці і дзервянеюць мазгі. Але хутка я апрытомнеў і ўбачыў перад сабою Анастасію. О, Анастасія! Ногі мае не трымалі мяне, калені падагнуліся і я ўкленчыў перад табою, як і абяцаў.

Раскошныя валасы спадалі на плечы твае. Гэта быў каштанавы вадаспад, што ззяў і пераліваўся ад сонечнага промня, які прабіваўся ў касцёл з нейкай шчыліны. О, Анастасія, плечы твае, бы два палеткі, па якіх раскінуліся духмяныя хвалі косаў, і бачны з-пад іх толькі кончыкі тваіх мармуровых лапатак. І хітон твой муаравымі складкамі спадае да пят і не хавае ён дасканаласці твайго стану і спеласці тваіх ног. О, Анастасія, я буду стаяць так перад табой вечна!

... страх ахапіў мяне. А раптам, калі яна павернецца, я ўбачу зусім не тое, пра што так доўга марыў. Я не вытрываў бы гэтага. Чым болей я ўглядаўся ў яе плечы, у яе раскінутыя ззяючыя валасы, тым болей мяне апаноўвала няўпэўненасць, недавер. Мяне затрэсла, як у ліхаманцы, і, здаецца, пачаў дрыжэць касцёл. Рыштаванні гатовыя былі абваліцца на мяне. Здавалася, сэрца маё зараз разарвецца ад страшэнных і супярэчлівых думак. О, не, толькі не падман! Я куляю вылецеў з касцёла і пабег няведама куды. Ачомаўся я на лаўцы ў гарадскім парку. Адчай і жаль ахапілі мяне. Нашто я гэта зрабіў, Анастасія! Больш я ніколі не ўбачу цябе!..

... падставіў самы край чаравіка. Трамвай роўна адпілаваў мне яго, здзёр скуру на вялікім пальцы, а таксама два пазногці. Было вельмі балюча. Спазмы схапілі мой мачавік і я ледзьве дакульгаў да кіёска «Саюздруку». Фізічны боль надаў мне новай энергіі ды імпэту. На добры лад трэба было б адпілаваць сабе ўсю нагу, але як я тады знайду сваю Пенелопу? О, Пенелопа, я буду шукаць цябе вечна! Я буду нікаць, як хорт, дзе толькі змагу, але знайду цябе!

... я думаю пра яе ўвесь час і калі-нікалі мне здаецца, што варта толькі працягнуць руку і я дакрануся да яе. Хваля захаплення і радасці прабягае тады па ўсім маім целе і я адчуваю сябе амаль шчаслівым...

... Яна ішла па асфальце басанож, так, як ходзяць па нябесных аблоках. І сапраўды, саладкаваты на смак туман засціляў вуліцу. Неонавая рэклама фарбавала яго ў розныя прыгожыя калёры. Яна плыла над асфальтам, пераступаючы па сівых аблоках. Падкрэсленымі абрысамі ў размытай начной прасторы ззяў яе люмінісцэнтны плашч, які сыпаў у розныя бакі электрычнымі іскрамі. Я

За іх адсутнасць доўгую...
Дарэчы,
Мажліва, гэта слова да цябе
Я ўсё-ткі надрукую ў нашым «ЛіМе»
І, ведама, вясковай нашай мовай.
Мяркую, што і Там яна не ўмёрла,
Бо столькі беларусаў узнеслося
На вуснах з крэўным словам ад Мацея,
Каторы празываўся Бурачком...
Мы Тут будуем новае грамадства
З савецкім чалавечым грубым тварам.
Пра тое скажа вам Міхась Ткачоў.
Паслухайце, бо Тут яго не чулі...
Зямлю не прадаюць і не купляюць
І акурат не абрабляюць нават.
А ўсё паўсюль настолькі ўдаражала
Адносна курсу нашага сумлення,
Што сёння адэкватнае рублю!..
Таму ёсць біржы, нешта тыпу баржы,
Дзе бражнічае некалькі матросаў,
Сплаўляючы па плыні капіталы...
Ды ўрэшце я і сам ва ўсім не цямлю,
Таму жыву з авансу да зарплаты,
А Ванька-узурпатар — кожны дзень...
Нягледзячы на гэта, мы святкуем
Усе на свеце даты, акрамя
Суботы і нядзелі...
Я прашу,
Шапні цераз Апостала няўзнак
Ты Госпаду, што сын твой Леанід
Ніякай не запэцканы крывёю,
Прынамсі чалавечай, бо да ўгодкаў
Тваіх свінчо мы ўсё-ткі прыкалолі...
І калі ёсць Там пэўная работа,
Хай прытрымае для маёй душы.
Я змогся на падзёншчыне... Скажы,
Без выхадных і святаў — дзень і ноч —
Я буду адрабляць зямны аброк свой
З натхненнем і душой...
Ну, што яшчэ?
Сабралася тут маці да цябе
І Млечны Шлях намацвае вачыма...
Браты мае ганяюць на машынах,
Згубіўшы ўсе правы на летуценні...
А пра мяне ты ведаеш, таму —
Там месца абжывай, радзей, будуйся...
Бо для таго і вопыт твой зямны,
І лёс бацькоўскі твой,
І Бог — настаўнік...

На гэтым я і скончу свой аповяд,
І з маці перадам, а мо — і сам...

## ЗАЎЧАСНАЕ

I

Баліць маё сэрца
Не метафарычна —
Фактычна.
І б'ецца
Яно арытмічна.

Заціхне пад вечар
Падранкам загнаным,
Ледзь чутна трапеча,
Залізвае раны...

Каб лена і мляўка
Сустрэўшы світанак,
Зняможана хаўкаць
Ля зёлкавых шклянак...

Яно адхварэла
За лёс і за словы.
І, вось, — адгарэла:
— Бывайце здаровы!

Туфты не крымзольце,
Сябры, ў некралогу;
Між вас — на самоце —
Я здолеў дарогу

Ад слова да сэрца...
А з крэсла на лаву
І сам я — паверце —
Як-небудзь ды лягу,

Нямы і груvасты,
Бы камень, спакойны...
Жыцця ўжо не варты,
А смерці — дастойны.

II

Час надыдзе паміраць —
Дайце свечку ў рукі.
Буду светла памінаць
Радасці і мукі,

Што прыпалі на мяне
За грахі і цноту...
Памяць хай не абміне
Самую драбноту...

Каб у скрайні міг якраз
Я прыпомніў існа:
Дзе, калі, каму я з вас
Зло чыніў наўмысна...

Каб паспеў, нібыта ў сне,
Згледзець тыя вочы,
Што прабачылі мяне
Перад зеўрай ночы,

Каб і сам я заціпліць
Не спазніўся слова,
Наказаўшы доўга жыць
І не дзеяць злога...

І без смутку і жальбы
Адгарэў, як свечка,
Без усякай барацьбы
Класавай...
Навечна.

## ЕРЭТЫЧНАЕ

І ўсё, што адбылося, — неістотна.
І ўсё, што адбываецца, — працяг
Ад семені людскога да пагоста,
Да храмаў, збудаваных на касцях...

Ніхто канцы з пачаткамі не звяжа.
І ўсе, хто тут, — аднойчы будуць там...
Бо ўсё, што адбывалася, — не наша,
І ўсё, што адбываецца, — не нам.

цягнуўся следам, не даючы сабе веры — няўжо гэта мая Люцыя? Яна спынялася і прыязна пасміхалася мне, заклікаючы вабнымі рухамі рук. Ціха патрэсквалі электрычныя разрады, і німб нетутэйшасці ахінаў маю Люцыю.

Я доўга не мог наблізіцца, як сабака, прыціскаючыся да асфальту. Калі б у мяне была пыса і хвост, я заскуголіў бы ад шчасця і задубасіў бы сваім хвастом па асфальце і поўз бы да яе на чэраве, хаваючы між лапаў галаву і вушы. О, Люцыя, я знайшоў цябе, шчасце маё!..

Яна ўзяла мяне за руку, напачатку мяне ўдарыла токам, і я адчуў у начной золі, якая пяшчотная скура на яе далоньках, як у коткі на лапках. Яна пацягнула мяне, злёгку паскрэбваючы маю руку мяккімі пазногцікамі, і я пайшоў за ёю, як сляпы, няўпэўнена пераастаўляючы ногі. Я гатовы быў ісці на край свету, але праз нейкі час мы зайшлі ў кватэру, поўную няяркага святла. На сценах віселі персідскія кілімы, на падлозе ляжала шкура белага мядзведзя. Над уваходам з вітальні ў пакой шчэрыла жоўтыя зубы вялізная рагатая галава лася. Усё было чароўна і незвычайна. Сэрца маё напоўнілася ціхай музыкай бязмежнае пяшчоты да Люцыі. Яна ўключыла магнітафон і гукі, якія я пачуў, дзіўным чынам супалі з маёю ўнутранай мелодыяй.

Мы пачалі рухацца ў такт, не набліжаючыся адзін да аднаго. Люцыя паступова вызвалялася ад вопраткі, як ружа, што скідае з сябе шоўкавыя пялёсткі. І я, зачараваны дасканаласцю яе рухаў, нязграбна і ліхаманкава рабіў тое самае. Хутка мы засталіся, бы тыя першыя Адам і Ева, якія яшчэ не ведалі, што такое сорам. Які там сорам, калі перада мною плавала, ледзь дакранаючыся да паркета, сама дасканаласць. Не апісаць таго захаплення, якое адчуваў я, гледзячы на рукі Люцыі, якія птушкамі луналі ў паветры, на яе роўныя плечы з няўлоўным уздымам каля шыі, на грудзі, якія жылі асобным жыццём. А гэты дзіўны выгіб улоння і кранальная ўмяцінка пупка...

Сутаргавы экстаз ахапіў мяне і я зразумеў, што такое рай. Спустошаны і шчаслівы, я падцягнуўся да Люцыі, абняў яе і схіліў ёй на плячо твар, па якім ліліся слёзы.

... званітавала на шкуру мядзведзя. Скручаны і рыгаючы жоўцю я зграб у ворах сваё адзенне і выпаўз з кватэры. Дасюль мяне блажыць ад паху потнага жаночага цела, якое хіба што з сапраўдным д'яблам займалася нейкім вар'яцкім каханнем. Так, мабыць, патыхала ад усіх жанчын у Садоме. І чаму я забыўся пра лаванду, пах нявіннасці і бязгрэшнасці. О, Амалія, я, мабыць, ніколі не знайду цябе...

... увайшла ў ваду і паплыла на другі бок ракі. Крычаць я не мог. Вакол было шмат пляжнага люду. Я замітусіўся па беразе, грузнучы ў напаленым пяску, шукаючы якога-небудзь чаўна. Але паблізу не было нават зламанае дошкі. І я кінуўся ў ваду за Хрысцінаю, хаця зусім не ўмеў плаваць. Я адчайна гроб рукамі і нагамі, цалкам згубіўшы арыентацыю, у які бок мне трэба было плыць. Рака пранесла мяне метраў са сто і выкінула на водмель, як здохлую рыбіну. Я ляжаў у вадзе, не маючы сілы падняцца, і з сумотаю пагадаў на вытанчаную постаць Хрысціны, якая, як Афрадыта, выйшла з вады, падхапіла з зямлі ручнік і няспешна і грацыёзна сыходзіла ўдалячынь. Вялікая рака аддзяляла мяне ад майго кахання. Я плакаў, шкадуючы, што не навучыўся ў свой час плаваць.

... не знайсці. Апроч таго, мне прысніўся сон, што бранзалет, які я шукаў, раскруціўся ў вужаку і ўкусіў мяне за нагу. Мне было непрыемна глядзець, як гэтая залатая стрэлка, разявіўшы да немагчымасці сваю пашчу, з задавальненнем утыркнула свае вострыя зубы ў маё голае сцягно.

... выходзіў толькі паесці. Ляжу на ложку, заплюшчыўшы вочы, і чакаю яе прыйсця. Я пакуль што не бачу яе, але адчуваю яе прысутнасць. Пахам лаванды напаўняецца мой пакой. Я ляжу, баючыся паварушыцца і напалохаць яе. Мы яшчэ так непрызвычаеныя адзін да аднаго.

... пры месячным святле. Засмужаныя постаць і аблічча яе. Часам яна сядае ў фатэль і тады я любуюся яе профілем: кранальным дзіцячым падбародкам, які мякка з'язджае ўніз, роўнаю рыскаю тонкае шыі, поўнымі вуснамі, выгнутымі вішнёвым лукам, трошкі прыўзнятым носам і цёмнымі абведзенымі вачамі з выразнымі стрэлкамі тушы. Косы яе сабраныя заколкамі ўгору і закінуты цяжкай капою на плечы. Яна нагадвае мне багіню Нэйт, якая ахоўвае спакой і чысціню гэтага свету.

Бывае, што яна спыняецца каля дзвярэй, і я любуюся яе стромкай постаццю, высокімі роўнымі нагамі і абцякальнасцю дасканалага цела. Выгляд і аблічча яе мяняюцца ў залежнасці ад яе жадання, і я з нязгаснаю асалодаю ўспрымаю гэтыя метамарфозы...

... Хутка мы загаворым, і гэта будзе дадатковаю крыніцаю майго шчасця. Які я быў наіўны, што шукаў яе сярод жывых у гэтым натоўпе заклапочаных! І адкуль яна магла там узяцца, там ... гной... у маім пакоі...

... Яна кліча мяне. Я кідаю пісаць, бо яна кліча мяне за сабою! Гэта адбылося! Яна пакахала мяне! Мы дасягнулі...»

Я сядзеў у фатэлі, дарэмна ўзіраючыся ў апошнія размытыя радкі. Чаго ж яны дасягнулі, падумаў я, дапіваючы ачахлую гарбату. І раптам адчуў у пакоі п'янкі і гаркаваты пах лаванды.

## З ПАЭТЫЧНАЙ ПОШТЫ



Тамаш Васільевіч Ляшонак нарадзіўся і вырас на віцебска-літоўскім пагранiччы — у краі, які даў Беларусі сузор'е літаратурных імён: ад Францішка Багушэвіча і Вацлава Ластоўскага да Уладзіміра Дубоўкі і Міхася Машары... Водар мясцовай гаворкі, яе жывасць надаюць адметны каларыт вершам, якія ён піша даўно і, з прычыны прыроднай сціпласці, нікому дагэтуль не паказваў. А вершы Т. Ляшонка цікавыя, яны шчырыя і па-сапраўднаму лірычныя: галоўнае ў іх — вопыт пакалення, чыё маленства выпала на час Вялікай Айчыннай вайны, у іх жа — радасць і смутак мінулых дзён, праца, каханне...

Жыве паэт у Глыбокім і ўзначальвае ўсю энергетычную службу горада. Творы, якія прапануюцца ўвазе чытачоў, — своеасаблівы літаратурны дэбют Тамаша Ляшонка. Пажадаем яму і надалей плённа спалучаць з адказнай працай паэтычнае натхненне, добры душэўны настрой.

Тамаш ЛЯШОНАК

## МАТЧЫНА МОВА

Падчас цябе прарабы цемрашальства
надоўга выцяснялі з гарадоў,
бязлітасна ссылалі на жыхарства
ў глухія вёскі — да бабуль, дзядоў.

На жаль, табой таксама пагарджалі
сябры-суседзі, нават сваякі.
Пяшчоты, цеплыні не заўважалі...
А ты ўсё прыгажэла праз вякі!

Быў час такі — мне сорамна
прызнацца
ў граху вялікім тым, што пакрысе
пачаў і я на мову забывацца,
як землякі мае амаль усе...

І можа — ў тым знайду
я прызначэнне,
што ўсе гады, дакуль
пашчасціць жыць,
прасіць у маці буду прабачэння,
а роднай мове — шчыранька служыць.

Як неба сінь, як водар сенажаці,
як пах жывіцы, пошчак салаўя,
як родны кут, — люблю я мову маці,
цябе, непараўнальная мая!

## НЕПАГАДЗЬ

Раптоўны дождж заспеў
мяне за працай.
І вось, праз нейкі час, я ўжо сяджу,
як у альтанцы, у кусце акацый,
бо тут знайшоў прытулак ад дажджу.

Над горкай Мамчынай —
цяжкія хмары.
Яны імкнуцца пад сабой схаваць
пні дрэў былых, што,
як прышчы на твары,
счарнелыя ў густой траве стаяць.

А побач — парк, здзічэлы, занядбаны,
бо ён нічый — ахвяра тапара.
За ім — палац, дашчэнту зруйнаваны,
краса былога панскага двара.

Шчыруе дождж над возерам і горкай,
кудлаціць вецер хвалі на вадзе,
а мне здаецца, ён са мной гаворку
пра час паданняў і легенд вядзе.

Ён, мабыць, прыгадаў часы прыгону,
ці рэвалюцый розных і свабод,
з якіх, на жаль, было так мала плёну,
затое многа болю і нягод...

Усё прайшло, а на душы трывожна
за горку Мамчыну,
за мілы сэрцу кут...
Сябры мае, вяскоўцы, колькі ж можна
зямлі бацькоўй яшчэ цярпець пакут?!

## БАГАЦЦЕ

Таму, вяшчуюць, жыць багата
і быць шчаслівым на зямлі,
ў каго не раз на даху хаты
буслы гняздо сваё вілі.
Ды вось, на жаль, бусліны клёкат
маю сядзібу абмінуў,
і я сабе наладзіў допыт —
у час мінулы зазірнуў:

успомніў тую сцежку ў полі,
што ў дні юнацтва пратаптаў,
рачулку ціхую, дзе калісь
каханне першае спаткаў;
як цвіў дурнічнік паўз балота,
а ля дарогі — чабарок,
і лета млоснага спякоту,
і на слізгоце хісткі крок;
даверліва рыпелі дзверы
у хаце бацькавай заўжды,
і цёплы бохан на аеры
мне смачна пахне ўсе гады...

Падчас цікава і карысна —
і ў тым зусім няма граху, —
каб запытаць сябе наўмысна:
ці бачыў шчасце на вяку?
Адказ на гэтае пытанне
шукай сярод знаёмых слоў:
калі ў жыцці спазнаў каханне,
то шчасце меў і без буслоў;
калі вакол бацькоўскай хаты
не зараслі травой сляды,
тады, бясспрэчна, ты — багаты,
як і ў найлепшыя гады.

# ВЯРТАННЕ З ПАЛОНУ

## *Эпізоды «Беларуска-польскіх музычных сустрэч»*

ЛЕПЕЙ трапіць у палон цуду, чым трымаць у палоне цуд, калі б тое і ўдалося. Але ж цуд паланіць не ўдавалася нікому. І відавочцы музычнага цуду ніколі не здолеюць утрымаць яго ў палоне слоў. Але дайце веры: цуд быў. Чароўна-чарадзейныя музыканты з Польшчы, ансамблі «Ars nova» Варшаўскага музычнага таварыства ды «Collegium vocale» Паморскай філармоніі з Быдгашча, паяднаныя мастацкім кіраўніцтвам Яцэка Урбаняка, стварапі на канцэртах у Мінску штосьці зусім асаблівае.

Якая вытанчаная музыканцкая культура, які густоўны артыстызм, якая стыльнасць выканання. І якая заразліва-захапляючая **саманасалода** ў творчасці!

Два канцэрты далі падчас фестывалю «Беларуска-польскія музычныя сустрэчы» нашы госці. Шкада, рэклама тых, сакавіцкіх яшчэ, вечароў у зале на Залатой Горцы аказалася настолькі дыстрафічнай, што ейны кліч проста не пачулі патэнцыяльныя стваральнікі ажыятажу, «праспаўшы» такую падзею! Але ж не колькасцю людзей вымяраецца тэмпература ў зале: па цеплыні, жыватворнасці, узнёсласці атмасферы канцэрты польскіх музыкаў былі папраўдзе аншлагавыя.

І ўсё тут было — цуд: і знітаваныя ў антыкварны ружанец польскія духоўныя песняспевы XV—XVII стст., і ўвасабленне іх у сакральным дзействе — з праходамі праз залу, з ламентацыяй ля крыжа. І каларыстычная шматварыянтнасць у спалучэнні вакальных ды інструментальных фарбаў /контртэнар ды фідэль; акапэльны квартэт; дуэт контртэнара і тэнара ды арфа і г. д./. А самі інструменты! Музыканты «Ars nova» граюць на барочных узорах /або копіях/, назвы якіх захавалі водар даўніны і экзотыкі: фідэль, рэбец, мазанкі, псалтэрыум, шаламай, корнамус.

Гранне на такіх рарытэтах і абавязвае музыкаў да валодання пэўнай выканаўчай манерай, і вымагае адпаведнай эрудыцыі ды светапогляду. У спісе «універсітэтаў» Я. Урбаняка, напрыклад, — Каралеўская акадэмія музыкі ў Стакгольме, вывучэнне ранняй іспанскай музыкі ў Мадрыдзе, Барселоне, Таледа. Сур'ёзную еўрапейскую школу прайшла таксама скрыпачка Агата Сапега — дзівосны талент, нібыта сама Музыка ў някідкім высакародным абліччы патомнай прынцэсы. Апантаныя мультыінструменталісты — Тадэвуш Чэхак /псалтэрыум, лютня, ударныя/, Павал Івашкевіч /арфа, флейты, шаламай/.

Дыхтоўны прафесійны грунт дазваляе Я. Урбаняку разам са спадзвіжнікамі дбаць пра сутнасць мастацтва. Займацца музычным слоўнікам пэўнай гістарычнай эпохі, вывучаць спецыфічныя ідыёмы індывідуальных кампазітарскіх стыляў, нацыянальных стыляў. Займацца духам пэўнага часу — г. зн. ведаць асяроддзе, у якім жыла, напрыклад, музыка ранняга еўрапейскага сярэднявечча, умець чытаць і разумець мову жывапісных палотнаў і фрэсак...

У натур творчых інтарэсы неабмежаваныя. І за больш як 10-гадовую гісторыю «Ars nova» ў ягоным рэпертуары ўтварылася гарманічнае мудрае суседства: «восень сярэднявечча» і сучасны авангард, рыцарская лірыка Францыі, Іспаніі, Германіі і рэнесансныя танцы, духоўныя песняспевы і музычна-сцэнічныя творы. Каб гэтая «гара нот» не проста загучала і пачала рухацца, каб аформілася яна ў жывых духоўных істот — на тое і даў Бог музыкам талент пераўвасаблення. У гэтым на першым жа мінскім канцэрце пераканаў прапанаваны «на біс» пасля хрысціянскіх песняспеваў італьянскі твор XIV ст. «Ізабэла»: строгія малітоўныя твары выканаўцаў засвяціліся гарэзлівымі напаўусмешкамі, іншую музыку ігралі нібыта іншыя людзі...

Шырыня ды кантрасты творчых памкненняў Я. Урбаняка робяць асабліва высакароднай яго адраджэнскую пазіцыю: паслядоўна, пастаянна рэанімаваць і паказваць раннюю польскую музыку. Ды не як музейны экспанат, а як бліскучыя, свежыя ўзоры, здатныя стымуляваць мастацтва.

□

На сённяшнім беларускім музычным ландшафце, сплошчаным-адпрасаваным фальсіфікатарамі гісторыі ды самаедамі, таксама /насуперак бяспамяцтву!/ паўстала-ўкаранілася дрэва Адраджэння. Хіба не цуд — яго пладаносная крона? «Беларускай Капэле», напрыклад, і года няма, а плённая дзейнасць маладога творчага калектыву вывела яго ў кола надзейных і перспектыўных, вартых усебаковай, у тым ліку і дзяржаўнай, падтрымкі.

Вось і гэты адмысловы фестываль-сустрэча дзвюх не проста суседскіх — гістарычна роднасных музычных культур, — ініцыятыва «Беларускай Капэлы». Сама яна была прадстаўлена ў канцэртах Ансамблем салістаў «Класік-Авангард» пад кіраўніцтвам Уладзіміра Байдава — гэткай жыццястойкай, трывушчай галінкай на дрэве Адраджэння.

«Класік-Авангард» выступаў падчас фестывалю двойчы. Яму дастаўся цяжар адкрыцця, калі іграць давялося без У. Байдава, якога жалобныя акалічнасці вымусілі тэрмінова з'ехаць у Віцебск, у бацькоўскі дом...

У канцэртах «Класік-Авангарда» быў т. зв. беларускі блок, які натуральна асацыіруецца з тэатралізаванай, касцюмаванай пастаноўкай «Балетнага дывертысмента», прэм'ера якой адбылася падчас II фестывалю «Адраджэнне беларускай капэлы»: Я. Д. Голанд, М. Радзівіл, Э. Ванжура.

Быў і скачок з рафінавана-гарманічнага свету музыкі XVIII ст. у імпрэсіі ды рэфлексіі нашых дзён. Шэсць п'ес для струннага квартэта Л. Зялінскай, «Solo. Duo. Trio» для габоя, кларнета і фагота З. Багінскага, Трыо для флейты, гітары і ўдарных В. Катоньскага. Гэтыя творы сучасных польскіх кампазітараў, спецыяльна падрыхтаваныя да фестывалю беларускімі музыкантамі, родніць рацыяналістычнасць аўтарскіх пошукаў, загадкавая няпэўнасць вобразнага зместу, непрадказальнасць развіцця.

Зусім класічнымі глядзяцца ў такім стылістычным кантэксце «Танцавальныя прэлюдыі» патрыярха музыкі В. Лютаслаўскага. Жыццярадасная, укаранёная ў жанравы каларыт, гэтая пяцічасткавая сюіта для камернага аркестра дала магчымасць раскрыцца творчай асобе кларнетыста Г. Забары. Кларнет мае ў гэтай партытуры прывілеяванае становішча, і саліст натуральна імкнуўся паказаць «вакальныя» вартасці свайго інструмента, спеўныя фразы якога гучалі тут жыццялюбна, пяшчотна, шчодра, у адпаведнасці з вышэйшай мастацкай логікай.

Былі і самабытныя творы маладых беларусаў У. Каральчука — «Musica dolorosa» для голасу і камернага ансамбля /саліст В. Скорабагатаў/, В. Капыцькі — «Біблейскія сцэны» для камернага ансамбля, Я. Паплаўскага — «Навела» для гітары і струннага квартэта з керамічнымі звонікамі. Тры непаўторныя светы, якія пераўвасаблялі ансамбль віртуозаў у тонкі й складаны аркестравы арганізм.

□

Непаўторна мудрагелістая беларуска-польская культурная сітуацыя мо як не што іншае сведчыць: высокае мастацтва не ведае межаў і мытных праверак. Яно непадзельнае, як паветра, і жыццёва неабходнае чалавецтву, як паветра...

Але мяжа — была. Рэальная.

Фестываль працягваўся ў Польшчы, і называўся цяпер «Polsko-Bialoruskie Spotkania Muzyczne».

Музыканты, бывалыя вандроўнікі, асабліва не нудзіліся ў дарозе. Размовы, жарты, клопат, згадкі, — усё пра свае інструменты ды нотныя партыі, пра творчыя праблемы і прафесійнасць. Нават анекдоты з армейскага жыцця былі праўдзівыя і тычыліся службы ў знаным вайсковым ансамблі. А лейтматывам падарожных дыялогаў зрабілася абгаварэнне канцэртаў суполкі Я. Урбаняка...

Пачуццё гумару — найлепшае для падарожнікаў — цудам, а ўсё ж ліпела ў нашай кампаніі й на граніцы, пераезд праз якую каштаваў амаль столькі часу, колькі доўжылася дарога ад Мінска да Брэста. Нягледзячы на паабяцаную для аўтобуса з гастралёрамі «зялёную вуліцу», мы апынуліся пад стоп-сігналам і нібыта загразлі ў бруднай каляіне.

З чарады «Ікарусаў», нашпігаваных пульхнымі валізамі, каробкамі, рознакаляровымі скруткамі, уражана глядзелі ў нашыя вокны саматужныя камерсанты. Так, у наскрозь празрыстым салоне, дзе кожны з 20-ці вандроўнікаў займаў «лаву» ажно з двух крэслаў, не было пірамідаў пакункаў, затое можна было ўбачыць праз шкло выпрастанае на вешалцы плячо фрака... Мо менавіта сціплы багаж і выклікаў падазронасць пагранічнікаў?

Без сварак і эмацыянальных выбухаў музыканты перацярпелі працэдуру прынізлівага чакання, бесцырымоннага «досмотра». Я міжволі паглядала на прыгожыя, тонкія рукі нашых мужных хлопцаў, калі міма праплывалі кабеты «манументальнае красы» з хваткаю атлетаў-гіравікоў, цягнучы штабелі каробак пад назваю «Игра футбол» ды яшчэ нешта, схаванае ў шмат'ярусных клунках. Няўжо гэтай энергіі, моцы, спрыту не хапіла б на тое, каб здабываць свой хлеб нейкім іншым спосабам?

Далі-такі мае спадарожнікі волю інтэлігенцкаму абурэнню, калі, пасеўшы нарэшце ў аўтобус і наважыўшыся падсілкавацца, заўважылі нахабна-зневажальны выбрык «надзорцаў парадку». Аказваецца, аглядаючы салон аўтобуса ў нашу адсутнасць, тыя напароліся ў торбе з музыкавым харчам на пляшку гарэлкі, адкаркавалі, быццам сувенір быў прызначаны для іх, выжлукцілі ледзь не да донца і ткнулі паўлітроўку, як было, у газеціну. І таго, што на баку пацярпелага — закон, не спалохаліся.

Так маленькая, ды ўлада выстаўляецца перад культурай: маўляў, музыканцікі — ваша месца ў канцы чаргі...

Каб не здрадзіла пачуццё гумару, заставалася толькі пагартаць свой загранпашпарт і ў ціхім захапленні перачытаць радок пра тое, што дакумент гэты «является собственностью Союза Советских Социалистических Республик».




*Варшаўская афіша.*



*«Каменная кветка» — старажытны Гданьск...*

□

Што значыць мудрасць раніцы! Дабратворны сон у атэлі «Павісле», сонечная пабудка, даволі шчодра расклееныя ў горадзе афішы беларускага ансамбля з такімі пранізлівымі словамі: «Tylko jeden raz w Warszawie!», шляхетная сцішанасць знакамітых Лазенак Крулеўскіх, дзе меў адбыцца канцэрт, — дый шмат што іншае дадало мажору ў настрой.

Візітуючы ў Варшаве колькі летаў таму, мы з калежанкаю Жанай Лашкевіч памкнуліся ў Лазенкі на канцэрт, дый паблукалі ў парку, шукаючы таямнічы аб'ект «Стара памараньчарня». Знайшлі. Нічым, здаецца, не адметны звонку дом, у кутку «бакавіны» якога была абсталявана ўтульная пляцоўка пад адкрытым небам. Зацішак, цудоўная акустыка, аксамітныя шаты дрэў, класныя музыканты, культурная публіка... Амаль праз чатыры гады зноў апынулася ля тых летніх лавак у бязлюдным зараз кутку: яшчэ не сезон. А за звычайнымі пафарбаванымі белым дзвярыма ды някідкімі сценамі знаёмага збудавання, аказваецца, хаваўся цуд — Тэатр Станіславоўскі ў Старой памараньчарні /аранжарэі/.

Пабудаваны ў 1784-88 гг., прызначаны для каралеўскага двара Станіслава Аўгуста, ацалелы да нашага часу. Сцены залы — з дрэва, паліраванага, афарбоўка імітуе мармур; між ложаў — фігуры жанчын, якія трымаюць падсвечнікі; плафон распісаны выявай Апалона на квадрызе, партрэтамі Сафокла, Шэкспіра, Расіна, Мальера; жывапісны пас над партэрам адлюстроўвае аркестравыя ложы, запоўненыя людам; над сцэнай — відарыс герба Рэчы Паспалітай ды шчыт герба Панятоўскіх. Стылёвая мэбля. За сцэнай таксама ўсё з дрэва: і старасвецкія «каласнікі», і пакручастыя лесвічкі. Цікава, што ў арнаментальнай аздобе, амаль пад столлю, гітарыст Валеры Жывалеўскі ўгледзеў... лютню, папярэдніцу свайго інструмента, распаўсюджаную калісь і на землях беларускіх.

«Класік-Авангард» пачынаў рэпетыцыю. Мастацкі кіраўнік «Беларускай Капэлы» Віктар Скорабагатаў і яе дырэктар Яўген Паплаўскі выправіліся ў адведкі да старшыні Таварыства сяброў С. Манюшкі пані Марыі Фолтын /пабываўшы ў якой атрымалі запрашэнне на сёлетні, XXXII Фестываль Манюшкоўскі/.

А рэпеціравалі не ў гуморы. Акустычна складанаю аказалася пляцоўка: выканаўцы не чулі адно аднаго, хаця ў зале ўсё ўспрымалася цудоўна. Яшчэ і настройшчык не давёў да ладу клавесін, і зарыентаваныя кожны на сваю ноту, музыканты «не строілі». Адначасова паверхам вышэй пачалася рэпетыцыя польскага ансамбля, які меў канцэрт у галерэі скульптуры — маэстра Байдаў толькі бездапаможна азіраўся на гукі Палянеза Вяняўскага ці «Пораў года» Вівальдзі...

Кампенсаваць выдаткі ранішняй рэпетыцыі давялося перад канцэртам. Дзіва, але пер-

шы, каго ўбачыла я на прыступках Старой памаранчарні, быў наш зямляк Мікола Стома. Той самы, які павучыўся ў класе прафесара Д. Смольскага і прадужае сваю кампазітарскую адукацыю ў Варшаўскай акадэміі музыкі. Вось дык Мікола: захапіў з сабою інструмент для настройкі раяля — раптам спатрэбіцца «падцягнуць»! А ў кулуарах тэатра чулася рафінаваная і адначасова дзелавая беларуская гамонка: гэта кіраўнік гастроляў, нястомны менеджэр «Класік-Авангарда» і дасведчаны музыкант Мацвей Кацнельсон даваў інтэрв'ю карэспандэнту беларускай рэдакцыі Варшаўскага радыё... Спакваля запаўнялася зала. Прыйшлі прадстаўнікі замежных пасольстваў у Польшчы, кіраўнікі Міністэрства культуры і мастацтва краіны, музыканты...

Не проста ўхвалы, а захаплення заслугоўвае шчодрая гасціннасць арганізатараў «Polsko-Bialoruskich Spotkań Muzycznych», якія дамагліся для беларускіх артыстаў менавіта гэтай дзівоснай пляцоўкі. Тэатр у Старой памаранчарні — не проста прыгожы экзатычны, ці ў нейкім сэнсе аўтэнтычны куток дауніны. Гэта і т. зв. закрыты аб'ект, дзе канцэрты адбываюцца нячаста і збіраюць элітарную /«эксклюзіўную», як вызначыў хтосьці з палякаў/ публіку. А прэстыжная зала ды ўвага дасведчаных і ўплывовых асоб — немалаважна для сённяшняй пазіцыі нашага мастацтва ў свеце, прынамсі, для яго самавызначэння ў агульнаеўрапейскім музычным працэсе.

Дырэктар Дзяржаўнага канцэртнага бюро Малгажата Блох, арганізатары канцэртаў Вальдэмар Дабржанецкі, Дарота Хатуньска, дырэктар Лазенак прафесар Марэк Кваткоўскі, супрацоўніца Міністэрства культуры і мастацтва Польшчы, наш добры гід Аліна Шаламіцка, — думаю, гэтым людзям належыць доля воплескаў, якімі ганаравалі праграму «Класік-Авангарда», наведнікі элітарнай сталічнай залы.

А што ж сам канцэрт, якому папярэднічала слова музыказнаўцы М. Камароўскай і які доўжыўся больш за 2 гадзіны без перапынку? Хваляваліся музыканты /дый я разам з імі/, бо ўдзельнічалі ў першай афіцыйнай акцыі — прэзентацыі беларускага музычнага мастацтва, што сталася вынікам адпаведнага пагаднення паміж міністэрствамі культуры Беларусі ды Польшчы.

Можна доўга маніпуляваць словамі, распавядаючы «пра тое, як». Як вытанчана прагучала сола флейты /У. Буры/ на пачатку уверцюры Голанда да балета «Арфей і Эўрыдыка», як чуйна падтрымаў яго клавесін /У. Дулаў/ і следам — струнная група; як урачыста і радасна, у суладдзі адно з адным, разгарнуліся галасы духавога квартэта /С. Сергіенка, Г. Забара, А. Даннік, У. Буры/, выводзячы імклівую фугу. Як заразлівы тэмперамент піяністкі Б. Штэйнбук не толькі ўзрушваў публіку, а і нібыта перадаваўся самому раялю! І гэтая рэдкасная шматаблічнасць ударніка У. Судноўскага: быць і грунтам, канвою твора, яго дыханнем і пульсам, і яго фарбамі. А як артыстычна «класік» злучаўся з «авангардам» у Байдаве! А якім прыгожым, цёплым гукам узбагачала палітру ансамбля маладая скрыпачка А. Жарэга /кантылена ў ІІ ч. «Сцэн» В. Арцёмава/. А трывожная, суровая, мужная труба /В. Волкаў, артыст аркестра «Няміга»/ у «Біблейскіх сцэнах» В. Капыцькі нібы абвяшчала «зорную гадзіну» знанага саліста.

Дарэчы, аўтар «Біблейскіх сцэн» прысутнічаў у зале, і букет шыкоўных аранжарэйных кветак «сам знайшоў» кампазітара ў час авацый — такая тут традыцыя. І ўвогуле — слабое ацяпленне залы /дамы апранаалі футра/ кампенсаваў гарачы прыём публікі.

Пасля ў галерэі скульптуры /кшталту зімовых садоў у палацах ад Піцера да Алупкі/ быў наладжаны кактэйль-парці з узрушанымі прамовамі, нязмушанымі гутаркамі ды лёгкім пачастункам. Тут ад М. Стомы я пачула штосьць бянтэжлівае: «Ну, ведаеце: такія канцэрты ў Варшаве — не рэдкасць...» І толькі пасля паўзы ён заўсміхаўся і загаварыў пра тое, як гэта радасна і важна для нас, што ў плыні інтэнсіўнага музычнага жыцця польскай сталіцы, спешчанай візітамі выбітных майстроў, канцэрт беларускага калектыву не згубіўся. «Класік-Авангард» паказаў сябе калектывам сусветнага ўзроўню. Жывучы тут, я маю з чым параўноўваць», — дадаў Мікола.

Знаёмцы з ансамбля «Ars nova» спяшаліся на свой канцэрт у адзін з варшаўскіх касцёлаў, а ўсё ж завіталі паслухаць ды павіншаваць беларускіх калег. Мала таго. Яшчэ ў Мінску габаістка С. Сергіенка пацікавілася інструментамі, на якіх іграюць музыканты «Ars nova». Разглядаючы набор, якім карыстаецца ейны калега Я. Урбаняк, Святлана між іншым заўважыла, што хацелася б яшчэ пабачыць барочны габой. Сказала і сказала. Якое ж было ўражанне, калі пан Яцэк адшукаў яе пасля канцэрта ў Лазенках і, атуляючы далонямі нейкую драўляную шкатулачку, прапанаваў той барочны габой пагладзець. На твары яго ным была такая прасветленасць і шчырасць, якую можна ўбачыць толькі на твары захопленага дзіцяці...

□

Пра марафон, у які былі ўкручаны з наступнага ранку ўдзельнікі т. зв. «вузкай групы», можна было б распавядаць асобна. Бо падчас афіцыйных сустрэч ды прыёмаў вызначыліся-акрэсліліся істотныя моманты польска-беларускіх культурных стасункаў.

Намеснік міністра культуры і мастацтва Польшчы Міхал Ягела, павіншаваўшы гасцей з паспяховым выступленнем, падкрэсліў, што міністэрства ахвотна падтрымае ўдзел «Класік-Авангарда» ў праграмах «Варшаўскай восені», калі такое рашэнне прыме мастацкае кіраўніцтва гэтага традыцыйнага міжнароднага фестывалю. Падтрымае і таму, што ансамбль цудоўны, і таму, што «прысутнасць беларускай культуры ў Польшчы — для нас гэта вельмі важна». Пан займаецца польска-беларускімі дачыненнямі, і яму прыемна было зазначыць сваё глыбока асабістае сентыментальнае стаўленне да самога слова «Беларусь»: гэта, маўляў, вытлумачальна, бо якое сугучча прозвішчаў «Ягела — Ягайла»... Пан мае добрыя адносіны са сваімі беларускімі калегамі Я. Вайтовічам, У. Рылаткам, з паслом Рэспублікі Беларусь У. Сенькам ды другім сакратаром пасольства У. Карапьчуком /які, дарэчы, шчыра намі апекаваўся/. Ведае пра плённы візіт пані Фолтын у Мінск ды Убель.

Важнай часткай размовы з панам Ягелам стаўся расповяд пра падтрымку на дзяржаўным узроўні нацыянальных меншасцей, якія жывуць у Польшчы, і найперш, вядома, беларусаў, чые тэрыторыі апынуліся за межамі роднае краіны.

Апелюючы непасрэдна да мяне, віцэ-міністр называў лічбы. Датацыя на выданне беластоцкай газеты «Ніва», прадугледжаная датацыя для Беларускага культурнага таварыства, літаб'яднання «Белавежа», для аб'яднання беларускіх журналістаў, для праваслаўнага брацтва, БАСа, для будаўніцтва музея ў Гайнаўцы... Агульная сума дзяржаўнай датацыі на культурныя патрэбы беларусаў у год складае каля 2,2 млрд. злотых. Пан Ягела выказаў спадзеў, што Міністэрства культуры Беларусі будзе рабіць аналагічныя крокі, каб падтрымаць культурныя патрэбы польскай меншасці. /Падтрымка, вядома, не толькі будзе — яна была і ёсць: напрыклад, польская газета «Глос з-над Немна» мае датацыю ад беларускай дзяржавы/.

На развітанне атрымала я сімвалічны гасцінец ад пана Ягелы. «Гасцінец» /такая аманімічная назва/ — прыгожа выдадзеная кніга, анталогія паэзіі ды прозы літаратурнага згуртавання «Белавежа» /Беласток, 1992 г./, дзе арыгінальным тэкстам спадарожнічае паралельны пераклад на польскую. Спонсар гэтага ўражлівага кнігадруку — Міністэрства культуры і мастацтва Польшчы.

□

А што ж «Варшаўская восень»? Дасюль беларускія выканаўцы не мелі магчымасці ўдзельнічаць у гэтым прэстыжным форуме новай музыкі. Сёй-той ездзіў, слухаў, захапляўся, расказваў. Музыказнаўца І. Зубрыч нават у «ЛіМе» дзялілася сваімі ўражаннямі. Але быць госцем на чужым свяце, маючы яго патэнцыяльных чыннікаў — класных музыкантаў?.. Можна зразумець, чаму нашы варшаўскія размовы працінала пытанне: «**Як** можа «Класік-Авангард» зрабіцца раўнапраўным удзельнікам гэтага фестывалю?»

У Саюзе польскіх кампазітараў, дзе нас прымаў старшыня саюза доктар А. Хадкоўскі ды яго калегі, паўстала тое самае пытанне. Аказалася, шанц ёсць. Па тым, як дэталёва абмяркоўвалі польскія музычныя дзеячы і канцэрт, і склад ансамбля, было зразумела, што іхнія словы захаплення — не толькі знак добрага тону гаспадароў. У Польшчы больш распаўсюджаны маналікія камерныя ансамблі, пераважна струнныя. На такім фоне калектыў, у якім згуртаваны дзесятак добрых музыкантаў, у складзе якога выбітная духавая група, — з'ява сапраўды неардынарная. Для нашых суседзяў, як высветлілася, духавікі ўвогуле... «дэфіцыт». І супрацоўніцтва з «Класік-Авангардам» уяўляецца польскім кампазітарам перспектыўным, бо ўжо сёння ёсць творы, якія не выконваюцца толькі з-за таго, што няма належных інструментальных складаў. Калектыў Байдава — тое, што трэба, па сваім складзе ён блізкі да польскай «Камераты віступы», спецыяльна для якой шмат створана кампазітарамі. Немалаважна, што да фестывалю «Класік-Авангард» падрыхтаваў розную сучасную польскую музыку. І тое, як, напрыклад, прагучала ў выкананні беларускіх майстроў «Solo. Duo. Trio» З. Багінскага, вельмі ўразіла аўтара, выклікала ягоную надзвычайную ўдзячнасць.

Альгерд Пісарэнка, які мае непасрэднае дачыненне да арганізацыі «Варшаўскай восені», заўважыў, што калі з'яўляюцца новыя творы, а іх няма каму выканаць, узнікаюць праблемы. Вось чаму выдатны беларускі ансамбль мае шанц выступіць на фестывалі 1994 г. Праграма «Восені» складаецца загадзя, таму сёлета шанц мог бы з'явіцца толькі выпадкова і ў апошні момант, калі б раптам нейкі калектыў не змог прыехаць у Варшаву. Але на гэта спадзявацца не варта. Як не варта і ўдзельнічаць у дадатковых фестывальных мерапрыемствах, якія апынаюцца на перыферыі ўвагі і публікі, і прэсы. Польскім сябрам хочацца, каб «Класік-Авангард», у складзе якога добрая палова — лаўрэаты міжнародных конкурсаў, быў прадстаўлены дастойна, у галоўнай праграме фестывалю.

Калегі дамовіліся наконт абмену запісамі, нотамі, наконт удзелу аднаго з камерных калектываў Польшчы ў сёлетнім фестывалі «Адраджэнне беларускай капэлы», запачаткаваўшы ўзаемаважныя справы ў польска-беларускіх музычных стасунках.

□

Жывём побач, малая геаграфічная адлегласць, здавалася б, не замінае сталым кантактам, аднак суседскія зносіны, як заўважыў пасол нашай рэспублікі ў Польшчы У. Сенька, не на лепшым узроўні. Ездзіць у Польшчу шмат нашых грамадзян, ды, на жаль, убачыш іх больш на рынках, чым у канцэртных залах...

Гутарка ў пасольстве Рэспублікі Беларусь на вуліцы Атэньскай атрымалася інтэнсіўнай. Спадара пасла здзівіла і парадавала ўсё, што казаў В. Скорабагатаў пра музычнае жыццё ў XVIII ст. на беларускіх землях, пра навуковыя працы Г. Барышава і В. Дадзіёмавай, пра дзейнасць «Беларускай Капэлы», пра культурныя традыцыі Віцебска і Гародні, пра стварэнне Фонду Манюшкі ды пошук памяшкання для Капэлы, якім, згодна са здаровым сэнсам і гістарычнай логікай, павінен стаць пасля рэканструкцыі мінскі дом Манюшкі.

Канешне, засмучэння варта, што беларускае пасольства не атрымлівае «ЛіМ»: не давялося б тады В. Скорабагатаву гэтак падрабязна інфармаваць нашага земляка пра музычнае жыццё на радзіме. Але ж усцешыла і шчырая цікавасць, і захопленасць, і кароткая прамова спадара Сенькі:

*— Ваш канцэрт даў мне вялікую асалоду. У музыцы няма слоў, але для мяне было важна, што ў вашай музыцы нібыта гучала слова «Беларусь», што падкрэсліў і намеснік міністра культуры Польшчы пан Лукашэвіч. Пра нас, пра Беларусь, мала ведаюць, у свеце ёсць агульнае ўспрыманне СНД. Але ўжо ідзе вялікая крышталізацыя нашага іміджу, і вельмі важна тое,* ***што*** *робіць рэспубліка за мяжой. У гэтай сувязі роля культуры беларускай агромністая. Я вельмі задаволены, што ваш канцэрт выклікаў вялікую цікавасць дыпкорпуса — было шмат пасloў з жонкамі. Вы ведаеце, на што здатныя дыпламаты, але тут яны дзякавалі шчыра, і гэта радуе.*

Спадар пасол адзначыў, што ў Польшчы ёсць разуменне нашых праблем і ёсць зрухі ў бок больш натуральнага ды актыўнага абмену ў галіне культуры. Падпісанне дамовы паміж двума міністэрствамі, усталяванне зусім натуральных суседскіх кантактаў адкрывае для нас шлях у Еўропу. З часам і на Беларусі, як у Польшчы, можа зменшыцца датацыя на культуру. Але, мяркуе пасол, з гэтым нельга спяшацца, бо ў беларускай сітуацыі гэта азначала б загубіць культуру на пачатку развіцця сваёй дзяржаўнасці, што было б недаравальна і непапраўна.

«Вы робіце вялікую справу, — неаднаразова падкрэсліваў наш зямляк. — У які перыяд вы ствараеце, якая адказнасць на вас кладзецца!» Падумалася: і на дзяржаву. Бо калі яна не падтрымае мастацтва зараз, то заўтра страціць сэнс усё астатняе: і эканоміка, і палітыка...

**(Працяг на стар. 12)**




*«Ars nova» плюс «Collegium vocale» пад кіраўніцтвам Яцэка УРБАНЯКА /першы злева/.*




*Лірычная паўза. Святлана СЕРГІЕНКА, Габой і... Турандот.*

# ВЯРТАННЕ З ПАЛОНУ

(Пачатак на стар. 10-11)

□

Цуд здараецца тады, калі яго зусім і не чакаеш... «Студыя една» Польскага радыё была канцавым пунктам нашага марафона. Запланаваная дзелавая размова пачалася з неспадзеўкі. Захварэў выканаўца, чый запіс быў прызначаны на гэты час, і зусім выпадкова аказалася незанятаю канцэртная студыя, куды нас, каб не туліцца ў адміністрацыйным пакоі, і запрасіў дырэктар студыі Станіслаў Ляшчынскі.

Вось ён, архітэктурны і акустычны цуд: велічэзнае памяшканне, якое падаецца ўтульным з-за цёплага колеру дрэва, шчодра скарыстанага ў афармленні інтэр'ера, з-за спакойнага святла, мяккага акустычнага эфекту, густоўнага абсталявання залы. Успамінаць вялікую студыю Беларускага радыё, у якой адбываюцца самыя важныя, фондавыя запісы для музычнай фанатэкі, — нейк не хацелася...

Новая канцэртная студыя, паведаміў пан Ляшчынскі, пабудаваная ў 91-ым і лічыцца другім пасля філармоніі важным музычным цэнтрам. Зроблена яна ў стылі заходніх студый, дзе запісы ажыццяўляюцца публічна, калі па другі бок мікрафона сядзяць слухачы. Цудоўную акустыку студыі ацанілі першыя выканаўцы — высакакласныя спецыялісты /Рыхтэр, напрыклад/, чыя рэкамендацыя *распаўсюджваецца* сярод музыкантаў, і тыя гатовыя ехаць сюды з канцэртамі, рабіць запісы. Тут ёсць магчымасць увасобіць нават 9-ю сімфонію Бетховена, тут цудоўна гучаць сола. Апроч разнаітых радыёперадач, студыя займаецца падрыхтоўкай *усяго*, што *трэба для* вытворчасці лазерных кампакт-дыскаў. Трывалыя кантакты наладжаны з Саюзам кампазітараў і Таварыствам польскай сучаснай музыкі, канцэрты ўсіх найважнейшых фестываляў трапляюць пад увагу радыё, з якім, зважаючы на складанае эканамічнае становішча ў краіне, працуюць у фінансавай згодзе і філармонія, і выканаўцы.

Тут няма недахвату гукарэжысёраў: Польшча адзіная сярод краін былога сацыялістычнага блока, дзе склаліся традыцыі падрыхтоўкі такіх спецыялістаў. Гукарэжысёраў высокай кваліфікацыі рыхтуюць у Варшаўскай акадэміі музыкі, сёння сярод іх ёсць канкурэнцыя, і «на рынку» можна выбраць цудоўных прафесіяналаў. Між іншым, хтосьці з іх мог бы амаль з ходу запісаць «Класік-Авангард», калі б ансамбль наведаўся ў поўным складзе, з інструментамі...

Як высветлілася, інтарэсы кіраўніцтва студыі ды нашых адраджэнцаў перагукаюцца. І тых, і другіх цікавіць пошук старых нот, рэанімацыя згубленай і забытай музыкі, якую, паводле заўваг С. Ляшчынскага ды ягонага калегі Я. Попіса, «вы лічыце беларускай, а мы — польскай».

Мяккую іронію, з якой прагучала гэтая заўвага, можна патлумачыць. Сапраўды, дастаючы з музычнага куфэрка старасвецкую рэч, мы радуемся самой нечаканай знаходцы, мы любуемся адмысловым ўзорам, спасцігаем стыль штукарства, і не маем асаблівага жадання высвятляць, бабулі «з чыйго боку» тая рэч належала і скуль трапіла ў радзінную скарбонку. Галоўнае, яна тут, мы захапляемся ёю, прызнаём за сваё і не крыўдуем, калі «сваё» бачаць у ёй і суседзі, людзі, з якімі воляю гісторыі мы доўга жылі «пад адным дахам».

Прэзентаваная касета з праграмай В. Жывалеўскага /фрагменты «Віленскага сшытка» ды ягоныя кампазіцыі для гітары «Ліцвінскія фантазіі»/ — гэта і ўсё, што засталося пакуль на Польскім радыё пасля наведвання студыі беларускімі гасцямі? Не, не ўсё: яшчэ засталася надзея на супрацоўніцтва ў галіне адраджэння і распаўсюджвання музычнай спадчыны.

□

Варшаўскі марафон змяніўся доўгім пераездам да Гданьска. Трудная 6-гадзінная дарога настройвала на спавядальны тон, на філасофскі *лад*. Пры сведках-зорах, што пільна і зырка глядзелі ў акно, пад шумнае дыханне «Ікаруса» спадарожнікам гаварылася лёгка. Гаварылі пра тое, што ў іншых акалічнасцях ніяк не афармляецца ў словы... У шчырасці давяральных размоў было — Музыка, Жыццё, Бог. І чалавек. Чалавек як творца нематэрыяльных каштоўнасцей, чалавек як інструмент-праваднік задум творцы нябеснага. Чалавек — як носьбіт зямных жаданняў, асуджаны спрадвек на спасціжэнне жыцця ў самых розных праявах.

Прыкрасць некаторых тых «розных праяў» я вастрэй адчула сярод музыкантаў, чый Кон — тварыць цуд. Узровень выканання ў іх стабільна высокі, а вось цуд бывае не штораз. Тое самае «звыш», якое кіруе майстрам, калі ён укладае душу ў будучы інструмент, шчыруючы над маўклівым кавалкам дрэва; якое натхняе і кампазітара, схіленага над нотным аркушам; якое робіць празарліўцам артыста, калі ён пачынае іграць, ажыўляючы і сам інструмент, і ноты... Тое «звыш» не залежыць ні ад прафесіяналізму, ні ад волі чалавечай.



*Ламентацыя ля крыжа: Ганна МІХАЛАК*

А што казаць, калі музыкант у чаканні гэтага «звыш» вымушаны думаць пра здабыванне *хлеба надзённага для сваёй сям'і*? А што казаць, калі мастакі ад Бога вымушаныя абмяжоўваць сябе нейкімі ўсярэдненымі дасягненнямі, каб маскіраваць заганы канструкцыі сваіх інструментаў? На такіх маральна састарэлых і тэхнічна недасканалых экземплярах, якімі карыстаюцца, напрыклад, віртуозы С. Сергіенка ды У. Буры, не іграюць і пачаткоўцы ў музычных школах замежжа...

Няўжо Беларусь, маладая дзяржава з еўрапейскім радаводам, абыякавая да элементарных патрэб тых, хто спрыяе росквіту яе мастацтва?..

Аднак і Святлана са сваім «зацыраваным» старэнькім габоем, і Валодзя са сваёй маленькай хваравітай, але фанатычна любімай флейтай, дый усе астатнія — са сваімі праблемамі, настройваліся на канцэрт у Гданьску.

Кантрастам да класічных ліній і сілуэтаў Старой памараньчарні быў авангардны інтэр'ер фае Балтыйскай оперы і філармоніі. Каму-каму, а «Класік-Авангарду» гэта толькі «да твару». Выстаўка тэатральнага плаката, інсталяцыі, мадэрнісцкія скульптуры, ажурныя дэкаратыўныя шырмачкі, прыбраныя вельмі моднымі цяпер штучнымі кветкамі, бар, спавіты пластмасавай вінаграднай лазой, з наборам кактэйляў, тыпу «Сімфанічны», «Аіда» і да т. п. За шырокімі шыбамі — шумлівы гданьскі трамвай... Такая вось «зала».

Атмасфера канцэрта ў Лазенках і тут, у Гданьску, таксама рознілася. Этыкет чапурыстага XVIII ст. змяніўся нязмушанасцю сучасных паводзін. І хаця таксама прысутнічалі замежныя дыпламаты /у тым ліку беларускі консул/, сама абстаноўка фае дыктавала «вольны стыль». Шчыльней ссоўваліся крэслы, каб абсталяваць дадатковае месцейка /публікі аказалася, відавочна, больш чаканага/. Завабліва трапяталі свечкі на стойцы бара, і вось ужо хтось з гледачоў спакушаўся кубачкам кавы, а ў антракце сёй-той няблага частаваўся і за столікам. У разгар І аддзялення з'явіліся тэлевізійшчыкі, і не паспеў наш менеджэр абурыцца гэткай беспардоннасцю, як імгненна, зладжана, бясшумна ўстанавілі яны мікрафоны, зрабілі відэазапіс, а перапынак скарысталі для інтэрв'ю з У. Байдавым для Гданьскага ТБ.

Адчулася і асаблівая сувязь паміж музыкантамі ды публікай. І гэтую шчырую давяральнасць не псавала тое, што нехта з артыстаў пачуваўся хваравіта-стомленым, а нехта пачаў фарсіраваць гучанне, збаяўшыся, што замест класічнага пасажа будзе чуваць авангардны грукат трамвая, а ў кагосьць інструмент «не адказваў» на душэўны рух так, як хацелася б у гэтыя хвілі.

Зрэшты, тое — «кухня», на якую пускаюць толькі блізкіх сяброў. А ў «гасцёўні» было па-святочнаму. Чаравалі сольныя фразы С. Сергіенкі. Недасканалая флейтачка ў добрых руках У. Бурага рабілася жывой пеўчай птушкай. «Прэлюдыі» Лютаслаўскага замілоўвалі, як ніколі, Г. Забара іграў асабліва ярка і радасна. Слухачоў захапляла трагедыйная вобразнасць вакальна-сімфанічнага маналога У. Каральчука /«Musica dolorosa» з вершамі Надсана/, падкрэсленая «інфернальнасць» у голасе саліста /В. Скорабагатаў/, суровая экспрэсія струнных /А. Жарэга, Р. Саркісава, А. Хахлоў, В. Яблонскі/. Жывапісная ігра тэмбраў прыцягнула ўвагу да Трыо В. Катоньскага /У. Буры, В. Жывалеўскі, У. Судноўскі/.

Ці можна ўявіць сабе, каб на адным палатне адначасова і кожны сваім пэндзлем малявала некалькі мастакоў і атрымлівалася гарманічная цэласная карціна? Можна. Я ўявіла, калі які ўжо раз слухала «Сцэны» Арцёмава і з асалодай назірала за кожным «байдаўцам».

Апладзіравала публіка горача і выпрасіла «біс»...

Нам пашанцавала на каментатара праграмы. Пані Барбара Журоўска-Сут — музыказнаўца, якая ўзначальвае тут канцэртны аддзел, і, здаецца, было дастаткова ейных захопленых вобразных расповядаў перад кожным аддзяленнем канцэрта, каб і без музыкі настроіць-зацікавіць публіку. Горача гаварыла яна пра пажоўклыя старонкі беларускай музычнай даўніны, якія ажылі ў творчасці «Класік-Авангарда». Гаварыла пра «Беларускую Капэлу» і справу адраджэння нашай роднаснай, а калі й агульнай, культуры. Шмат расказала пра В. Скорабагатава. Успомніла нават пра візіт Марыі Фолтын да Манюшкі на радзіму.

Пасля канцэрта пані Сут апанавалі арганізатарскія клопаты; яна выказала сваё захапленне, пасляшала па справах, пазнаёміўшы мяне з кампетэнтным суразмоўцам — сваім мужам. Гжэгаж Сут — дырыжор, і як прафесіянал ён атрымаў вялікае задавальненне ад ігры «Класік-Авангарда»:

*— Ансамбль вельмі тэхнічны ў музыцы розных стыляў. Сам люблю і ведаю музыку Голанда, але калі зайгралі уверцюру, узрушэнне было такое, быццам загучала музыка Моцарта ці Гайдна. Асабліва спадабалася выкананне «Танцавальных прэлюдый» Лютаслаўскага, адметнае нейкімі «смачкамі», — яно засведчыла сталасць ансамбля...*

□

Мы пакідалі гасцінны оперна-філарманічны дом. Уначы пакідалі й Гданьск, гэткі архітэктурны «класік-авангард», дзе за спляценнем сучасных мастоў, мітуснёй аўтастрад, чарадой пярэстых крамак ды бензакалонак, за натоўпам заезджых гандляроў ды мясцовых абывацеляў хаваецца нечаканы стары горад. Мураваная казка, цуд, пад уражаннем якога пачынаеш чуць запаволены, у рытме XVIII ст., пульс гістарычнага цэнтра, чуць, як дыхаюць неўміручыя камяні, у маляўнічай гармоніі якіх, здаецца, чужароднаю была б зеляніна дрэў.

Polonia, лацінскае імя Польшчы, — не ад слова «палон», вядома, ды нешта ў гэтым ёсць... З палону цудаў мы вярталіся ў палон сваіх штодзённых, не заўсёды вырашальных праблем. Без малога суткі дабіраліся дамоў. І калі крыху адступілася стома, неяк пановаму апанавала захапленне тым, што ўдалося ажыццявіць у Мінску, Варшаве, Гданьску.

Беларуска-польскія музычныя стасункі маюць дыхтоўны гістарычны грунт, а значыць маюць і традыцыі, і перспектыву. Што засведчылі, безумоўна, і фестывальныя сустрэчы. Ініцыятыва «Беларускай Капэлы», падтрыманая міністэрствамі культуры краін-суседак, Беларускай дзяржаўнай філармоніяй ды Дзяржаўным канцэртным бюро Польшчы, дыпламатычнымі службамі /першы сакратар пасольства Польшчы Марэк Галкоўскі ды другі сакратар пасольства Беларусі Уладзімір Каральчук/ аказалася — без перабольшвання — гістарычнай.

Прыгожая гісторыя дае надзею на працяг. А наконт палону можна і так сказаць: з палону забытых архіваў, з палону ідэалагічных забаронаў, чужых дактрын і рабскіх ацэнак вяртаецца ў жыццё наша музычная спадчына. Разам з ёю вяртаюцца ў цывілізаванае рэчышча і нашы дачыненні з еўрапейскімі суседзямі. Вяртаемся і мы ў шырокі культурны свет.

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

*Мінск — Варшава — Гданьск*

*Фота У. ПАНАДЫ і аўтара*

# ДА ТРАДЫЦЫІ

(Пачатак на стар. 5)

трэба вельмі асцярожна. Лепш сказаць аб «старэнні» зямной цывілізацыі. Наяўнасць сусветнага кантэксту вымушае старэць усе культуры, на якой бы стадыі развіцця яны ні знаходзіліся. Так званае «паскоранае развіццё» ёсць не што іншае, як уплыў сучаснасці на новага суб'екта гісторыі. Мы забываемся, але Купала — гэта сучаснік не А.Міцкевіча, А.Пушкіна, Т.Шаўчэнкі, а А.Блока, В.Хлебнікава, С.Пшыбышэўскага; М.Багдановіч як паэт маладзейшы за Э.Паунда, Т.С.Эліята і толькі крыху старэйшы за Поля Элюара, а ў крытыцы ён павінен быў стаяць недзе побач з В.Шклоўскім і М.Бахціным. *Адно ў кантэксце эпохі можа* быць зразумета класіка і павінна канструявацца сучасная нацыянальная думка.

Акрамя аб'ектыўнага вымярэння, у кожнае традыцыі ёсць і суб'ектыўнае. Працэс фармавання творчай асобы з'яўляецца працэсам фармавання самой культуры гэтаю ж асобаю. Свабода волі, якою надзелены чалавек, праяўляецца ў меры яго **адказнасці** /тэрмін М.Бахціна/ за працу папярэднікаў. І свабодаю ж волі традыцыя розніцца ад натуральных аб'ектаў, у ёй несціхана ідзе ажыўленне кантэксту, напаўненне сэнсам і звышсэнсам наяўных знакаў, ашчаджэнне і вывядзенне на паверхню жыцця ўсіх папярэдніх творчых актаў.

А шматлікія спробы беларускага адраджэння — не што іншае, як маральная дзея, расцягненая ў гісторыі. З дзвюх сфер традыцыі — актыўны кантэкст і гістарычная адказнасць — у нас акрэсліваецца ў асноўным толькі апошняя сфера, таму Беларусь паранейшаму застаецца ідэальнаю. Усе нараканні на бездапаможнасць адраджэнскіх лозунгаў можна зразумець і так, што арганізм з адным мазгавым паўшар'ем далей не хоча існаваць.

Сёння жаданне новай якасці, як ні парадаксальна, прыводзіць нават да адмаўлення элітаю звыклага сінкрэтычнага тэрміна «адраджэнне». Але сутнасць не ў тым, што тэрмін нясе не тую ідэю, справа нават не ў яго фармальнай заганнасці. Проста слова «адраджэнне» сцерлася як прыём, стала звыклым і не ўзрушвае, не здзіўляе, у горшым выпадку — раздражняе сваёю назойлівасцю. Мёртвая зона /маўчанне, балота/ прыгнятае нават самых спакойных інтэлектуалаў, не вытрымліваюць нервы: першае, другое, трэцяе... /якое ўжо там?/ адраджэнне. Усётакі, мяркую, тэрмін варта было б захаваць, нават калі ён становіцца банальным, нездарма ж Ю.Тынянаў некалі заўважыў, што сцёртыя словы, таму што яны сцёртыя, надзвычай моцна ўплываюць на эмоцыі, і дабавім ад сябе, на эмоцыі мас.

Спрэчка наконт слоў адтуль жа — Беларусь пакуль адно ідэальная. Стараемся адшукаць ёмкую, адпаведную формулу, а калі прыгледзецца — атрымліваюцца сафізмы, каламбуры, таўталогіі. Вядома, без адпаведнае мовы рабіць справу легкадумна, але не кожная мова знаходзіць адпаведную справу. Адраджаць /будаваць, працягваць, развіваць, усталёўваць, узвышаць/ культуру — для большасці гэта застанецца ірацыянальным заняткам. І таму трэба проста даводзіць распачатае да канца. Усё роўна любыя звышматэматычныя, крышталёвыя формулы ператворацца ў ідэалагічныя воблакі.

*А цяпер у якасці высновы падсумую сказанае. Ідэальны досвед сам праз сябе унікальны, але ён павінен быць выведзены на паверхню самімі беларусамі. Важная не столькі ідэя, колькі знакавая сістэма ў якой тая выражана. Традыцыя творыцца цягам развіцця культуры, нават савецкі шлях, хочам мы таго ці не хочам, стаў часткаю Беларушчыны. Сёння якасна новы крок можа адбыцца ў выніку* ***сцяжэння*** *ўсіх папярэдніх слаёў. Тут нехта запярэчыць: спадчына як падстава разгортвання беларускага культурнага жыцця можа быць недастатковаю. На гэта ёсць хаця б такі адказ: еўрапейцы не вынаходзілі пораху, але зрабілі яго моцным чыннікам сваёй гісторыі. Урэшце, на сапраўдную філасофію працуе гістарычная сітуацыя, расстаноўка культурных сіл, геаграфічнае знаходжанне.*

**P.S. Паставіўшы кропку, я ўзгадаў, што менавіта наша «геаграфія» і ёсць тая «мёртвая зона», у якой няма ні жыцця, ні смерці. Быць беларусам — значыць стаяць «на ростанях», мець «дзве душы». Самае страшнае:** *тут* **нічога не можа** *адбыцца*, **усе падзеі маюць сярэдні, «ніякі» характар, спускаюцца «на тармазах». Над гэтым і варта падумаць. А разам — сказаць сабе: «Паўстань, распніся, уваскрэсні і немагчымае зрабі...»**

ПРЭМ'ЕРЫ

## «Кошчын дом»



Яркі эстрадны шоу-спектакль па казцы С.Маршака паставіў на сцэне Дзяржаўнага драматычнага тэатра імя Я.Коласа ў Віцебску рэжысёр Ю.Лізянгевіч. Немалая заслуга ў поспеху незвычайнага прадстаўлення і балетмайстра Л.Кляцко.

*На здымку: сцэна са спектакля «Кошчын дом».*

*Фота Аляксандра ХІТРОВА,*

БЕЛІНФАРМ

ТЭАТР

## Жывуць людзі...

Афіша тэатра-студыі «Абзац» напрыканцы красавіка набыла яшчэ адну назву — «Тут жывуць людзі» А.Фугарта. Рэжысёр спектакля — Аляксандр Маркевіч. Нешараговую гісторыю з жыцця шараговых, увогуле, людзей — гаспадыні Мілі ды яе кватарантаў, апавядаюць Валянціна Галубовіч, Наталля Клімчык, Алег Грысевіч і Барыс Галубкоў. Па-свойму далікатна на сцэне развіваюцца не самыя далікатныя чалавечыя дачыненні; пачуццё меры перадусім уласціва і рабоце пастаноўшчыка, і акцёрам. Варта зазначыць, што, нягледзячы на самыя неспрыяльныя вытворчыя ўмовы, «Абзац» штораз годна падтрымлівае рэпутацыю праўдзіва прафесійнага тэатра.

КІНО

## Вяртанне Бялыніцкага-Бірулі

Нядаўна на сваю родную бялыніцкую зямлю вярнуўся адзін з самых знакамітых пейзажыстаў сучаснасці Вітольд Бялыніцкі-Біруля. Прыйшоў у фільме «Крыж на зямлі і поўня ў небе», прэзентацыя якога адбылася ў кінатэатры «Зорка», што ў раённым цэнтры. У аснову стужкі, як вядома, пакладзена аднайменная аповесць Віктара Карамазава, выпушчаная некалькі гадоў назад выдавецтвам «Юнацтва». Пра тое, як ствараўся фільм, прысутным расказалі сам В.Карамазаў, акцёры Галіна Кухальская і Сяргей Лясны.

Н.К.

МУЗЫКА

## Ізноў пра гімн ...

Летась, калі святкавалася 110-годдзе Янкі Купалы, на шматлікіх урачыстасцях гучалі словы вялікай павагі да песняра. Гаварылася, што творчасць Купалы — гэта гімн Беларусі. Актыў гасцёўні Дуніна-Марцінкевіча, пачуўшы такія гожыя выказванні, зрабіў прапанову наконт дзяржаўнага музычнага сімвалу нашай краіны. У 1918 годзе абвешчаная незалежнай Беларуская Народная Рэспубліка мела свой гімн, у якасці якога была песня на вершы Купалы «Не пагаснуць зоркі ў небе» — музыка прафесара Янчука. Вакальная студыя гасцёўні Дуніна-Марцінкевіча, яе кіраўнік А.Лук'янюк зрабілі запіс гэтага твора, ён быў прадстаўлены на радыё і ўвайшоў у лік конкурсных твораў, з якіх выбіраўся гімн Рэспублікі Беларусь. Наш варыянт быў далёкі ад дасканаласці, бо на той час мы не мелі клавіра твора: ён быў выкананы паводле вакальнага радка, што захаваўся ў памяці С.Новіка-Пеюна, са спеўніка, выдадзенага ў Вільні ў 20-я гады. І вось нядаўна да нас трапіў вельмі рэдкі зборнік беларускіх песень і рамансаў, выдадзены саматужным спосабам. Тут аказаўся і клавір гімна БНР «Не пагаснуць зоркі ў небе» /музыка Янчука ў гарманізацыі Лявіцкага/. Гарманізацыя настолькі прыгожая і дасканалая, выкананая ў паланэзных традыцыях, што разумееш: то быў сапраўдны гімн. Хочацца звярнуць на гэта ўвагу грамадскасці, каб не была дапушчана гістарычная памылка. Каб Купалаў твор, твор нашага класіка з прыгожай музыкай Янчука, твор, які быў ужо гімнам Беларусі, ніяк не аказаўся забытым і незаўважаным у конкурснай праграме.

Анатоль НАЛІВАЕЎ

## Перамогі Гарадзенскіх гітарыстаў

Плённым аказаўся для іх сёлетні красавік, прычым як для добра вядомага ў рэспубліцы У.Захарава, так і для некаторых вучняў яго класа. Навучэнцы Гарадзенскага музычнага вучылішча выдатна выступілі на III Рэспубліканскім конкурсе выканаўцаў на народных інструментах імя І.Жыновіча, што праходзіў у Віцебску. І-е месца з вялікай перавагай заняў Дзяніс Асімовіч. Складаны лёс у гэтага хлопца. Інвалід па зроку, ён пазбаўлены магчымасці бачыць... Але быццам бы загладжваючы сваю віну, прырода надзяліла яго цудоўным талентам музыканта, якога, напэўна, чакае вялікая будучыня. На думку членаў журы, куды ўваходзілі В.Жывалеўскі, Я.Грыдзюшка, Дзяніс іграў сваю праграму на такім узроўні, з якім не сорамна было б заканчваць і акадэмію. Нядрэнна выступілі і ягоныя сябры: Павел Трацяк атрымаў 3-ю ўзнагароду, а Віталя Ліфірэнку адзначылі граматай.

Вынікі, бясспрэчна, добрыя, і У.Захараў можа ганарыцца сваімі вучнямі. Але ж і вучні маюць поўнае права ганарыцца сваім настаўнікам, які неўзабаве пасля заканчэння конкурсу імя Жыновіча паехаў у Гданьск і вярнуўся лаўрэатам 7-га Міжнароднага конкурсу гітарыстаў імя К.Сасіньскага, аднаго з заснавальнікаў польскай гітарнай школы, дарэчы, нашага земляка, ураджэнца Навагрудка. Конкурс праводзіўся адначасова з фестывалем, прымеркаваным да 100-годдзя з дня нараджэння А.Сегавіі. Журы ўзначальваў рэктар Музычнай акадэміі ў Лодзі прафесар А.Кавальчык, сярод іншых членаў — Т.Сасакі /Японія/, В.Дэльмонака /Італія/, Ф.Думандэль /Францыя/, Г.Фогт /Германія/, У.Тэрво /Расія/ і інш. Усе яны ўдзельнічалі ў фестывалі, які быў надзвычайна цікавым і карысным і ўключаў розныя канцэрты, лекцыі, прагляды відэафільмаў, сустрэчы з гітарнымі майстрамі і г.д. 3-е месца, якое заняў на конкурсе У.Захараў, прынесла яму не толькі яшчэ адно /пасля Кракава летась/ званне лаўрэата ды прэмію, але і выключна прывабную перспектыву летняга турнэ па Еўропе.

А неўзабаве Д.Асімовіч разам з У.Захаравым едуць у Кракаў на той самы конкурс, што прынёс беларускай гітары першую міжнародную перамогу. Можа, не дарма кажуць, што вучні павінны перарастаць сваіх настаўнікаў? Пажадаем жа ўдачы абодвум!

А.САЛАДУХІН

*г.Гродня*

ДРУК

## А кніга ўсё ж выйшла...

У Вільні накладам 1000 паасобнікаў Рускі культурны цэнтр выдаў цікавую кнігу нашага земляка Мікалая Пятровіча Анцукевіча «Слова аб палку Ігаравым». У працы выкладаецца арыгінальная канцэпцыя палеаграфічнага, філалагічнага і гістарычнага тлумачэння выдатнага помніка літаратуры і культуры. Кніга ўмяшчае апісанне паходаІгара па летапісах, тэкст «Слова» і пераклад аўтара з заўвагамі да тэксту, каментарый да перакладу, агляд гісторыі вывучэння «Слова», разгляд перастановак у тэксце і аналіз цёмных месцаў, а гэтаксама разгляд узаемасувязі першага выдання «Слова» і Екацярынінскага рукапісу. Аўтар аналізуе і мову, аўтарства, праблемы рытмікі «Слова», яго жанр.

Нарадзіўся Мікалай Анцулевіч 4 /17/ лютага 1892 года ў мястэчку Ельск Мазырскага павета Мінскай губерні. Вучыўся ў Ваенна-медыцынскай акадэміі. Але «паэт» перамог... Закончыў Нежынскі гісторыка-філалагічны інстытут. Працаваў настаўнікам Лунінецкага рэальнага вучылішча, з 1936 года ўзначальваў Віленскую беларускую гімназію. Першую спробу перакладу «Слова» Мікалай Пятровіч зрабіў у Лунінцы яшчэ ў 1926 годзе.

Розныя перыпетыі выпалі на лёс нашага земляка. Давялося цярпець ад розных уладаў. У тым ліку — і ад савецкай. Памёр М.Анцулевіч у 1971 годзе, так і не дачакаўшыся выхаду ў свет галоўнай сваёй манаграфіі.

А.КАРЛЮКЕВІЧ

## Яшчэ адзін слоўнік

пабачыў свет. Ды не абы-які, а «Беларуска-расійскі слоўнік» М.Байкова і С.Некрашэвіча. Прытым адпаведнікі акурат такія, якія ў свой час з'явіліся ў Дзяржаўным выдавецтве Беларусі ў 1926 годзе. Выданне гэтае, выпушчанае выдавецтвам «Народная асвета», факсімільнае, а ў аснову яго пакладзены экземпляр, што захоўваецца ў Б.Сачанкі.

Прадмова, напісаная не адно дзесяцігоддзе назад, і сёння гучыць актуальна: «Мэта гэтага «Беларуска-расійскага слоўніка» — даць дапамогу пры чытанні сучасных беларускіх выданняў тым асобам, якія хаця й маюць або элементарна-тэарэтычнае, або практычнае знаёмства з жывой беларускай моваю, але яшчэ не зусім дакладна ўяўляюць сабе тое слоўнікавае багацце, якім уладае сучасная навукова-літаратурная беларуская мова ў параўнанні з моваю расійскай».

Згаданы слоўнік папоўніў серыю «Беларуская мова: гісторыя і сучаснасць», заснаваную ў «Народнай асвеце» ў 1991 годзе. Першынцам у ёй, як вядома, была знакамітая «Беларуская граматыка» Б.Тарашкевіча.

ЛІТКУР'ЕР

## Капітан юначых падарожжаў

110-годдзе з дня нараджэння Янкі Маўра — найперш свята беларускай дзятвы. Паўсюдна ў рэспубліцы прайшлі мерапрыемствы, прысвечаныя юбілею: ранішнікі і віктарыны ў школах, чытацкія канферэнцыі ў бібліятэках. Кульмінацыяй урачыстасцяў стала сустрэча ў Доме літаратара, гасцямі якой былі мінскія школьнікі.

Адкрыў яе намеснік старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі А.Пісьмянкоў. Слова пра жыццё і творчы шлях Я.Маўра сказала літаратуразнаўца М.Яфімава. А.Слесарэнка вярнуўся ў гады свайго маленства, прыгадаў, як выконваў ролю Мірона ў фільме «Палескія рабінзоны». З цікавасцю слухалі прысутныя выступленне ўнучкі Я.Маўра і Я.Коласа М.Міцкевіч.

Адбылася віктарына па творах Я.Маўра, якую правяла бібліятэкар Н.Цвірка.

Быў паказаны фільм «Неадкрытыя астравы» паводле Я.Маўра.

О

Да юбілею пісьменніка выдавецтва «Юнацтва» парадавала чытачоў аднатомнікам «Палескія рабінзоны», які папоўніў серыю «Бібліятэка прыгод і фантастыкі». Акрамя аднайменнай аповесці, у кнігу ўвайшла аповесць «Сын вады», апавяданне «Фантамабіль прафесара Цылякоўскага»... Дарэчы, гэта трэцяя кніга Я.Маўра, выпушчаная «Юнацтвам» за апошні час.

О

З нагоды 110-га юбілею Янкі Маўра ў Літаратурным музеі Якуба Коласа сабраліся прыхільнікі творчасці пісьменніка, яго родныя, сябры, студэнты мінскіх ВНУ.

Уступным словам урачыстасць адкрыў і вёў загадчык экскурсійна-масавага аддзела музея І.Курбека. Ён адзначыў, што невыпадкова ў музеі класіка беларускай літаратуры так адзначаецца юбілей Янкі Маўра. Імёны Якуб Колас і Янка Маўр стаяць побач не толькі таму, што гэта былі два слаўныя таленавітыя пісьменнікі. Пазнаёміліся настаўнік Міцкевіч і настаўнік Фёдараў у 1906 годзе. Лёс звёў іх на 1 нелегальным з'ездзе настаўнікаў, і яны сталі задушэўнымі сябрамі на ўсё жыццё, а пазней і родзічамі.

Пра тое, што Янка Маўр быў не толькі таленавітым пісьменнікам, але і чалавекам высокай культуры, сумленным, праўдзівым, вясёлым, патрабавальным і чулым настаўнікам, сябрам дзяцей, які ўмеў захапіць незвычайнымі падарожжамі па далёкіх кантынентах, гаварылі сын Янкі Маўра, акадэмік Акадэміі навук Рэспублікі Беларусь Ф.Фёдараў, дацэнт БДУ М.Яфімава, пісьменнік М.Татур, доктар філалагічных навук В.Жураўлёў, унучка Янкі Маўра М.Міцкевіч, сын Якуба Коласа Д.Міцкевіч.

У заключэнне ўсіх зачараваў фальклорны ансамбль «Мінскі гармонік». Дом Коласа поўніўся вясёлымі песнямі, гарэзлівымі мелодыямі народных танцаў.

Д.БЯЛЯЦКАЯ

## Поспех «Юнацтва»

У Маскве прайшоў Міжнародны конкурс Асацыяцыі кнігавыдаўцоў на лепшую кнігу 1992 года. У гэтым аглядзе, які праводзіцца штогод, прынялі ўдзел 45 выдавецкіх арганізацый і прадпрыемстваў, членаў асацыяцыі. Яны прадставілі 160 кніг.

Ганаровы дыплом лаўрэата конкурсу прысуджаны выдавецтву «Юнацтва» за творчую ініцыятыву па выпуску замежнай дзіцячай літаратуры ў перакладзе на беларускую мову. Сярод адзначаных — кнігі серыі «Бібліятэка дзіцячай літаратуры народаў СССР», «Сказ пра Робін Гуда» Дж. Фінемора, альманах «Ветразь», зборнік «Азербайджанскія народныя казкі», а таксама кнігі, выпушчаныя сумесна з іншымі замежнымі выдавецтвамі: «Соль зямлі» /творы славацкіх пісьменнікаў/, «Легенды і казкі» /творы беларускіх і польскіх паэтаў/ і іншыя.

М.ІРЫНІН

КУЛЬТУРА

## Святло Кірылы Тураўскага

У Гомелі адбыўся ўстаноўчы сход грамадскасці вобласці, на якім было створана Таварыства імя Кірылы Тураўскага. На сходзе выступіў прадстаўнік Акадэміі навук Беларусі В.Іоў, галоўны рэдактар «Беларускага гістарычнага часопіса» В.Кушнер, ініцыятары стварэння таварыства. Аб вызначаных ужо дакладных справах па адраджэнні культурнай спадчыны Тураўскай зямлі расказаў начальнік абласнога ўпраўлення культуры А.Маісеенка. Гэта творчы семінар пісьменнікаў, пленэр мастакоў, стварэнне музея, у якім, будзем спадзявацца, на радзіму вялікага славянскага філосафа і культурнага дзеяча вернуцца яго творы.

На сходзе было падкрэслена, што Кірыла Тураўскі змагаўся за адзінства славянскай культуры, і таму духоўнае святло яго патрэбна нам сёння, як ніколі.

В.КАНАСЕВІЧ-ЛЯМЦАВА

НОВЫЯ ВЫДАННІ

## Па-англійску — проста і займальна

З другой паловы сёлетняга года пачынае выходзіць новы часопіс «HELLO!», ініцыятарамі стварэння якога выступілі Мінскі дзяржаўны педагагічны інстытут замежных моў і Беларускі фонд дапамогі развіццю культуры.

Часопіс, прама скажам, незвычайны. Аналагаў жа гульнёвага перыядычнага выдання ў рэспубліцы няма, а «HELLO!» менавіта і будзе мець падобны профіль. Разлічаны ён на лепшае засваенне дзецьмі англійскай мовы. У кожным нумары будзе шмат малюнкаў, якія суправаджае англійскі тэкст. Поруч юныя чытачы знойдуць слоўнікі на беларускай і рускай мовах. Найбольш складаныя сказы перакладуцца цалкам.

На вокладку часопіса выносіцца тэкст: «Англійская — проста, весела, займальна». Прыемна, што будзе яшчэ адно выданне для дзетак. Праўда, думаецца, не пашкодзіў бы Адраджэнню і часопіс, у якім гэтаксама проста і займальна прапагандавалася б беларуская мова. Толькі хто за яго стварэнне возьмецца?

Н.К.

АНОНС

## Пародыі, фантасмагорыі, смяхотныя штукі



З 2 па 13 чэрвеня на сцэне Рускага тэатра Беларусі пройдуць гастролі Беларускага акадэмічнага тэатра імя Якуба Коласа /Віцебск/. Перадусім шаноўным гледачам прапануюць падзівіцца з «Рэвізора» М.Гогаля ў пастаноўцы Б.Эрына, — пародыю, гульню, рэпетыцыю, імправізацыю на тэмы вядомай камедыі, дзе ў ролі Хлестакова, напрыклад, заняты адначасова В.Асвяцінскі, Г.Гайдук, В.Краснабаеў, Г.Кірпічоў, — так бы мовіць, адзіны вобраз з чатырох бакоў альбо пунктаў гледжання... У ролі Гараднічага — Ф.Шмакаў.

Другая работа Б.Эрына — «Шчаслівае здарэнне» С.Мрожака, — фантасмагарычная камедыя, ці то показка, ці то казка ... не для дзяцей.

Камедыі, трэба заўважыць, прапануе і Ю.Лізянгевіч, — ягоная рэжысёрская рука была прыкладзена да «Залётаў» В.Дуніна-Марцінкевіча /адзначана прэміяй СТД Беларусі/ і да «Касаткі» А.Талстога, дзе дэбютавала ў галоўнай ролі Т.Кабяк.

*На здымках: Генадзь Шкуратаў /Ілья Ільіч/ і Наталля Аладка /Раіса/ у спектаклі «Касатка» А.Талстога; сцэна са спектакля «Рэвізор» М.Гогаля /вы бачыце ўсіх чатырох Хлестаковых/.*

*Фота С.КОХАНА*



***Пра павароты лёсу чалавечага сказана і напісана шмат. Вядома, што ў кожнага свой лёс. Адным шчасце нібы напісана на родзе: яны ўдалыя, над імі заўсёды бязвоблачнае неба. Іншых так закруціць, што дзіву даешся: адкуль у чалавека такая сіла, каб выстаяць у цяжкую часіну.***

# РЭАБІЛІТАЦЫЯ ЦЯГАМ У ЖЫЦЦЁ

Жорстка абышоўся лёс і з адным з таленавітых беларускіх паэтаў — Масеем Сяднёвым. Яшчэ ў 1937 годзе з-пад ягонага пяра выйшлі такія горкія радкі:

**І мне нядоля напісала,**
**Няшчасце злое на раду...**

Аднак Сяднёву яшчэ пашчасціла: з усіх перыпетый ён выйшаў жывы. Але ці быў прыхільны да яго лёс?

Як таленавіты паэт сваё слова Сяднёў сказаў яшчэ ў пачатку 30-х гадоў. З душэўнай цеплынёй пра яго творчасць гаварылі нашы вялікія Янка Купала, Якуб Колас і іншыя беларускія пісьменнікі. І для аўтара няма большай радасці, калі яго вершы чытаюць, публікуюць. Аднак ці можа быць шчаслівы паэт, калі дзесяткі ягоных вершаў знаходзяцца не ў паэтычных зборніках, школьных падручніках, а на пыльных паліцах архіваў?

Нядаўна мне давялося пазнаёміцца з паэтам у Доме літаратара, дзе ён сустракаўся з калегамі па пяры, са шматлікімі прыхільнікамі яго таленту. Калі я прадставіўся яму і расказаў, што ў архівах захаваліся дзесяткі яго вершаў, пра якія ён, магчыма, ужо і не памятае, трэба было бачыць, як змяніўся паэт, як ажывіліся яго вочы, як кінуўся ён да мяне з роспытамі, што гэта за вершы, за якія гады...

І яшчэ пра лёс паэта. Ці можа быць шчаслівы чалавек, у якога адабралі Радзіму, пазбавілі права быць там, дзе ён нарадзіўся, дзе яго дом і радня? «Першы раз чалавек заплакаў, — пісаў ён, — што радзімы ў яго няма». Доўгія і доўгія гады ён правёў на чужыне, у блізкім і далёкім замежжы, як цяпер кажуць і пішуць. У друку з'яўляюцца яго творы ўжо пад рубрыкай: «Паэты замежжа». І толькі цяпер, не баючыся нікога, М. Сяднёў атрымаў магчымасць бываць хоць зрэдку на Радзіме, якую ён з болем пакінуў.

Я не збіраюся пісаць пра творчасць Сяднёва, яна шматгранная і чакае свайго сапраўднага даследчыка. У мяне больш сціплая задача — на падставе сабраных архіўных матэрыялаў, дакументаў расказаць пра найбольш трагічныя гады яго жыцця. Так здарылася, што рэабілітацыя закранула яго амаль праз паўстагоддзя пасля прысуду, хоць большасць з тых, хто падзяліў з ім лаву падсудных, ужо даўно рэабілітаваны, атрымалі дакументы пра спыненне ў адносінах да іх крымінальнай справы. Але, як кажуць, і тут не лёс. Пра гэта я і хачу падзяліцца з чытачамі, расказаць, з чаго і як пачалося яго блуканне па турэмных камерах і чаму так доўга чакаў ён дня свайго «вызвалення». Мне, відаць, зрабіць гэта крыху лягчэй, бо пазнаёміўся з яго нялёгкай доляй, разам са сваімі калегамі, работнікамі дзяржбяспекі і правасуддзя, прымаў удзел у канчатковым вырашэнні яго справы.

Усё пачалося ў кастрычніку 1989 года, калі ў пракуратуру Мінскай вобласці з Касцюковіч паступіла заява ад пенсіянеркі Дзятлавай Марыі Іларыёнаўны, у якой яна прасіла аднавіць добрае імя рэпрэсаванага ў перадваенныя гады яе брата Сяднёва Майсея Іларыёнавіча, які жыве цяпер у Злучаных Штатах Амерыкі. І тут чакала першая неспадзяванка: у дзяржаўных архівах не знайшлі той справы, узбуджанай яшчэ ў 1936 годзе. Не выключана, што яна была згублена ў ваенны час. Выявілася, што па скаргах «саўдзельнікаў» Сяднёва яшчэ ў 1965 годзе пасля беспаспяховых спроб знайсці справу органы дзяржбяспекі аднавілі яе. Сотні запытаў былі накіраваны ў розныя архівы былога Савецкага Саюза. Карпатлівыя пошукі прынеслі вынікі: было знойдзена мноства следчых і судовых дакументаў, шэраг пратаколаў, допытаў. На іх падставе стала магчымым скласці даволі поўны малюнак таго, што адбылося з Сяднёвым і яго таварышамі.

Чорным днём для некаторых студэнтаў літаратурнага факультэта Мінскага вышэйшага педагагічнага інстытута стаў дзень 21 кастрычніка 1936 года. Тады ў інтэрнат па вуліцы Энгельса, 50 уварваліся людзі, надзеленыя неабмежаванымі паўнамоцтвамі. На руках у іх знаходзіліся пастановы, якія давалі ім права «подвергнуть обыску, аресту и привлечению к судебной ответственности» Сяднёва М. І., Судніка К. В., Каплеўскага Я. Ф. і іншых яго аднакурснікаў. Усе 13 студэнтаў абвінавачваліся ў тым, што «состояли в контрреволюционной нацдемовской группе в институте и проводили контрреволюционную нацдемовскую работу, высказывали недовольство политикой партии в деревне».

Абвінавачванне па тым часе стандартнае. Калі ж паглядзець на ўсё непрадузята, то ўся «контррэвалюцыя» выглядала прыкладна так. Пасля заняткаў у інстытуце маладыя людзі збіраліся ў каго-небудзь у пакоі, чыталі свае вершы і вершы іншых паэтаў, хвалілі або крытыкавалі іх. Сялянскія дзеці, натуральна, гаварылі пра вясковыя справы, пра калектывізацыю і пра многае іншае, набалелае. У «створаных» следчым Пескім пратаколах допытаў усё гэта гучала так: «Сначала осторожно, а затем откровенно мы стали высказывать свои контрреволюционные взгляды, критикуя политику партии и советского правительства, что политика направлена не на улучшение, а на ухудшение положения населения страны, что коллективизация разоряет крестьянство и что оно властью недовольно... читали свои контрреволюционные нацдемовские произведения, в которых идеализировали Белоруссию самобытно-кулацкую». Уся гэтая «контррэвалюцыя», акрамя горкай усмешкі, нічога выклікаць не можа. Не трэба, аднак, забываць, што быў 1936 год.

Ішлі дні, месяцы, у следчых папках назапашваліся матэрыялы і, нарэшце, з-пад бойкага пяра лейтэнанта дзяржаўнай бяспекі Цімафеева 20 красавіка 1937 года выйшла абвінаваўчае заключэнне, зацверджанае самім наркомам унутраных спраў рэспублікі Берманам. Па тым часе параўнаўча невялікі дакумент — усяго 7 машынапісных старонак. Сапраўды, трэба было валодаць выключнымі здольнасцямі «ліпача», каб умудрыцца сачыніць штосьці падобнае.

Перад вамі, чытач, толькі некалькі радкоў з гэтага «твора»: «...была вскрыта и ликвидирована контрреволюционная нацдемовская организация, в которую входили фашистские националистические элементы. Организация в своей практической контрреволюционной деятельности была связана с агентами фашистских охранок, проживающими за границей, а также активными участниками данной организации Дмитрием Жилуновичем /Тишка Гартный/, Михаилом Касенковым-Зарецким, Михаилом Кудельно-Чаротом и другими». Далей адна недарэчнасць ідзе за другой: нібыта было ўстаноўлена, што арганізацыя ставіла перад сабой задачу /ні многа, ні мала/ «насильственного отторжения Белоруссии от СССР и установление при помощи иностранной интервенции военно-фашистской диктатуры... ее участники проводили широкую вербовку кадров... и подготовили террористические акты как в Белоруссии, так и в Москве против руководителей партии и правительства».

Такое магло толькі прысніцца ў недарэчным сне. З кім з агентаў «фашистской охранки» выходзілі студэнты на сувязь, каго яны паспелі завербаваць у «террористические группы», колькі ствалоў мелі для правядзення сваіх акцый — невядома. Ніводнага пістапета, вінтоўкі так і не знайшлі. Можа, кепска шукалі? Занадта шмат узнікае пытанняў, калі чытаеш гэтае абвінаваўчае заключэнне.

Аднак, на вялікае расчараванне лейтэнанта і яго высокага начальства, першы пракол па справе адбыўся ўжо праз два месяцы — 17 чэрвеня 1937 года на спецыяльнай сесіі Вярхоўнага суда БССР. Ён вырашыў справу адкласці і вярнуць для даследавання. У вызначэнні суда ўказана, што абвінавачаныя Сяднёў, Куляшоў, Манькоў і некаторыя іншыя ні на папярэднім следстве, ні ў судзе вінаватымі сябе не прызналі. Іншыя ад дадзеных імі паказанняў на папярэднім следстве ў судзе адмовіліся і заявілі, што фармулёўкі пратаколаў допытаў належаць не ім, а следчаму, і падпісаны імі па яго прымусе.

Сяднёў і іншыя абвінавачваліся ў напісанні вершаў «нацдэмаўскага зместу», а таму іх творы павінны былі быць далучаны, як рэчавыя доказы, да крымінальнай справы, бо ніхто дакладна не мог сказаць, што ж у вершах контррэвалюцыйнае.

Акрамя таго, усе абвінавачаныя накіроўвалі ў пракуратуру і НКУС шматлікія скаргі на няправільнае вядзенне следства, фабрыкацыю матэрыялаў, аднак ніводная з іх праверана не была і нават не далучана да крымінальнай справы.

У сваім вызначэнні суд сказаў і самае галоўнае: якіх-небудзь доказаў для «признания Седнева и других виновными в процессе следствия добыто не было».

Тут бы следчым спыніць крымінальнае праследаванне невінаватых людзей, папярэдне папрасіўшы ў іх прабачэння. Дзе там! Рэпрэсіўная машына запрацавала з падвоенай сілай. За два месяцы, пакуль вялося даследаванне, ніводнага факта, які выкрываў бы Сяднёва і іншых у злачыннай дзейнасці, устаноўлена не было. Не выканана таксама ніводнага ўказання суда, у прыватнасці, аб допыце сведкаў, далучэнні да справы рэчавых доказаў. Уся энергія была скіравана на складанне больш «пераканаўчага» абвінаваўчага заключэння. Праўда, дзеля справядлівасці заўважу, што «преступная группа» за гэты час крыху «усохла» па той прычыне, што чацвёра яе ўдзельнікаў «сами контрреволюционных стихов не писали, а лишь на одной встрече послушали, как их читают другие». Затое Сяднёў і іншыя «сталі» яшчэ і шпіёнамі: яны ўжо абвінавачваліся ў тым, што выконвалі заданне польскіх разведвальных органаў «в области шпионажа, вредительства, диверсий и подготовки террористических актов».

І зноў маладыя людзі на лаве падсудных усё той жа спецыяльнай калегіі. І, як вынік, нарадзіўся прысуд з тым жа, як і ў абвінаваўчым заключэнні, наборам збітых фраз: «пропаганда национал-фашистских, нацдемовских идей и тому подобное». Якія ж доказы былі пакладзены ў аснову прысуду? А ніякая! Іх проста няма. Тым не менш суд вызначыў Сяднёву меру пакарання: 6 гадоў пазбаўлення волі ў папраўча-працоўным лагеры. За калючым дротам апынуліся і іншыя «саўдзельнікі» па справе. І яшчэ адна фраза з рашэння суда: «Приговор окончательный и кассационному обжалованию не подлежит».

Так адным росчыркам пяра людзей не толькі пакаралі, але і пазбавілі права скардзіцца на беззаконне, несправядлівасць.

І ўсё ж суд умяшаўся ў лёс невінаватых людзей. Гэтым разам — Вярхоўны суд былога СССР. 2 снежня 1939 года ён вынес рашэнне аб адмене прысуду і накіраванні справы на новы разгляд. Суд у сваім вызначэнні прывёў шэраг падстаў для адмены прысуду. На адной з гэтых падстаў хацелася б спыніцца больш падрабязна. Ужо адзначалася, што следства не мела якой-небудзь сведкавай базы па справе, не было і рэчавых доказаў. Было вырашана «пераканаць» суд заключэннем вучонага, спецыяліста ў галіне літаратуры, а менавіта — Бранштэйна. У поле зроку следчых трапілі забраныя ў час вобыску вершы Сяргея Ясеніна «Песнь о собаке» і «Корова». Багатай фантазіяй трэба было валодаць, каб убачыць у іх штосьці контррэвалюцыйнае. Аднак пры дапамозе экспертызы ўсё ж вырашылі праверыць іх на «паяльнасць». У выніку з'явілася вось такое заключэнне Бранштэйна: «Автор любовно переписал наиболее кулацкие есенинские стихи, которые он пускал в ход для того, чтобы представить Советскую Белоруссию собакой, у которой потопили всех щенят, или коровой, которую ведут на убой».

Гэтак жа дасталося ад эксперта і Судніку: «для автора большевики — вороны, которые кружатся над старым селом — над Белорусью...»

І яшчэ адзін пасаж з заключэння эксперта. Да справы быў далучаны выпісаны адным з абвінавачаных выраз старажытнагрэчаскага паэта Феагніда: «Я скаковая прекрасная лошадь, но плох безнадежно правящий мною ездок. Это всего мне больней. О, как мне часто хотелось бежать, оборвавши поводья, сбросив внезапно с себя на землю того седока». Эксперт і тут навязвае сваю думку: «Автор переписывает изречения, которые выражают его желание «сбросить с себя седока», «оборвать поводья», «свергнуть советскую власть».

Самае ж ганебнае было ў тым, што ўдзельнік «злачыннай групы» А. І. Куляшоў на допыце паказаў: «экспертам» па справе быў іх жа прафесар. Можна было чакаць усяго, але каб настаўнік сведчыў супраць сваіх вучняў?

Хто ж быў гэтым пачварным экспертам? Якаў Анатольевіч Бранштэйн. У перадваенныя гады працаваў адказным сакратаром Саюза пісьменнікаў БССР, адначасова і прафесарам літаратуры Мінскага педінстытута. Памёр у 1938 годзе. Год смерці мяне насцярожыў. Я яшчэ раз уважліва перачытаў заключэнне, іншыя матэрыялы. Пачалі ўзнікаць пытанні. Чаму ў «заключэнні» не ўказана яго спецыяльнасць, займаемае ім службовае становішча? Чаму дакумент ім не падпісаны? Суд прапанаваў следчым адшукаць эксперта і дапытаць яго па сутнасці ягонага заключэння. Аднак указанне суда выканана не было. Чаму? Узніклі і іншыя сумненні. Усё вырашылася проста, калі пагартаў крымінальную справу самога Бранштэйна. Ён быў арыштаваны ў адзін час з Сяднёвым і іншымі — 5 чэрвеня 1937 года. Не выключана, што знаходзіўся ў турэмнай камеры недзе па суседстве са сваімі былымі студэнтамі. Відаць, тады і вымусілі прафесара «стаць экспертам» і напісаць «заключэнне». Седзячы ў камеры і маючы такога следчага, як Кунцэвіч, можна было напісаць і не такое глупства. Адшукаць жа эксперта і дапытаць яго следчыя не змаглі таму, што 28 кастрычніка 1937 года выязная сесія ваеннай калегіі Вярхоўнага суда СССР за прыналежнасць да контррэвалюцыйнай трацкісцкай тэрарыстычнай і г. д. арганізацыі прысудзіла Бранштэйна да расстрэлу.

Але вернемся да Сяднёва, да 1939 года, калі Вярхоўны суд Саюза накіраваў крымінальную справу на даследаванне чарговы раз. Далей падзеі развіваліся так. Пакуль за тысячы кіламетраў Сяднёва і іншых зняволеных этапіравалі ў Мінск, а следства збіралася з сіламі на пошук новых падпарак, каб не даць рассыпацца

фактычна ўжо разваленай справе, грымнула вайна з гітлераўскай Германіяй. «22 чэрвеня 1941 года ў сувязі з пачаткам вайны, — расказвае Я. С. Ермаловіч, які прайшоў той жа цярністай дарогай, што і Сяднёў, — усіх зняволеных з Мінскай турмы этапіравалі ў Чэрвень. Праз два дні ахова турмы адчыніла камеры і вароты і нас адпусцілі дадому». Радаснае імгненне, здавалася б, доўгачаканая свабода. Але, як піша паэт:

Дай успомню пражытае мною,
Можа будзе на сэрцы лягчэй,
Мо' забуду, што змрочнай турмою
Патушылі празрыстасць вачэй,
Мо' забуду, што целам я хворы,
Што мне радасці болей не мець,
Што ў дзявочыя вочы, як зоры,
Мне цяпер, як гляджу —
не глядзець...

У 1967 годзе пленум Вярхоўнага суда былога СССР прыняў рашэнне яшчэ раз вярнуцца да злашчаснай справы. І зноў лёс адвярнуўся ад Сяднёва: сярод рэабілітаваных ягонага прозвішча не аказалася. Суд у сваім вызначэнні нават не агаварыў, чаму ён застаўся абыякавым да ягонага лёсу. Цяпер пра гэта можна толькі здагадвацца. Відаць, тут адыграла ролю тая акалічнасць, што Сяднёў у пасляваенныя гады апынуўся далёка за межамі Беларусі /а ў тыя гады гэта быў амаль крымінал/, што, жывучы на акупіраванай немцамі тэрыторыі, ён напісаў і апублікаваў некалькі сваіх твораў.

Пасля звароту ў пракуратуру сястры Сяднёва па справе ў 1989 годзе была праведзена яшчэ адна праверка. Не было знойдзена якіх-небудзь дадзеных, якія сведчылі б, што Сяднёў быў памагатым акупантаў або ўчыніў у той перыяд нейкія злачынныя дзеянні. Былі прааналізаваны і яго творы ваенных гадоў, знойдзеныя ў архівах Рэспублікі.

Адзін з вершаў я хацеў бы прывесці тут, каб чытачы маглі самі меркаваць пра яго палітычную накіраванасць /аўтар датуе гэты верш 1943 годам/:

Прышоў на зямлю я ад рэчак
сцюдзёных і траў
І быў непрыхільна сустрэты
людзьмі...
Ад сына твайго, за цябе
што у няволі згараў,
Імклівыя песні прымі!
Ад сына твайго, за цябе што ўначы
Маліўся за кратамі ў цемры святла
І сэрца крывавіў, твой сцяг несучы,
Каб ты не памерла — жыла,
Ад сына твайго,
што не здрадзіў табе,
Што з імем тваім непахісна стаяў,
як стаю,
Прымі ў тваёй цяжкай,
святой барацьбе
Ад шчырага сэрца прызнанасць маю.
Ты сілы дала мне няўтомнай свае
і надзей,
Каб згінуць у жорсткай чужыне
не мог.
Я веру, што ў віхры
сусветных падзей
Ты прыдзеш да ясных
сваіх перамог.

У 1990 годзе, які ўжо раз, справа зноў апынулася ў Маскве, адляжала там амаль два гады, але чарга да яе так і не дайшла. Спачатку развалілся Саюз, потым распусціўся і Вярхоўны суд. І толькі 22 студзеня 1992 года судовая калегія па крымінальных справах ужо Вярхоўнага суда Рэспублікі Беларусь па пратэсту намесніка Генеральнага пракурора Рэспублікі Беларусь прыняла рашэнне: крымінальную справу ў адносінах Сяднёва Майсея Іларыёнавіча спыніць за адсутнасцю ў яго дзеяннях складу злачынства.

Так, нарэшце, перамагла ісціна і справядлівасць, адкінутыя тымі, хто служыў палітычнай кан'юнктуры і ўсемагутнай адміністратыўна-каманднай сістэме, тварыў несправядлівасць, хаваў за вялікімі ідэямі самавольства і беззаконне. Гісторыі, людзям вернута яшчэ адно імя. Трэба думаць — не апошняе.

**Яўген ШЭЎЧЫК,**
**старшы памочнік пракурора**
**Мінскай вобласці**



*Інсталяцыя «Сакавік у камуністычнай рэзервацыі» /аўтары А. Марачкін, Л. Талбузін, Я. Шунейка/.*

# ВЯСНА Ў КАМУНІСТЫЧНАЙ РЭЗЕРВАЦЫІ

Сёлета святкаванне ўгодкаў абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі мела маштаб дзяржаўнага свята, хоць пакуль што афіцыйна такога статуса не мае. Было шматтысячнае шэсце па галоўным праспекце сталіцы і мітынг у Купалаўскім парку, навуковая акадэмія, урачыстае пасяджэнне, дзе прысутнічаў Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі, вялікая мастацкая выстава.


*Ю. Хілько. «Лёс».*


*М. Рыжы. «Вацлаў Ластоўскі».*

Нагадаем, аднак, што з боку тых, для каго 25 сакавіка — не свята, а якраз наадварот, былі спробы дыскрэдытаваць саму ідэю незалежнасці Беларусі, зрабіць усё, каб свята не адбылося. Думаю, зусім невыпадкова гарадскія ўлады літаральна ў апошні дзень забаранілі ўстаноўку мемарыяльнай шыльды на доме, дзе ў сакавіку 1918 года была абвешчана незалежнасць Беларусі; невыпадкова загарэлася электрычная праводка пад сцэнай опернага тэатра, і тэатр зачынілі на рамонт, бо менавіта тут павінна было адбыцца ўрачыстае пасяджэнне.

Я б не здзівіўся, калі б нешта падобнае здарылася і ў Палацы мастацтваў, дзе творчая суполка «Пагоня» ладзіла выставу да 75 гадавіны БНР. У нашага начальства вялікі вопыт закрыцця мастацкіх выстаў «па тэхнічных /чытай — ідэалагічных/ прычынах». Так што тое, што выстава адбылася ў свой час і менавіта ў гэтай зале — ужо падзея. Калі ж што-небудзь было не так, дык гэта ўжо недагляд ці недапрацоўка саміх сяброў «Пагоні». Так, у прыватнасці, не было стэнда з хронікай Адраджэння /фотаздымкі, газетныя матэрыялы/, пачынаючы ад менскіх Дзядоў 1988 года па сённяшні дзень. Не ўсіх, хто мог бы ўзяць у выставе чынны ўдзел, загадзя папярэдзілі. Паводле канцэпцыі экспазіцыі, абмеркаванай і зацверджанай на сходзе сяброў «Пагоні», удзельная вага твораў гістарычна-асветніцкага характару павінна была зменшыцца, галоўны акцэнт — на творы наватарскія. Ці атрымалася гэта на справе, трэба спытаць гледачоў...

Але як бы там ні было, выстава адрознівалася ў лепшы бок ад колішніх рэспубліканскіх імпрэз. Усё-такі экспазіцыю ладзілі аднадумцы, для якіх «Жыве Беларусь!» — святыя словы. Гэтым разам у выставе, акрамя сяброў «Пагоні», бралі ўдзел мастакі, што ў суполку не ўваходзяць, але яе мэты, ідэі падзяляюць. Сярод іх — вядомы жывапісец Гаўрыла Вашчанка.

Галоўным чынам увагу гледачоў прыцягвалі не жывапіс альбо графіка /хоць прафесійны ўзровень работ быў вельмі высокі/, а інсталяцыя «Сакавік у камуністычнай рэзервацыі» і дакладныя копіі беларускай зброі і вопраткі беларускай шляхты часоў Вялікага княства Літоўскага. З'ява, што стаіць за гэтым фактам, гэтай акалічнасцю, патрабуе сур'ёзнага асэнсавання. Альбо глядач стаміўся ад традыцыйных форм выяўленчага мастацтва і таму, мінаючы вядомае, прама накіроўваецца да нязвыклага, нечаканага — як тая інсталяцыя /дарэчы, тое, што ў нашых продкаў была зброя не горшая, а то і лепшая, чым у іхніх ворагаў; тое, што апраналіся яны багата і з густам — для многіх таксама нечакана і нязвыкла/, альбо мастакі-станкавісты ў чымсьці «недапрацоўваюць». У любым выпадку выстава дае падставы для роздуму аб будучыні беларускага мастацтва.

**В. БОГУШ**


*М. Давідзюк. /Польшча, Лодзь/. «Без назвы».*


*У. Тоўсцік. «Плошча».*


*Ю. Гудзіновіч. Шлем беларускага /літоўскага/ ваяра. Рэканструкцыя.*


*А. Марачкін. З цыкла «Зімовыя анёлы».*

***Вам часта даводзіцца ў апошнія гады бываць у застоллях? Я не маю на ўвазе залы рэстаранаў, якія сёння сталі недасягальныя для звычайнага чалавека, не маю на ўвазе ўсё яшчэ прыхаваныя ад людскіх вачэй «міжсабойчыкі» начальства. Я маю на ўвазе звычайныя нашы сямейныя і несямейныя сціплыя застоллі, якімі так славілася ды і славіцца менавіта беларуская зямля.***

**НЕВЯСЁЛЫ РОЗДУМ**

# САЛА

Дык вось, калі даводзіцца, вы не маглі не звярнуць увагу на тое, што ў апошнія гады зноў з'явілася на гэтых застоллях, заняло сваё пачэснае месца звычайнае сала. У сemідзесятыя гады яно і ў горадзе, і нават часткова на вёсцы было выцеснена са сталоў прадуктамі больш далікатнымі. А сёння адбываецца вяртанне, ренесанс, так бы мовіць. Бачу, як камуніст паярчэў вачмі: вось да чаго давялі дэмакраты, есці няма чаго! Чую, як дэмакрат пачынае тлумачыць пра нафтадолары семідзесятых і закуп прадуктаў харчавання за мяжой... Пакінем гэта ўбаку. Пагаворым проста пра сала.

Як фальклорны беларус вызначаў заможнасць суседа? «Ого, багацей! Паглядзі, як ён сала есць. Хлеба толькі для прыліку кусае, а сала кавалкам». Паглядзім жа ўважлівей і ў недалёкім сваім мінулыя, і ў сённяшнім дні. І шчыра скажам, што так і не ўдалося нам адарвацца ад узроўню заможнасці і дабрабыту фальклорнага беларуса за слаўныя гады савецкай улады. Зусім недалёка мы ад яго, можа, крыху ўбок адышліся.

За ўсё лепш свой, прыватны вопыт, ён сведчыць найярчэй. Што ж, хоць і нарадзіўся я праз дзесяць гадоў пасля вайны і тых нястач, апраўданых ваеннай навалай, сала было надзейным і неабрыдлым спадарожнікам і дзяцінства нашага і юнацтва. У вясковым ды местачковым жыцці лепшым лічыўся гаспадар, які не проста выгадаваў вялікага кабана, а той, хто зняў з гэтага кабана тоўстае сала. Гэтага прадукту ў звычайнай беларускай сям'і заўжды быў трывалы запас. Бо наш чалавек не давяраўся ніякім уладам з іх абяцаннямі дагнаць і перагнаць альбо нешта там светлае пабудаваць. І заўсёдная адносна нядрэнная разнастайнасць харчовага прылаўка на Беларусі найперш адсюль, а не ад руплівасці ды клапатлівасці кіраўнікоў. Людзі ў вёсках, у невялікіх гарадах, а сёння і ў буйных гарадах таксама, клапаціліся і клапоцяцца пра сваё харчаванне самі. У часы забаронаў праўдамі і няпраўдамі, сёння адкрыта гадуюць жывёлу, б'юцца на сотках, ствараюць запас. Без запасу беларусу цяжка ўваходзіць у зіму, у новы год, жыць проста цяжка.

Ну а свінчо ў гэтых умовах — бадай што прасцейшы варыянт. Божа, як толькі й тут ні здзекаваліся з нашага чалавека! Пасля вайны нельга было кабана, забіўшы, смаліць. Патрабавалі, каб усе скуры здаваліся нарыхтоўшчыкам. А якое ж сала без скуры? Хаваліся ў хлявы, баючыся пажару, хаваліся ў лесе, але смалілі саломкай таго кабана, засольвалі ружовае альбо белае, як снег, тоўстае альбо танейшае, але такое патрэбнае сала. Пры Хрушчове зноў здзекі, як тыя ваўкі паролі хлявы і хлеўчыкі фінагенты: дзе тут не ўлічаная галава, што тут яшчэ абкласці падаткам? Пра зямлю ж, з якой толькі і можна выгадаваць жывёлу, і расказваць не хочацца. Пасля калектывізацыі, пасля гвалтоўнага адабрання зямлі савецкая ўлада цыркала ее селяніну па кроплі, трымала яго на кароткім ланцужку.

І ўсё-такі трымаў беларус жывёлу. Прыціснуўшы парсюка, засальваў улетку сала. А мяса часцей за ўсё вёз на кірмаш. Таму і таннымі яны былі, кірмашы шасцідзесятых, сямідзесятых, бо прадаваў вясковец нагадаванае танна, каб мець хоць нейкую капейчыну, каб было за што дзяцей вучыць, у горад ад калгаснага прыгону выслабаніць. Сёння многія шкадаўнікі былых часоў, асабліва чыноўнікі сярэдняй рукі, з настальгічнымі ноткамі ўспамінаюць тыя бласлаўлёныя для іх часы. І сапраўды, для іх было ўсё і ў крамах, і на кірмашы. Іх, чыноўніцкія сярэдняй рукі, зарплаты дазвалялі набыць многае. Але забываюць сённяшнія шкадаўнікі: што іх адносны дабрабыт быў найперш за кошт вёскі. Якая дзесяцігоддзе, а то і больш працавала ў калгасах «за палачкі», задарма. Прыгон дваццатага стагоддзя.

Я ў пачатку сказаў, што быў перыяд, калі сала наша крыху пацяснілі прадукты больш далікатныя. Меў на ўвазе, вядома, гарады і гарадкі, і, вядома ж, сем'і, дзе з'явіўся першы, невялікі дабрабыт. Але хапала беднаты і тады. На абсягах жа імперыі людзі жылі яшчэ горш, найперш таму, што іх даўжэй адвучалі ад штодзённай карпатлівай працы на сябе, дзеля свайго дабрабыту. У самым канцы сямідзесятых выпадкова трапіў я ў групу маладых літаратараў і мастакоў, якая адпраўлялася з агітацыйнай паездкай у Цюменскую вобласць. Туды, дзе пампавалі сёння такую слаўтую нафту. У абкоме камсамола пасля ідэалагічнага інструктажу далі і чалавечую параду: захапіць з сабою боты, «Белавежскую» для прадстаўніцтва і ... сала. Вельмі дарэчы было яно нам у Ханты-Мансійску, Сургуце, Нафтаюганску. Бо ад тых нафтавых даброт ані каліва не ўбачылі мы на абсягах Сібіры. Акрамя венгерскай сушанай бульбы — нічагуткі. Уразіў беларусаў і такі звычны для тубыльцаў факт: на месяц кожны працуючы на нафтараспрацоўках атрымліваў талоны на тры кілаграмы мяса і мясных вырабаў. І атаварваў гэтыя талоны найчасцей толькі напалову. Праўда, аднойчы канчык нафтавага дабрабыту паказаўся нам. У канцы двухтыднёвых вандровак па буравых начальства аднаго з упраўленняў арганізавала для нас пікнік. Вось там пабачылі і фінскі сервелат, і кітайскую тушонку.

Разам з сябрамі-адраджэнцамі таксама часта наракаю на каўбасны падыход да жыцця большасці свайго народа. Але ж падыход гэты не ад бездухоўнасці ці празмернай прыземленасці нашых людзей. Родная дзяржава трымала і трымае іх у такім становішчы, калі праблемы празаічныя, праблемы харчавання набываюць першараднае значэнне. Гэта як у арміі альбо турме. Трапляе туды чалавек ад цывільнага і адносна сытага жыцця, і адразу зусім іншае значэнне для яго набывае той жа кавалак хлеба, драбочак цукру. З поўным правам параўноўваем мы сваё грамадства і з той і з другой.

А між тым ёсць і іншае жыццё. Без сала, без усіх нашых гаротных праблем, без нязводнай скрухі: чым пракарміцца? Гадоў пяць назад трапіў у адно застолле на вёсцы. Сабралася ў хаце калгаснага механізатара, чалавека ўжо пенсійнага ўзросту, але яшчэ дужага, развароплівага і таму па нашых мерках заможнага, шматлікая радня, каб сустрэць брата гэтага механізатара з далёкай Амерыкі. Калі селі за стол, міжволі адзначыў сабе, што сярод гэтых мужчын прыкладна аднаго ўзросту амерыканца вызначыў бы і сам. Нязношаны, дагледжаны мужчына яўна выйграваў на фоне сваіх паплямленых жыццём сваякоў. Ну а стол быў выдатны! Гаспадыня не вызначалася празмернай фантазіяй у рыхтаванні гарачых страў. Ну а катлеты нейкія вясковыя, галубцы, белая, як снег, бульба. Затое шчодра накроена было і кумпяка, і паляндвіцы, і каўбас некалькіх гатункаў, і падбрушша вэнджанага... Не буду засмучаць далейшым пералікам.

Недзе праз тыдзень сустрэў выпадкова таго механізатара.

— Як жа госць маецца?

— А мой жа ты сынок, ультыматум нам паставіў. Мы ж яму ад шчырага сэрца, чым багатыя. Кабаноў жа тых трымаем, ёсць што есці. А ён: «Каб болей мне ваша мяса і не пхалі, не буду катэгарычна. А не, дык з'еду да другога брата». Бачыш ты, шкодна, па-ягонаму, мяса есці.

Я пасмяяўся яшчэ і таму, што ўспомніў расказ гэтага амерыканца пра свае жыццё. Сапраўды, супермаркет у яго пад бокам. А ў тым супермаркеце любая гародніна і любая садавіна чакаюць яго зацікаўленага позірку **круглы год**. Прычым, найбольш істотна тут тое, што пенсія амерыканскага старога чалавека дазваляе нават не задумацца пра кошт гэтай садавіны і гародніны.

Неяк давялося прачытаць, што медыкі, якія ўсур'ёз займаюцца праблемамі харчавання, у роспачы, мы ядзім такое і столькі, асабліва калі гаварыць аб тлушчы, што ўпару ставіць дыягназ аб атручваннях. Не ведаю, як там з атручваннямі, а што празмерна наш чалавек налягае на тлустае, на сала — дык гэта ад беднасці, панове, ад звычайнай беднасці.

Мая запаветная мара, што гадоў гэтак праз дваццаць прыедзе нейкі амерыканскі госць у нашу вёску — і сустрэнуць яго свабодныя і светлыя духам сваякі, ля прыгожай, з усімі выгодамі хаты, на сваёй, ні ў кога не пазычанай зямлі. І на стале ў гэтай хаце будзе чым паласавацца госцю, нават калі ён поўны вегетарыянец. І не пра бананы ды апельсіны тут гаворка, а пра тое, чым можа быць багаты наш сад, гарод, лес ды поле.

Ну а я ціхенька адзаву гаспадара ўбок і папрашу: «Мілы мой, нешта захацелася кавалачак звычайнага сала, каб з цыбулькай ды яшчэ з нечым. Ці будзе ў цябе што ў старым кубле?» У яго абавязкова будзе.

**Алесь КАСЦЕНЬ**

*г. Паставы*




*Мал. Л. РАЗЛАДАВА*




ЗАСНАВАЛЬНІКІ:

**САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ І МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

**ГАЗЕТУ РЭДАГАВАЛІ:**

Х.ДУНЕЦ (1932-35)
І.ГУРСКІ (1935-41)
А.КУЛЯШОЎ (1945-46)
М.ГОРЦАЎ (1947-49)
П.КАВАЛЁЎ (1949-50)
В.ВІТКА (1951-57)
М.ТКАЧОЎ (1957-59)
Я.ШАРАХОЎСКІ (1959-61)
Н.ПАШКЕВІЧ (1961-69)
Л.ПРОКША (1969-72)
Х.ЖЫЧКА (1972-76)
А.АСІПЕНКА (1976-80)
А.ЖУК (1980-86)
А.ВЯРЦІНСКІ (1986-90)

**Галоўны рэдактар Мікола ГІЛЬ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ, Андрэй ГАНЧАРОЎ (першы намеснік галоўнага рэдактара), Юрась ЗАЛОСКА, Міхась ЗАМСКІ, Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ, Барыс ПЯТРОВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), Юрась СВІРКА**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.**

Тэлефоны: прыёмная рэдакцыі -- 33-24-61; намеснікі галоўнага рэдактара -- 33-25-25; 33-19-85; аддзелы: публіцыстыкі -- 33-25-25, пісьмаў і грамадскай думкі -- 33-19-85, літаратурнага жыцця -- 33-24-62, крытыкі і бібліяграфіі -- 33-22-04, паэзіі і прозы -- 33-22-04, музыкі -- 33-21-53, тэатра, кіно і тэлебачання -- 33-21-53, выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў -- 33-24-62, навін -- 33-19-85, мастацкага афармлення -- 33-24-62; фотакарэспандэнт -- 33-24-62; бухгалтэрыя -- 26-86-40.

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ". Рукапісаў рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*

*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з думкамі і меркаваннямі аўтараў публікацый.*

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку"

Індэкс 63856. Тыраж 15.000.
Нумар падпісаны 20.05.1993 г.

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12